Мікола Нікановіч, Клім Грыневіч, Віктар Казлоўскі, Змітрок Астапенка. Калі ў заключэнне вечарыны выступіў наш галоўнакамандуючы — Сяргей Дарожны — і прачытаў свой верш «Белымі пялёсткамі», зала грымела. Апладысменты не змаўкалі, яго прасілі чытаць і чытаць». А паслухаць моладзі тады было што. І такое яна любіла:

Пасінела неба раніцой над гаем,
Пасінела рана —
Скрозь.
А сягоння любая у мяне другая,
Ў залатым убранні,
Ля бяроз…

Вельмі папулярнай у 1930-я гады была на Беларусі песня Сяргея Дарожнага «Нявеста». Яна амаль штодня гучала па радыё, яе спявалі многія беларускія хары…

Рыхтаваўся да друку і чацвёрты зборнік вершаў паэта са Слоніма, але выйсці не паспеў. Сяргей Дарожны назаўсёды застаўся 34-гадовым у далёкай расейскай глыбінцы, многа чаго не дагаварыўшы ў сваіх песнях. Яго асабовая справа № 9935-С знаходзіцца ў архіве КДБ Беларусі за сямю пячацямі.

## Яны больш ніколі не сустрэліся

Летам 2013 года грамадскі актывіст з Гродна Аляксандр Талерчык перадаў мне некалькі пісем беларускага грамадскага і царкоўнага дзеяча на эміграцыі Аляксандра Асіпчыка (1909–1990). «Аляксандр Асіпчык быў жанаты з маёй роднай цёткай Верай Селівончык з вёскі Парэчча Слонімскага раёна. Але вайна і сталінскія рэпрэсіі назаўсёды іх разлучылі. У 1960–1970-я гады я перапісваўся з Аляксандрам Асіпчыкам, які тады жыў у Саўт-Рыверы ў ЗША. Ён вельмі хацеў вярнуцца на Беларусь, моцна сумаваў і ўспамінаў Бацькаўшчыну. Напішы пра іх лёс», — параіў Аляксандр Сямёнавіч.



*Аляксандр Асіпчык*



Сам Аляксандр Талерчык таксама родам з вёскі Парэчча. Пра сваю родную вёску ён нават напісаў кнігу, дзе вельмі добра апісаў паўстанне 1830–1831 гадоў пад кіраўніцтвам Міхала Валовіча. Таму не паслухаць свайго земляка я не мог. Тым больш, што шмат гадоў збіраў звесткі пра таго ж Аляксандра Асіпчыка.

### З біяграфіі Аляксандра Асіпчыка

Аляксандр Асіпчык нарадзіўся 1 красавіка 1909 года ў вёсцы Пляшкі (цяпер вёска Партызанаўка. — С. Ч.) Слонімскага павета ў сялянскай сям'і Восіпа і Паўліны Асіпчыкаў. Перад пачаткам Першай сусветнай вайны іх сям'ю, як і многіх беларускіх вяскоўцаў, рускія казакі гвалтам выганялі ў Расію. Казакі палілі хаты і хлявы, запалохвалі беларусаў, пагражалі ім, нават некаторых забівалі, каб толькі іх з Беларусі адправіць у бежанства на ўсход.

У лістападзе 1915 года сям'ю Асіпчыкаў, як і многіх беларусаў, таксама пагрузілі ў вагон і адправілі ў Астрахань. Аляксандр Асіпчык у сваёй «Праўдзівай даведцы» (Запісы. Нью-Ёрк; Мінск, 2011. С. 265) прыгадваў: «Сям'я была досыць вялікая: сем асобаў. Таму едучы дарогай, яшчэ разам, бацька мой начаваў пад возам, а пры частых дажджах прастудзіўся на лёгкія і пасля пяці гадоў памёр ад сухотаў у Чэлябінскай губерні. У хуткім часе яшчэ памерлі дзве мае сястры. Я застаўся з маткай і дзвюма сёстрамі…».

У бежанстве жылося няпроста. Але Аляксандр хадзіў у школу. Скончыў там чатыры класы. Неяк валасны камісар паклікаў усіх бежанцаў і сказаў, што, хто хоча вяртацца на Радзіму, можа збірацца ў дарогу, бо вайна скончылася. Сабраліся дамоў і Асіпчыкі. Праўда, старэйшая сястра засталася, бо выйшла там замуж. Таму дамоў паехалі Аляксандр, яго малодшая сястра і маці. Паехалі цягніком праз Чэлябінск, Екацерынбург, Самару, Смаленск, Мінск, Слонім. Пакуль заехалі да Беларусі, усё распрадалі за хлеб. Неяк іх эшалон спыніўся на тры дні ў Пензе. Маці выйшла пашукаць якой-небудзь стравы, а цягнік з бежанцамі перагналі на другую станцыю. Маці, спалохаўшыся, некалькі дзён шукала дзяцей. Яна за гэты час згала-

далася і замерзла. Калі прыйшла ў вагон, у яе паднялася тэмпература. У Смаленску Паўліны Асіпчык не стала.

У Слонім Аляксандр Асіпчык з сястрой прыехалі ў сакавіку 1922 года. Іх забраў Чырвоны Крыж у прытулак Жыровіцкага манастыра. Адтуль іх перавялі ў Варшаву, а потым — у Чанстахова. Там дзяцей апранулі, кармілі і вучылі польскай мове. Летам Аляксандр Асіпчык трапіў у вёску Дварэц (цяпер гэта Дзятлаўскі раён. — С. Ч.). У Дварцы адкрылі рамесную школу, дзе Аляксандр вучыўся сталярству. А вясною 1930 года, атрымаўшы дыплом, юнак пайшоў у жыццё самастойна зарабляць на хлеб. Але хутка яго забіраюць у польскае войска ў чацвёрты полк лётчыкаў у Торунь.

Пасля службы Аляксандр Асіпчык пэўны час жыў у Вільні, потым у Лідзе. А ў 1940 годзе прыехаў на родную Слонімшчыну. Працаваў настаўнікам у вёсцы Акунінава. А за зробленыя грошы купіў у Слоніме пляц. І з роднай вёскі Пляшкі перавёз свой дом у горад.

## Вера Селівончык

Яна паходзіла з беларускай сям'і, усе яе продкі займаліся сельскай гаспадаркай. З інвентару жыхароў вёскі Парэчча Слонімскага павета вядома, што Цімафей Селівончык жыў у сярэдзіне XVII стагоддзя, затым быў Селівончык Лявон (нарадзіўся ў 1796 годзе), потым Варфаламей (нарадзіўся ў 1818 годзе), затым Ігнат, а Селівончык Лявон (нарадзіўся ў 1872 годзе, памёр у 1937 годзе) — гэта быў бацька Веры. У яго было чацвёра дзяцей: тры дзяўчынкі — Анюта (1900 года нараджэння), Алёна (1902 года нараджэння), Вера (1905 года нараджэння) і сын Мікалай (1908 года нараджэння). Мелі 4 гектары зямлі. Лявон у 1905 годзе быў мабілізаваны ў расійскую армію і накіраваны на японскую вайну, але з яе хутка вярнуўся здаровым дамоў.



*Вера Селівончык. 1956 г.*



Першая бяда напаткала сям'ю ў 1915 годзе, калі падчас Першай сусветнай вайны расійскія войскі пацярпелі паразу на мазурскіх балотах і пад пагрозай акружэння вымушаны былі пакінуць Варшаву, Беласток, Вільню, Гродна, Слонім, Брэст, Пінск і іншыя гарады. Жыхарам было загадана пакінуць наступаючым немцам бязлюдны ды спустошаны край, праваслаўных жыхароў выгнаць у Расію, а вёскі спаліць…

Спачатку сям'ю Селівончыкаў размясцілі у Разанскай губерні, а потым пераправілі ў Казанскую, дзе яны ў татарскай вёсцы прабылі ўсю вайну. Грамадзянская вайна ды засуха спарадзілі там голад і хваробы. Людзей валіла халера, воспа, чума і сыпны тыф. Вымiралі цэлымі сем'ямі. Надзею на выжыванне дала ў 1921 годзе Рыжская дамова, згодна якой беларусам было дазволена вярнуцца дамоў. Выехалі на радзіму позняй восенню і Селівончыкі, ехалі зімою ў халодных таварных вагонах, доўга затрымліваліся на розных станцыях, выменялі ўвесь нажыты скарб на ежу. У дарозе з голаду і хваробы памерла маці.

Горкаю была сустрэча з Парэччам праз сем гадоў блукання па Расіі. Вёска Парэчча месцамі выгарала. Тыя будынкі, якія ўцалелі, засталіся гнісці без стрэхаў, падворкі зараслі крапівою, палі пакрыліся дзірваном і кустамі. Але вёска паступова запаўнялася парадзелымі сем'ямі. Некаторыя дамы не дачакаліся сваіх гаспадароў. Прыехаўшы дамоў з голымі рукамі, першыя гады сяляне жылі ў страшэннай галечы. Каб не памерці з голаду, Вера Селівончык нанялася гаспадыняй у дом кіраўніка аднаго са слонімскіх банкаў.

Спрытная, працавітая, вельмі сумленная вясковая дзяўчынка спадабалася гаспадарам. Калі праз некаторы час гэтага кіраўніка перавялі на працу ў Варшаву, ён забраў з сабою і служанку Веру. Пазней у Варшаве ён дапамог ёй паступіць у вячэрнюю школу, дзе Вера вывучылася на модную краўчыху. Яна шчыра развіталася з гаспадарамі, зняла памяшканне, атрымала патэнт і адкрыла свой «жаночы салон». Там яна трымала адну вучаніцу, мела сталых кліентаў і неблагі заробак. Некалькі разоў Вера прыязджала ў Парэчча. Калі моцна захварэў брат Мікалай, яна ўладкавала яго ў дарагую бальніцу, дзе яму павінны былі зрабіць складаную аперацыю. Аперацыя не ўдалася, і Мікалай

застаўся калекам на ўсё жыццё: адна нага бяздзейнічала, таму ён мог хадзіць толькі на мыліцах.

Брат Мікалай меў добры слых. А каб неяк згладзіць яго нялёгкае становішча, Вера купіла яму скрыпку. Хутка ён стаў запатрабаваным на вёсцы музыкам. На жаль, на вёсцы хутка знайшоўся злодзей, які ўкраў гэтую скрыпку. Тым не менш, Вера ўсё жыццё апекавала свайго роднага брата.

Наладжанае жыццё Веры Селівончык у Варшаве парушыла нямецка-савецкая вайна з Польшчаю ў верасні 1939 года. Калі Варшаву занялі немцы, Вера вырашыла яе пакінуць і вярнуцца ў Парэчча. Наняла фурманку, пагрузіла на яе сваю швейную машыну, мадэльныя часопісы, астатні скарб і рушыла ў дарогу. Некалькі разоў мяняла фурманкі, але ўсё ж дабралася да мяжы, пераехала яе і прыехала ў Парэчча, дзе ўжо былі бальшавікі. Пасялілася ў бацькавай хаце, дзе жыла Анюта з Мікалаем. Зарабляла тым, што шыла вясковым дзяўчатам адзенне. З'явілася шмат заказаў. У старой бацькоўскай цёмнай хаце з малымі акенцамі стала цяжка працаваць. І тады Вера перабралася да сястры ў новую светлую хату з вялікімі вокнамі, якую тры гады назад пабудавалі. Акупацыйная Заходняя Беларусь тым часам паступова саветызавалася і ачышчалася ад «ненадзейных» элементаў. З Баранавіцкай вобласці было дэпартавана 16 860 чалавек. У Парэччы да такіх ненадзейных элементаў былі залічаны дзве асобы: Вера Селівончык і Кандрат Талерчык, чалавек, які пры Польшчы працаваў прыёмшчыкам каменняў на пабудове брукаваных дарог.

Ноччу 27 кастрычніка прыехаў «чорны варанок» і адвёз іх у баранавіцкую турму. За незаконны пераход нямецка-савецкай мяжы і антысавецкую агітацыю Вера Селівончык была прыгаворана «особым совещанием» ад 28 мая 1941 года да 5 гадоў зняволення ў паўночных папраўча-працоўных калоніях. Але адпраўка па этапу сарвалася, бо 21 чэрвеня 1941 года пачалася вайна паміж Гітлерам і Сталіным. Праз два дні немцы былі ў Слоніме. І Вера хутка вярнулася ў Парэчча і пачала зноў працаваць краўчыхаю.



## Пад акупацыяй

У верасні 1941 года нямецкімі ўладамі ў Слоніме была створана цывільная адміністрацыя. Для падтрымання парадку былі арганізаваны гарадская і павятовая ўправы, якія мелі ў сваім падпарадкаванні мясцовую дапаможную паліцыю. Усё грамадскае і культурніцкае жыццё было аддадзена ў рукі гэтых упраў, а палітычная дзейнасць забаранялася. Паўсюль адкрываліся школы. Быў дадзены загад, каб усе дзеці ва ўзросце ад 7 да 14 год вучыліся ў школах. Мовай навучання была беларуская. У Слоніме дзейнічала беларуская настаўніцкая семінарыя, прагімназія і дзве школы. Ужо ў 1942 годзе ў Слонімскай акрузе было адкрыта 217 беларускіх школ, працавала 495 настаўнікаў, вучылася 25 380 вучняў.

Аляксандру Асіпчыку было даручана ў верасні 1942 года адкрыць у Слоніме рамесную школу, дзе вучылі кравецкай справе дзяўчат і хлопцаў. Апрача таго, хлопцы маглі вучыцца на кавалёў, слесараў, шаўцоў абутку і кіроўцаў аўтамабілямі. Сам Аляксандр Асіпчык выкладаў гісторыю і геаграфію Беларусі.

У акупіраваным немцамі Слоніме ён штогод вывешваў на 25 Сакавіка бела-чырвона-белыя сцягі на брамах цэркваў і касцёлаў, на Народным доме, а на магіле палеглых жаўнераў Беларускай Краёвай Абароны паставіў крыж Ярылы. «Усё гэта была мая ініцыятыва. Калі БЦР выслугоўвалася немцам, мне прыходзілася вучыць босых жаўнераў БКА гісторыі і геаграфіі, каб спярша навучыць, а пазней вымагаць абавязкаў свядомасці», — пісаў у сваёй біяграфіі Аляксандр Асіпчык. У 1942 годзе ён прымаў удзел ва Усебеларускім Царкоўным Саборы, каб абвясціць незалежнасць Беларускай праваслаўнай царквы і прыняць Статут, якім павінна кіравацца царква ў сваёй самастойнай дзейнасці…

У якасці інструктара па кравецкай справе была запрошана ў рамесную школу і Вера Селівончык. Там яны пазнаёміліся і пакахалі адзін аднаго. Вясною 1942 года Аляксандр Асіпчык ажаніўся з Верай Селівончык.

У Слоніме падчас акупацыі Аляксандр Асіпчык быў актыўным дзеячам беларускага культурна-асветніцкага жыцця. Апрача працы ў рамеснай школе ён быў дырэктарам бібліятэкі і Народнага дома,

дзе праходзілі ўсе важнейшыя мерапрыемствы горада і ставіліся беларускія спектаклі. Ён вёў заняткі па гісторыі і геаграфіі з вайскоўцамі, якія былі прызваныя служыць у Беларускую краёвую абарону, арганізоўваў выставы, сустрэчы. Ва ўсім яму дапамагала Вера. Яна шыла беларускія сцягі, нарукаўныя павязкі. Вязень сталінскіх лагераў Надзея Дземідовіч у адным з пісем да аўтара гэтых радкоў прыгадвае: «Алесь Асіпчык гадаваўся ў дзіцячым доме, умеў прыгожа вышываць, вязаў карункі ды рабіў розныя рэчы з саломкі і дрэва. Адным словам, быў сапраўдным майстрам на ўсе рукі, а тады, як і цяпер, гэта вельмі цанілася. І Асіпчык перадаваў свае веды беларускай моладзі, якая трымалася любых навучальных устаноў, каб толькі ў Нямеччыну не забралі. Алесь Асіпчык быў жанаты, ягоная жонка Вера ў той жа школе выкладала кравецкую справу (вучыла шыць вопратку)».

Аляксандр Асіпчык часта наладжваў у Слоніме розныя выставы народнага мастацтва слонімскіх вёсак. Вялікая выстава вышыванак, напрыклад, была адкрыта ў пачатку красавіка 1944 года; найбольш яркімі і арыгінальнымі на ёй былі вышываныя кашулі Аляксандра Асіпчыка і Веры Селівончык. Нават немцы іх куплялі. Пазней на эміграцыі Аляксандр Асіпчык напіша пра акупацыю роднага горада ўспаміны «Мая Слонімшчына» і пад псеўданімам А. Слонімскі апублікуе ў дадатку «Думкі й погляды» часопіса «Беларускі Сьвет» (ЗША) у 1986 годзе.

З Аляксандрам Асіпчыкам быў асабіста знаёмы і Аляксандр Талерчык. А пазнаёміўся ён з ім восенню 1943 года ў Слоніме. «Я ў тым годзе закончыў тры класы Парэцкай беларускай школы. На Слонімшчыне пачалі дзейнічаць партызаны, якія спалілі народны дом і школу ў Парэччы. Мае бацькі аддалі тады мяне вучыцца ў Слонімскую беларускую школу, якая знаходзілася на Студэнцкай вуліцы. Калі было цёпла і недажджліва, я хадзіў у школу з дому, а зімою жыў у цёткі Веры. Там адбылося маё больш глыбокае знаёмства з гэтай сям'ёй. Дзяцей у іх не было. Яны ўжо атрымалі новую кватэру, якая знаходзілася на правым баку Паркавай вуліцы (цяпер Пушкінская вуліца). Гэта быў двухкватэрны дом, у якім палавіну займаў Асіпчык, а палавіну — іншая сям'я. Уваход быў з надворку. Каля дома знаходзіўся добры хлеў, дзе гаспадары трымалі свіней і курэй. Меўся неблагі агарод…», — успамінае Аляксандр Талерчык.



## Эвакуацыя і новы арышт

Калі савецкія войскі пачалі набліжацца да Слоніма, Аляксандр Асіпчык вырашыў эвакуіравацца ў Нямеччыну, бо добра ведаў, што бальшавікі яго пасадзяць. Ён прапаноўваў Веры разам уцякаць, але яна адмовілася, бо трэба было даглядаць брата-інваліда, тут былі яе ўсе родныя і блізкія людзі, таму ехаць на Захад не было сэнсу. А яшчэ Вера Селівончык была ўпэўнена, што ніхто яе больш чапаць не будзе, бо яна нічога дрэннага не рабіла, а вучыла дзяцей шыць. Тады Аляксандр Асіпчык запрог каня, сеў і паехаў у бок Польшчы, развітаўшыся з каханым чалавекам, сябрамі і радзімай.

Слонім быў заняты савецкімі войскамі 10 ліпеня 1944 года, горад страшна згарэў. Пажарам быў знішчаны дом Асіпчыкаў і хлеў з парасятамі. Тады Вера перабралася жыць у Парэчча. Жыла заробкамі ад пашыву адзення. Але ўжо 27 верасня 1944 года да яе прыехаў карны «чорны воран», жанчыну арыштавалі і адвезлі ў баранавіцкую турму. Якое было здзіўленне Веры Селівончык, калі следчым па яе справе быў прызначаны той самы Іваноў, які дапытваў яе ў 1940 годзе. Вясковай жанчыне было пастаўлена ў віну, што яна не адбыла ранейшае пяцігадовае пакаранне, якое было прызначана ёй у 1940 годзе, а таксама дабаўлены тэрмін за супрацоўніцтва з немцамі. Вера не падпісала пратакол допытаў аб супрацоўніцтве з немцамі, але згодна арт. 63-1 УК БССР за «предательство» яе засудзілі на 10 гадоў з адбыццём пакарання на Калыме. «Балюча да слёз было слухаць успаміны цёткі Веры пра тыя жахлівыя ўмовы, у якіх ёй прыйшлося прайсці на катарзе. Спачатку яе адправілі на лесапавал будаваць нейкае паселішча для шахцёраў. Затым яна працавала на шахце, дзе ўручную кайлом дзяўбла касцярыт (свінцовая ці алавяная руда). Апошнія некалькі гадоў працавала па вырошчванні агародніны ва ўмовах кароткага палярнага лета. Дазвалялася пісаць два пісьмы і атрымліваць адну пасылку ў год. Заўсёды мы ёй пасылалі сала і часнок. У цяжкіх лагерных умовах выжывала дзякуючы рацыянальнаму складу розуму, працавітасці і кемлівасці. На лесапавалах збірала ягады, хвою, лісце лекавых раслінаў і гэтым ратавалася ад цынгі. Там вельмі неабходным было заўсёды мець з сабою некалькі пар пажадана шарсцяных альбо з любых нітак шкарпэткаў. Мокрыя ногі вялі да абмаражэння і

смерці. Цётка раскручвала на ніткі любую тканіну, якая пападала на вочы, і змайстраваным адметным кручком вязала гэтыя шкарпэткі ці панчохі. Карысталася сама і давала катаржанам, якія дзяліліся з ёю харчамі. На цяжкай шахцёрскай працы выкройвала дзясяткі хвілін, каб паспаць у абедзенны перапынак: яна за некалькі хвілін праглынала абед, а затым ссоўвалася пад стол і там засынала», — расказаў пра сваю цётку Аляксандр Талерчык.

Пасля адбыцця на катарзе 12 гадоў Вера Селівончык 26 лютага 1956 года была рэабілітавана Вярхоўным судом СССР. Ёй залічылі гады ссылкі ў працоўны стаж на Поўначы. Але патрэба было да льготнай пенсіі адпрацаваць там яшчэ тры гады. І Вера там засталася. А калі атрымала пенсію, яна вярнулася на Бацькаўшчыну. Жыць не было дзе, таму жанчына прыехала ў Парэчча ў старую бацькоўскую хату. Яна па-ранейшаму заставалася энергічнай, мужнай і працавітай жанчынай. А праз пэўны час Вера Селівончык устанавіла кантакты з Аляксандрам Асіпчыкам, які жыў у Амерыцы, і пачала з ім ліставацца.

## На эміграцыі

Пра жыццё на эміграцыі Аляксандр Асіпчык распавядаць і апісваць не вельмі любіў, хаця пражыў там 46 гадоў.

З Беларусі ён неяк дабраўся да Германіі. Там далучыўся да беларусаў. Шмат працаваў фізічна, матэрыяльна падтрымліваў беларускіх скаўтаў у горадзе Рэгенсбург.

5 мая 1946 года ў Рэгенсбургу адбыўся Першы з’езд праваслаўных беларусаў з амерыканскай, англійскай і французскай зонаў Германіі. Яго арганізавала ініцыятыўная група беларускага царкоўнага актыву, куды ўвайшлі М. Лапіцкі, Ю. Віцьбіч, М. Ігнатовіч, Хв. Шыбут, І. Касяк, Н. Арсеннева, М. Сяднёў і Аляксандр Асіпчык. Напачатку апошні з іх шчыльна супрацоўнічаў з беларускімі епіскапамі, а пасля пераходу іх у склад Рускай замежнай праваслаўнай царквы ў 1946 годзе стаў іх ворагам. А праз год, у 1947 годзе, Аляксандр Асіпчык у Германіі арганізуе Беларускае Жыровіцкае праваслаўнае брацтва. Галоўнымі задачамі брацтва былі захаванне догмаў, традыцый і хрысціянскай дабрадзейнасці святой праваслаўнай веры, маральная і асветная дапамога сваім суродзічам на чужыне, апекаванне царкоўным жыццём, выданне рэлігійнай літаратуры на беларускай мове, вернасць Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царкве.



У 1947 годзе ў Баварыі Аляксандр Асіпчык выдаў сваю кніжку «Цудатворны абраз Жыровіцкае Божае Маці і Жыровіцкі манастыр», а таксама сам яе аформіў.

У 1950 годзе спадар Асіпчык выехаў у ЗША, жыў у Нью-Ёрку, потым у Таронта ў Канадзе, затым жыў і працаваў у Чыкага, Кліўлендзе, выдаваў на чужыне часопіс «Сіла веры» (1948–1965). Сам шмат друкаваўся пад псеўданімамі Асіповіч-Асіпчык, Зьніч, Слонімскі А., пад крыптанімам А-віч у эміграцыйных «Беларускім праваслаўным календары — 1968», газетах «Бацькаўшчына», «Беларус» і іншых выданнях. Зора Кіпель у сваёй кнізе ўспамінаў «Дніаднаго жыцця» (Мінск, 2010. С. 617) прыгадвае: «Беларускі актывіст Аляксандр Асіпчык наш добры знаёмы з Нямеччыны з 1946–1948 гадоў. Блізка супрацоўнічаў з кліўлендскім культурным цэнтрам “Полацк”, даў на яго добрую суму грошай». А вось дзённікавыя запісы з гэтай жа самай кнігі: «Пабылі там крыху і паехалі да Асіпчыка. Асіпчык даў на Полацк 800 даляраў і на Інстытут 200»…

Апошнія гады жыцця Аляксандр Асіпчык правёў у г. Джэксан у штаце Нью-Ёрк (ЗША), дзе памёр 14 сакавіка 1990 года. Яго пахавалі там жа на мясцовых могілках «Фармы РООВА».

## Перапіска

З лістоў Аляксандра Асіпчыка Вера Селівончык даведалася, як ён жыве далёка ад Бацькаўшчыны. Яна з радасцю ўспрыняла тое, што яе любы чалавек далёка за акіянам заснаваў Беларускае Жыровіцкае праваслаўнае брацтва. А Вера адначасова ў Беларусі ахвяруе на той час даволі вялікія грошы на Жыровіцкі манастыр. Па просьбе Асіпчыка яна наведвае на Беларусі родных і знаёмых людзей, якія знаходзяцца разам з ім у Амерыцы на эміграцыі. Жанчына адведала сясцёр паэта Сяргея Новіка-Пеюна ў Слоніме, некалькі разоў ездзіла ў Мінск да паэта, вязня сталінскіх лагераў.

Асіпчык вельмі цікавіўся гістарычнымі помнікамі, таму Вера Селівончык і сям’я Талерчыкаў выпісвалі часопіс «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» і перасылалі яму. Па яго просьбе дасылаліся ў Амерыку і Канаду кнігі па беларускай архітэктуры Уладзіміра Чан-

турыя, а таксама кнігі Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Шамякіна. Разам з гэтым Вера Селівончык наведвала сваіх сяброvак па катарзе. Яна хадайнічала перад слонімскімі ўладамі, каб вярнулі ёй канфіскаваную маёмасць і перадалі дом, які пабудаваў яе муж Аляксандр Асіпчык у Слоніме на вуліцы 17 Верасня. Але яе высілкі былі марныя, дом ёй не вярнулі, а толькі далі аднапакаёвую кватэру ў Слоніме па Ружанскай вуліцы.

Вера Селівончык была мужнай і фізічна здаровай жанчынай. Яна нікога не баялася і амаль ніколі не хварэла. А калі здаралася прастуда ці якія болі ў касцях, яна мела кніжку нямецкага лекара Кнейпа «Водалячэнне» і карысталася яго парадамі і травамі. Напрыклад, грып ці прастуду жанчына лячыла наступным чынам: намочвала льняную прасціну ў халодную ваду, яе голую (у трусах) заварочвалі ў гэтую прасціну, давалі адвар ліпавых кветак ці ліпавага мёду, затым, каб не намачыць ложак, заварочвалі ў цырату, накрывалі коўдраю, і яна ляжала да таго часу, пакуль не спацее. Паважала лячэнне зёлкамі, якія сама збірала. Вяла вельмі актыўнае жыццё, а таксама ўсім людзям дапамагала.

Веры Селівончык не стала ў 1984 годзе. Яе пахавалі ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна на мясцовых могілках.

Летам 2013 года я разам з родным пляменнікам Веры Селівончык Аляксандрам Талерчыкам пабывалі на могілках у Парэччы і адведалі магілу Веры Селівончык. Ужо пахіліўся яе надмагільны помнік, амаль зраўнялася з зямлёй яе магіла. «Якой яна была мужнай жанчынай, беларускай, калі б ты толькі ведаў. На вялікі жаль, ёй і Аляксандру Асіпчыку ў жыцці ніколі больш сустрэцца не ўдалося. А так яны хацелі», — уздыхнуў Аляксандр Сямёнавіч.

З вясковых могілак мы паехалі ў Слонім і заказалі новы і дарагі помнік Веры Селівончык.

Калі развіталіся з Аляксандрам Талерчыкам, ён дастаў з сумкі стосік старых пісем і сказаў: «Гэта некалькі лістоў з Амерыкі ад Аляксандра Асіпчыка, якія зберагліся. Ён пісаў мне ў 1960–1970-х гадах. Няхай будуць у цябе, можа калі спатрэбяцца…».



## З лістоў Аляксандра Асіпчыка да Аляксандра Талерчыка

Дарагі Шура! Дзякую табе за пісьмо, якое яшчэ атрымаў па старым адрасе. Цяпер я жыву па іншым і падаю яго ўсім вам ніжэй. Прашу перадаць адрас новы і Веры… Цешуся, што так прыгожа ты пішаш і разумна разважаеш пра жыццё, людзей. О, каб мы жылі разам… Я б быў вам шмат у чым памочнікам, любіў бы вашых дзетак, як любіў некалі цябе, Шура, калі ты быў маленькім і ціхенькім хлопчыкам… Але мая доля іншая — і як бачыш, больш гадоў свайго жыцця я адбываю на чужыне: 7 гадоў ад 1915–1922 гг. — у Сібіры, а цяпер — у Амерыцы…

*Аляксандр А. 31 кастрычніка 1967 года.*

Дарагі і мілы Шура! З прыемнасцю чытаю твае пісьмы, прыглядаюся да кожнай літары і слова. Як мудра і прыгожа ты пішаш па-беларуску!.. Чытаю я тут і польскія, і ўкраінскія кніжкі. Час ад часу ў газетах знаходжу некаторыя звесткі і пра Гродна, чытаю аб тым, як прыязджаў польскі тэатр і беларусы з Беластока. Мне прысылаюць беларускую газету «Голас Радзімы»… Перад гэтым пісьмом я напісаў Веры ў Слонім, бо яна пісала, што хутка будзе там. Пісала яна і аб паховінах Язэпа Стаброўскага (заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея. — *С. Ч.*). Вельмі хочацца прачытаць штось пра Слонім, але пра яго нідзе ніхто не піша… Дзякую табе за Буквары, за геаграфію і гісторыю Беларусі. Я вельмі цікаўлюся картамі Беларусі. Часта іх разглядаю і ўспамінаю, дзе я быў, а дзе ніколі не быў…

*Аляксандр А. 5 сакавіка 1968 года.*

Мілы і дарагі Шура! Толькі што збіраўся падзякаваць табе за кнігі. Перадусім выяўляю сваю радасць, што маю такіх прыяцеляў на Беларусі, праз якіх маю так шмат прыемнасцяў і шчырага задавальнення, што я яшчэ не зусім адзін, а нехта думае пра мяне, як я аб усім тым, што мінула і што далёка ад мяне… Я вельмі ўдзячны і папракаю сёння сябе, што некалі мала меў часу размаўляць з табой, калі ты маленькі прыходзіў да нас, а цяпер ты вельмі аказаўся карысным не толькі для

Беларусі і свае сям’і, але і для мяне няшчаснага… Ну, што ж, можа таму, што тады была вайна?..

*Аляксандр А. 25 чэрвеня 1968 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Шчыра дзякую табе за пісьмо і весткі пра сябе… Прашу цябе выслаць мне кнігу У. Чантурыя «Гісторыя архітэктуры Беларусі». Я вельмі хачу яе мець. Цікава, дзе ты, Шура, цяпер жывеш?.. Я ўзяў карту Беларусі і пачаў разглядаць — з якога боку над Нёманам можа быць сасновы лес, каб уявіць тое месца вуліцы Каліноўскага, і ніяк не здагадаюся: ці з поўначы, ці з поўдня Гродна, бо Нёман плыве пасярэдзіне Гродна, ці на захад над р. Ласосна? Напішы мне, Шура, больш дакладна, бо я хачу ведаць…У 1970 годзе будзе 500 гадоў Жыровічам. І мы тут будзем святкаваць гэты юбілейны год…

*Аляксандр А. 30 верасня 1969 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Дзякую табе за пісьмо і весткі з Беларусі… Маю вось такі вершык:

Час зусім нечакана
Знішчыў шчасны мой лёс,
На Радзіме каханай
Я праліў многа слёз.
І на чужыне не іначай
Сумна мне навакол,
Ці яшчэ я убачу
Цябе, мілы мой двор?
Пазірае мне ў вочы
Гора чорнаю хмарай,
Плачу ўдзень і ўночы
Над разбітаю марай…

*Аляксандр А. 6 кастрычніка 1969 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Я яшчэ жывы і здаровы і маю надзею яшчэ жыць колькі гадоў… Не забывай, дарагі Шура, пра мяне, бо я вельмі часта думаю пра вас і сумую, як так доўга не маю ніякай весткі з Беларусі. Вера таксама ездзіць і не піша так доўга. А я думаю: чаму?.. А на свеце ўсё мяняецца і можа так змяніцца, што я прыеду да вас…Чытаў я таксама, што нейкія кінамайстры ў ваколіцах Слоніма і Жыровічаў здымаюць фільм «Паланэз Агінскага». Вось каб калі гэты фільм пабачыць?!

*Аляксандр А. 4 верасня 1971 года.*



# Жыў роднай песняй

## З Мялькановіч да Лунінца



*Антон Валынчык*

На Беларусі няма ніводнага такога кутка, які б не меў сваіх слаўных сыноў ці дачок, імёны якіх навечна звязаны са сваёй маленькай радзімай. Сярод іх пачэснае месца на Слонімшчыне займае беларускі кампазітар, музыкант, харавы дырыжор, педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі Антон Валынчык (1896–1985), які нарадзіўся ў вёсцы Мялькaнавічы. Сама вёска знаходзіцца недалёка ад Слоніма. Упершыню яна ўпамінаецца ў XVI стагоддзі як сяло, цэнтр Мялькaнавіцкага войтаўства, дзяржаўная ўласнасць у Слонімскім старостве Вялікага Княства Літоўскага.

У 1852 годзе ў Мялькaнавічах было адкрыта народнае вучылішча, якое скончыў бацька Антона Міхась Валынчык. У сям’і Валынчыкаў было некалькі сыноў. Адзін з іх у 1920–1930-х гадах займаўся палітыкай. Польскія ўлады яго арыштавалі і трымалі за кратамі. А калі юнак моцна захварэў на сухоты, выпусцілі на волю, дзе праз некалькі месяцаў ён памёр. Аб гэтым казаў на мітынгу ў Мялькaнавічах у верасні 1939 года сам Міхась Валынчык. «Мне было 9 гадоў. Але я памятаю той мітынг і бацьку Антона Валынчыка — высокага, худога. І памятаю таксама ягоныя словы пра сына», — сказаў неяк пры

сустрэчы мне кандыдат філалагічных навук, перакладчык Уладзімір Сакалоўскі, які таксама родам з Мяльканавіч.

Другі сын Міхася Валынчыка Антон нарадзіўся 23 ліпеня 1896 года ў Мяльканавічах. У 1910 годзе хлопчык скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча. Гэта вучылішча рыхтавала хлопцаў на дзякоў, кіраўнікоў царкоўных хароў і настаўнікаў парафіяльных школ. Спевы і ігра на музычных інструментах былі там на першым месцы. Менавіта ў вучылішчы Антон Валынчык навучыўся добра іграць на скрыпцы.

Пасля заканчэння вучылішча займаўся на двухгадовых настаўніцкіх курсах у Гродне. Там, у горадзе над Нёмнам, ён таксама браў урокі музыкі ў кампазітара Банькоўскага.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, Антон Валынчык быў мабілізаваны на вайну. У вольны ад баёў час малады салдат уладкаваўся яшчэ рэгентам вялікага салдацкага хору рускай арміі.

Калі сын знаходзіўся на фронце, ягоныя бацькі з роднай вёскі Мяльканавічы былі эвакуіраваныя ў Курскую вобласць Расіі. Пасля вайны Антон паехаў да іх, але там яму не спадабалася, і ён хутка вярнуўся на Бацькаўшчыну. З цягам часу дамоў прыехалі і яго бацькі.

Па дарозе на Беларусь Антон спыніўся ў Ветцы і знайшоў працу на будоўлі ў аднаго багатага чалавека. Калі дом пабудавалі, ён вырашыў завітаць у Гомель. Вельмі хацелася хлопцу спяваць. Ідзе па Гомелі і бачыць цэркаўку. Зайшоў туды. Чуе — там спяваюць, але тэнары вельмі слабыя. Вырашыў ім дапамагчы. Непрыкметна зайшоў на клірас. Пасля будоўлі сам — брудны, замучаны. Усе ў царкве сталі на яго пазіраць. А ён як заспяваў!..

Пасля службы да Антона Валынчыка падышлі некалькі святароў і пытаюцца: «Хто ты такі?». «Проста рабочы», — адказвае Антон. Святары не вераць. «Вось мае рабочыя рукі», — паказвае ім юнак. (З аўтабіяграфіі Антона Валынчыка, якая захоўваецца ў музеі гісторыі Клеччыны.)

Яшчэ некалькі хвілін з ім гутарылі святары, але канкрэтных прапаноў ад іх Антону так і не паступіла. Ён зноў вярнуўся ў Ветку. Працаваў там да зімы. А ў адзін з марозных дзён у горад на санях прыехаў святар і забраў Валынчыка ў Гомель. Яго прывезлі ў вялікі горад, напаілі гарбаткай і паклалі спаць. На другі дзень гаспадар кватэры, дзе начаваў Антон, апрануў яго ў свой касцюм і павёў у



галоўнае ўпраўленне таварыства Чырвонага Крыжа. Там хлопец сустракае начальніка цягніка Чырвонага Крыжа, які яго нядаўна вёз са Смаленска ў Гомель. Гэты начальнік запрашае слонімскага юнака на працу статыстам ва ўпраўленне Чырвонага Крыжа. І Антон Валынчык з радасцю пагаджаецца.

Тут ён з цягам часу знаёміцца з харавым дырыжорам Аляксандрам Ягоравым, які пазней стане прафесарам Ленінградскай кансерваторыі. Гэта знаёмства перарасло ў асабістае сяброўства, а работа ў хоры пад кіраўніцтвам Ягорава вельмі шмат дала Валынчыку як музыканту. Цікавыя сустрэчы ў Гомелі адбываюцца ў Валынчыка з кампазітарамі Туранковым, Аляксандравым і іншымі. У іх малады Валынчык вучыцца дырыжыраванню і музыцы ў цэлым.

У 1919 годзе Антон Валынчык вырашыў вярнуцца на родную Слонімшчыну. Але ў раёне Лунінца ён трапляе ў паласу ваенных дзеянняў, якія распачаліся паміж польскімі войскамі і савецкімі. А 10 ліпеня 1919 года Лунінец поўнасцю занялі палякі, і юнак нечакана становіцца грамадзянінам іншай дзяржавы.

Там, у Лунінцы, Валынчык хутка атрымлівае дыплом настаўніка народных вучылішчаў і да 1924 года працуе ў прыватным рускім рэальным вучылішчы настаўнікам.

Лунінецкае прыватнае рускае рэальнае вучылішча да 1917 года было чыгуначнай школай. Але палякі яе зачынілі. Тым не менш, на той час у Лунінцы было шмат рускіх, якія стварылі рускае дабрачыннае таварыства. Гэтае таварыства было даволі актыўным. Яно мела ў Лунінцы сваю бібліятэку, выпісвала рускія газеты і часопісы з іншых краін, актыўна падтрымлівала сувязі з рускімі арганізацыямі ў многіх гарадах Польшчы. Але польскія ўлады перашкаджалі праrускай дзейнасці. І ўсё ж актывісты рускага дабрачыннага таварыства намаганнямі фундатараў ствараюць у Лунінцы рускае прыватнае рэальнае вучылішча, якое польскія ўлады называлі «гняздом бальшавізму». У гэтае «гняздо бальшавізму» трапіў і Антон Валынчык. Ён выкладаў там спевы і адначасова быў рэгентам у мясцовай царкве. Менавіта ў Лунінцы Антон Валынчык пачаў больш сур’ёзна разважаць пра жыццё, Бацькаўшчыну і пра родную мову і культуру. Ён палічыў сваім абавязкам дапамагаць менавіта беларусам, а не рускім, і перш за ўсё беларускай моладзі, актыўна далучацца да свету нацыянальнай

музыкі. І што рабіць гэта трэба на кожным уроку спеваў, на кожнай рэпетыцыі харавых гурткоў для дарослых. Рабіць цярпліва, настойліва і апантана. І ён старанна рабіў, працаваў, шукаў. З Лунінца пачаліся самыя актыўныя гады яго музычна-асветніцкай дзейнасці. Пра яго прафесійную педагагічную і музычную дзейнасць ведалі ўжо многія настаўнікі Заходняй Беларусі. А ў 1924 годзе дырэкцыя Клецкай беларускай гімназіі запрасіла Антона Валынчыка да сябе на працу. І ён пагадзіўся.

## У Клецкай беларускай гімназіі

Клецкая беларуская гімназія была арганізавана і пачала сваю працу ў 1923 годзе ў Нясвіжы. Напачатку былі адчынены 4 класы. Гімназія знаходзілася на Альбянскай вуліцы ў доме Дылеўскіх. Першымі настаўнікамі гімназіі былі Рыгор Якубёнак, Франц Шнаркевіч, Вячаслаў Арэнь, Ганна Малойла.

Але ў Нясвіжы гімназія праіснавала толькі адзін год. У 1924 годзе яна перабралася ў Клецк. Спачатку гімназія знаходзілася ў доме Паповічаў у канцы Нясвіжскай вуліцы. Было адчынена пяць класаў. Дырэктарам гімназіі быў Рыгор Якубёнак. І тыя настаўнікі, якія працавалі ў Нясвіжы, таксама пераехалі ў Клецк, акрамя Шнаркевіча, які падаўся ў Вільню.

У 1926 годзе Рыгору Якубёнку ўдалося наняць памяшканне на Татарскай вуліцы, куды і пераехала гімназія. У ёй пераважна вучылася сялянская моладзь з ваколіцаў Клецка, а таксама вучні з Нясвіжскага, Баранавіцкага, Лунінецкага і Слонімскага паветаў. Невялікую колькасць вучняў складалі дзеці святароў і дзякоў.

Аплата за вучобу ў гімназіі была невялікая. Дый уносілася вучнямі не вельмі рэгулярна, бо вучылася там сялянская бедната. Таму дырэкцыя гімназіі мела вялікія матэрыяльныя клопаты, а настаўнікі-беларусы працавалі ахвярна, зарабляючы часам толькі па 50 злотых у месяц, а гэтых фінансаў хапала толькі на харчаванне і аплату за жыллё. Ахвярна працаваў і дырэктар гімназіі Рыгор Якубёнак. Ён выкладаў у старэйшых класах матэматыку, роднае слова і гімнастыку. Акрамя гэтага знаходзіў час на працу ў сталярцы, дзе сам асабіста рамантаваў вокны, дзверы, парты.



Адносіны паміж вучнямі і настаўнікамі былі ў гімназіі вельмі шчырымі. Гэта была адна сям’я. Вучні вельмі добра разумелі ахвярную працу настаўнікаў. Клецкая беларуская гімназія тады была сапраўднай кузняй беларускага нацыянальнага выхавання.

У гімназіі існавалі літаратурны і драматычны гурткі, хор і аркестр. Тут вельмі часта ладзіліся розныя мерапрыемствы. Асабліва ўрачыста адзначаліся святкаванні 25 Сакавіка — Дзень Беларускай Народнай Рэспублікі. Вось як згадвае пра свята нехта В. К. у газеце «Беларус» за 1964 год: «25-га сакавіка 1929 года. Прыгожае сонечнае надвор’е. У Клецкай беларускай гімназіі вольны дзень ад навукі, але ў пакоі чацвёртага класа кіпіць гарачая праца. Вучні старэйшых класаў прыйшлі ўпрыгожыць залу да ўрачыстай акадэміі. На фронце залы крывіцкая Пагоня заняла сваё пачэснае месца. Паабапал яе два бел-чырвона-белыя сцягі. Пад Пагоняй вялікі надпіс: “Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка!”. Вакол на сценах прыбраныя партрэты беларускіх паэтаў і пісьменнікаў: Купалы, Коласа, Багдановіча, Гаруна, Бядулі і іншых.

Угодкі незалежнасці Беларусі ўрачыста святкаваліся гімназіяй штогод ад пачатку яе заснавання. Але 1929 год адзначаўся асабліва ўрачыста па дзвюх прычынах. Першая — у гэтым годзе рыхтаваўся выпуск 16 васьмікласнікаў, у тым ліку і аўтара гэтых успамінаў. Другая — у той час Клецкая беларуская гімназія мела добры струнны аркестр і надзвычайна моцны і прыгожы хор пад кіраўніцтвам вядомага беларускага дырыгента-кампазітара Антона Валынчыка.

У дзве гадзіны дня пачалася акадэмія. Паміж грамады 180 вучняў прайшоў педагагічны персанал, які заняў месца ў прэзідыуме… Акадэмію адкрыў дырэктар гімназіі Рыгор Якубёнак, які коратка праінфармаваў усіх аб беларускім свяце незалежнасці. Магутны і прыгожы хор выканаў нацыянальны гімн “Не пагаснуць зоркі ў небе…”. Глыбока запалі ў душу моладзі словы “Не загіне край забраны, пакуль будуць людзі”. Пасля гімна дырэктар расказаў аб гістарычных падзеях і Акце 25 Сакавіка.

Пасля ўрачыстай часткі пачаўся канцэрт. Моцна гучаць песні Антона Валынчыка, напісаныя ім у Клецку. Гэта такія песні, як “За праўду”, “Устаньце, хлопцы”, “Не бядуй”, чароўная сваім выкананнем песня “Ліпы старыя” і іншыя. Песні перапляталіся дэкламацыямі

патрыятычных вершаў беларускіх паэтаў. Акадэмія скончылася кароткім словам дырэктара…» (Беларус, 1964. № 84).

У Клецкай беларускай гімназіі Антон Валынчык першым чынам узяўся за арганізацыю хору. І яму гэта ўдалося. Хор налічваў 60 вучняў (Віці. 1957. № 1/10. С. 14).

За тры месяцы працы Валынчыку ўдалося наладзіць у гімназіі першае выступленне хору. Дасканала выкананыя беларускія песні, пераважна самога кампазітара і дырыжора, мелі вялікі поспех. Пры дапамозе хору гімназія праводзіла шырокую нацыянальна-культурную працу як у самім Клецку, так і ў навакольных вёсках. А ў 1928 годзе Антон Валынчык арганізаваў у гімназіі яшчэ і струнны аркестр, які налічваў 50 чалавек. Часта наладжваліся канцэрты, выступленні, гастролі, а грошы папаўнялі пустую касу гімназіі.

Пяцігадовая праца ў Клецкай беларускай гімназіі для Антона Валынчыка была самым шчаслівым перыядам яго жыцця. «У мяне назаўжды ў памяці Клецкая гімназія. Там неяк усё было па-асабліваму, там выкладчыкі і навучэнцы жылі адной сям'ёй — душа ў душу. Якубёнак… гэта быў цудоўны, рэдкі, дзівосны, непараўнаны чалавек, папраўдзе родны бацька дзецям. Ён аддаў ім душу, час, сродкі, усе свае здольнасці, думкі і мары. Я з дзецьмі займаўся хорам, мы ставілі драмы, у гімназіі быў аркестр. Валодзя Гуль — кантрабасіст, актывісты хору — Мароз, Шыдлоўскі… Арэнь Барыс — цудоўны бас, Валя Тычына — альт… Але ў гімназію пастаянна прысылалі паганых інспектараў. Мэтай было закрыццё гімназіі. Памятаю, у 1929 годзе прыслалі з Віленскага куратарыума інспектара Мяноўскага — вельмі гадкага чалавека. Хадзіў на ўрокі, прыдзіраўся да дробязей, даводзіў выкладчыкаў да непрытомнасці. А я даведаўся, што ён украінец… І вечарам мы як далі яму канцэрт на паўгадзіны! Праспявалі і знакамітую “Кобзу” Давыдоўскага, і “Відзьма”. Ну, і беларускія таксама: “Ліпы старыя”, “Касцы” (гэту песню на словы Якуба Коласа называлі па-рознаму: “Касцы”, “Ідуць касцы”, “На сенажаці”) (гэта мае), народных вельмі многа. Ведаеце, “Ліпы старыя” я пісаў у 1927 годзе, калі быў страшна хворы, з высокай тэмпературай, у стане трызнення. Лепшая мая рэч… А наконт Мяноўскага… Мабыць, здолелі мы яго праняць да душы. Ён нават расчуліўся і доўга дзякаваў. І галоўнае — ніякіх дрэнных наступстваў візіту! А наогул у гімназіі спявалі многа, ахвотна. Спявалі і мае: “Як на свет радзіўся Янка”, “Зайшло ўжо сонейка”, “За праўду”, “Устаньце, хлопцы”… Усё ж такі гэта быў цудоўны час…», — прыгадваў у сваіх успамінах Антон Валынчык (Памяць. Клецкі раён: Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Мінск, 1999. С. 205–206).



У пачатку 1990-х гадоў неяк пры сустрэчы запытаўся ў слонімскага паэта Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско) пра Антона Валынчыка. Тым больш, што паэт у канцы 1920-х гадоў вучыўся ў Клецкай беларускай гімназіі. Іван Дарафеевіч, падумаўшы, пагадзіўся мне расказаць пра свае сустрэчы з Антонам Міхайлавічам. «Зіма 1929 года была снежная і марозная, — пачаў успамінаць Анатоль Іверс. — Я паехаў на вучобу ў Клецк. Выйшлі мы з цягніка на станцыі Ляхавічы і, узяўшы з сабой чамаданы, пайшлі шукаць падводу, каб даехаць да Клецка. Селі мы, двое выгнаннікаў з Віленскай беларускай гімназіі (паэт Анатоль Іверс (1912–1999) летам 1926 года паступіў у Віленскую беларускую гімназію, але ў 1928 годзе ён быў выключаны з гімназіі за актыўную камсамольскую падпольную дзейнасць. Вучобу працягваў у Клецкай і Навагрудскай беларускіх гімназіях, але закончыць поўны курс навучання польскія ўлады так і не далі. — *С. Ч.*), у буду, наставілі каўняры і рушылі ў дарогу. У галаву лезлі невясёлыя думкі: як там сустрэнуць, ці прымуць? “Ідзіце на Слабадскую вуліцу, — адказаў дзядзька, — знойдзеце хату Івана Нікановіча, там будзе інтэрнат”. Мы трапілі, як кажуць, з карабля на баль. Гімназісты вельмі ветліва сустрэлі нас, не далі нават як след абагрэцца і павялі на ёлку. У зале пачаўся канцэрт мастацкай самадзейнасці. Хор пад кіраўніцтвам настаўніка спеваў Антона Міхайлавіча Валынчыка выконваў цудоўныя, дагэтуль не чутыя беларускія песні “За праўду, за шчасце”, “Як на свет радзіўся Янка” Янкі Купалы, “Ліпы старыя” на словы Якуба Коласа, “Я люблю густыя шумы”, “Вечарам” на словы Уладзіміра Жылкі і іншыя. Гэтыя песні мяне тады заваражылі. Колькі ў іх было душэўнай прыгажосці! Але тады я яшчэ не ведаў, што музыку да вершаў беларускіх паэтаў напісаў Антон Міхайлавіч. І не ведаў таго, што ён быў маім земляком з вёскі Мялькнавічы Слонімскага павета.

Другая сустрэча з Антонам Валынчыкам адбылася ў мяне ў Гродне. Будучы аднойчы там, захацелася мне наведаць земляка. Пастукаў у

дзверы Гродзенскага педінстытута, на якіх красавалася дошчачка з надпісам “Кафедра музыкі і спеваў”.

— Заходзь, заходзь! — пачуўся знаёмы голас.

Прывітаўшыся, я пажартаваў:

— Хачу ўзяць інтэрв’ю.

— Можна, можна. — І Антон Міхайлавіч расказаў аб сваёй працы…

З яго слоў я даведаўся, што кампазітар напісаў музыку да многіх вершаў беларускіх паэтаў і найбольш — на тэксты Янкі Купалы і Якуба Коласа. Сабраў і апрацаваў тады каля пяцідзесяці беларускіх народных песень. А Ленінградскі завод запісаў на пласцінкі ў выкананні беларускай Дзяржаўнай капэлы яго песні “Ліпы старыя»” і “Ідуць касцы”.

Трэцяя сустрэча з маім земляком адбылася ў Мінску, дзе праходзілі дні Гродзенскай вобласці. Ішоў заключны канцэрт. Выступалі ўсё новыя і новыя мастацкія калектывы. І вось на сцэне пачаў выступаць хор гродзенскіх настаўнікаў на чале са сваім кіраўніком. І паліліся песні “Люблю наш край” і “Як на свет радзіўся Янка”. Тыя самыя песні, што давялося чуць у дзяцінстве. Было столькі ў зале апладысментаў, што я ніколі больш у сваім жыцці не чуў, каб каму так апладзіравалі…».

Цёпла і шчыра пра Антона Валынчыка прыгадваў і былы выкладчык беларускай мовы ў малодшых класах Клецкай беларускай гімназіі Аляксей Кішкель. Аб гэтым згадваў у сваіх успамінах заслужаны настаўнік Беларусі Апанас Цыхун: «Амаль кожны дзень мы (маецца на ўвазе Апанас Цыхун і Аляксей Кішкель. — *С. Ч.*) сустракаліся. Кішкель мне вечарамі расказваў пра Клецкую гімназію. Успамінаў настаўнікаў, у тым ліку і Антона Міхайлавіча Валынчыка. Згадваў, у прыватнасці, як кіраваў той вучнёўскім хорам, якім вялікім аўтарытэтам карыстаўся Валынчык сярод беларускага насельніцтва» (Цыхун Апанас. Выкладчыкі Клецкай беларускай гімназіі // Наша слова. 1994. № 26).

У 1929 годзе Антон Валынчык развітаўся з калектывам Клецкай беларускай гімназіі і пераехаў у Навагрудак.



## Праца ў дзвюх гімназіях

Навагрудская беларуская гімназія, куды пасля Клецка прыехаў працаваць Антон Валынчык, існавала з 1919 да 1934 года. Тэрмін навучання ў гімназіі быў 8 гадоў. У ёй выкладаліся беларуская, польская, французская, лацінская, нямецкая мовы, Закон Божы, гісторыя і геаграфія Беларусі і Польшчы, сусветная гісторыя і геаграфія, матэматыка, фізіка, хімія, прыродазнаўства, маляванне, спевы, ручная праца, фізкультура і іншыя прадметы. У сярэдзіне 1920-х гадоў у гімназіі навучалася каля 250 вучняў. Гімназія існавала на сродкі бацькоў, на ахвяраванні грамадскіх арганізацый, на адлічэнні з заробкаў беларускіх паслоў, за кошт вулічных збораў і г. д.

Беларуская гімназія ў Навагрудку мела на мэце падрыхтоўку да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, захаванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці, павышэнне культурнага ўзроўню, павагі да народных звычаяў і традыцый. У гімназіі дзейнічалі самадзейныя харавы, вакальны, танцавальны, літаратурны, драматычны гурткі, аркестр, спартыўныя секцыі. Вучні выдавалі нават свой часопіс на шапірографе.

Вось там да 1934 года Антон Валынчык выкладаў спевы, а таксама арганізаваў хор і аркестр, бадай ці не самы найлепшы ў Заходняй Беларусі. Пра адзін з канцэртаў у Навагрудскай беларускай гімназіі музыказнаўца Ірэна Здановіч тады пісала: «Праграма была вельмі разнастайная. Разнароднасць песень, пераплеценая з канцэртамі на мандалінах і танцамі, пакінула незнішчальнае ўражанне… Цудоўнай была кампазіцыя Валынчыка “Вечарам”. На гэтую мелодыю я звярнула ўвагу яшчэ намнога раней. Часта, ідучы вечарам дахаты, я з-за муроў беларускай школы слухала выплываючую адтуль сумную, журботную песню глухога вечара, якая раптам ператваралася ў сімфонію птушынага шчэбету, пошуму лісцяў. Спынялася я тады і доўга ўслухоўвалася ў гэтую дзіўную, нязнаную мелодыю» (Чэмер Андрэй. Навагрудская беларуская гімназія. Вільнюс, 1997. С. 26–27).

Не толькі талент Антона Валынчыка цанілі музыказнаўцы. Напрыклад, выкладчык музыкі і спеваў Навагрудскай польскай дзяржаўнай гімназіі імя Адама Міцкевіча прафесар Лозінскі вельмі часта прыводзіў свае класы ў беларускую гімназію, каб паслухаць рэпетыцыі

хору Валынчыка. Дзеці займалі месца на самых апошніх лаўках і ціха сядзелі да канца рэпетыцыі. Прафесар Лозінскі глыбока шанаваў Антона Валынчыка і шчыра пакланяўся яго самабытнаму таленту. А Андрэй Чэмер згадваў: «Кожнаму, хто сустракаўся з Валынчыкам, назаўсёды запомнілася высокая культура і шчырая спагаднасць гэтага чалавека. Яго сонечны характар нагадвае мне дзядзьку Язэпа Драздовіча і Пётру Сергіевіча. Відаць, гэта адметная рыса вялікіх мастацкіх талентаў».

У чэрвені 1934 года польскія ўлады закрылі Навагрудскую беларускую гімназію. Большасць яе вучняў паехалі працягваць вучобу ў Вільню, а іншыя перайшлі вучыцца ў польскую гімназію імя Адама Міцкевіча. Перайшоў на працу ў польскую гімназію і Антон Валынчык. Аб гэтым нават са шкадаваннем пісаў часопіс «Шлях моладзі» (1937. № 1): «Менш, на жаль, маем вестак аб заслужаным працаўніку для беларускай песьні і кампазытару Антоне Валынчыку, вучыцелю беларускай гімназіі ў Навагрудку. Апрача працы пры вядзеньні хору гімназіяльнага і агульнага, А. Валынчык зьяўляецца аўтарам цэлага раду песьняў на словы беларускіх паэтаў, як Колас, Купала, Жылка і г. д. Выступленьні хору і аркестру А. Валынчыка былі ў сваім часе ў Наваградку сапраўднай мастацкай стравай. Над народнай песьняй А. Валынчык не працуе. Апошнім часам, у зьвязку з зачыненьнем беларускай гімназіі ў Наваградку і пераходам А. Валынчыка ў гімназію польскую там жа, творчасць ягоная на ніве беларускай з канешнасьці мусіла агранічыцца. З беларускага пункту гледжаньня вялікая гэта шкода».

Тым не менш, Антон Валынчык ад беларускасці ніколі не адыходзіў. Вядомасць і аўтарытэт яго так выраслі, што таленавітага кампазітара запрасілі ў Вільню праводзіць святы студэнцкіх хароў. Здавалася б, былі ўсе падставы замацавацца ў буйным культурным цэнтры. Але Антон Валынчык выбірае іншы шлях. Сумленне мастака падказвае яму неабходнасць пашыраць свае музычныя веды, і ён уладкоўваецца на вучобу ў Варшаўскую кансерваторыю пры Крамянецкім музычным ліцэі, дзе пад кіраўніцтвам вядомых майстроў Б. Рачкоўскага і К. Сікорскага чатыры гады вывучае «сакрэты» хормайстарскай справы, фальклярыстыку і гармонію.



У лютым 1925 года ў Варшаўскім універсітэце быў адкрыты багаслоўскі праваслаўны факультэт. Вялікае дачыненне да адкрыцця гэтага факультэта меў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Дзіянісій (Канстанцін Валядзінскі). Сам Канстанцін Валядзінскі быў рускім чалавекам, які скончыў Казанскую духоўную акадэмію. У 1924–1948 гадах кіраваў польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквой. Пасля адкрыцця праваслаўнага багаслоўскага факультэта ў Варшаўскім універсітэце быў прафесарам гэтага факультэта.

Аднойчы да Дзіянісія завітаў Антон Валынчык і паказаў яму свае ўласныя царкоўныя музычныя творы з прапановай надрукаваць іх. Уладыка Мітрапаліт, спасылаючыся на тое, што не з'яўляецца спецыялістам у царкоўнай музыцы, адмовіў у просьбе Валынчыку. Пры гэтым Дзіянісій дадаў, што і так маецца шмат добрых царкоўных песнапенняў.

Але беларускі кампазітар і дырыжор не пакрыўдзіўся. Пазней, у першыя пасляваенныя гады, Антон Валынчык будзе выкладаць царкоўныя спевы ў Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Вось толькі дзе падзеліся яго ўсе музычныя царкоўныя творы — пакуль невядома. Барыс Данілюк з ЗША ў лісце да аўтара гэтай кнігі паведаміў неяк, што была інфармацыя аб тым, што частку гэтых твораў нехта выявіў у Вялікабрытаніі.

Вяртаючыся ў Навагрудак, хочацца нагадаць яшчэ адзін выпадак, які згадваў Міхась Шунько — саліст хору Валынчыка: «Восенню 1939 года мы выступалі ў сваёй вёсцы. У праграме канцэрта была песня "Ідуць касцы" Антона Валынчыка на словы Якуба Коласа. Калі выконвалі апошні куплет, харысты нечакана ўзялі ў рукі сярпы і косы, якія загадзя былі падрыхтаваныя, і, падняўшы іх высока над галовамі, з вялікім пад'ёмам праспявалі апошнія радкі:

Касцы, ваякі ціхай працы,
Выходзяць з косамі на пляцы,
І на палоскі верставыя
Кладуцца коскі іх крывыя.

Палякі, якія сядзелі ў зале, атрымалі шок. А беларусы радасна апладзіравалі, і нехта нават крыкнуў: "Ура!"» (Дзяляціцкая народная харавая капэла. Гродна: АДНТ, 1973. С. 8–9).

Працуючы ў Харкаўскім вучылішчы для сляпых дзяцей, Кандрат Лейка прайшоў спецыяльныя курсы ў Пецярбургу, а таксама слухаў лекцыі ў Харкаўскім універсітэце. Ён вельмі часта выступаў у друку з артыкуламі на розныя педагагічныя тэмы. Друкаваўся ў пецярбургскім часопісе «Слепец» , а таксама ў харкаўскай перыёдыцы — газеце «Губернские ведомости» і «Южный край». Некаторыя свае артыкулы падпісваў псеўданімам «Мрачный».

У 1893 годзе ў Харкаве Кандрат Лейка выдае сваю першую кнігу «Русская азбука. Учебник родной грамоты для классного и домашнего употребления». Сярод педагагічных матэрыялаў на сённяшні дзень удалося адшукаць яго артыкулы «Экскурсия воспитанников и воспитанниц Харьковского училища слепых в Киев», «Подвижник народной школы», «Основа», Письмо в редакцию», «О правовом положении слепых в России». Дарэчы, апошняя праца нашага земляка выдавалася асобнаю кнігаю ў бібліятэчцы часопіса «Слепец» у Пецярбургу ў 1906 годзе. Нядаўна мне ўдалося яе адшукаць і набыць ва Украіне.

У Харкаве Кандрат Лейка не забываў і пра родную мову. У гэты час ён піша шмат паэтычных твораў, прысвечаных птушкам, свойскім жывёлам, а таксама сатырычныя вершы. Верш пра сабаку Рабко паэт напісаў у 1886 годзе:

Рабко верна у нас служыць
І жыве сабе, не тужыць:
Удзень грэецца на сонцы,
Ноччу дрыхне на саломцы.
Пільнуе ён гумно, садок,
З двара не ступіць ні на крок.
Але тады толькі брахне,
Як хто ў бок нагой штурхне.

Ішоў студзень 1905 года, і ў вучылішча для сляпых дзяцей уварваўся вецер рэвалюцыі ў Расіі. Вучні і настаўнікі абмяркоўвалі падзеі ў сваім горадзе, цікавіліся навінамі і нелегальнай літаратурай. Кандрат Фёдаравіч патураў ім. Аб гэтым даведаліся мясцовыя ўлады і звольнілі яго з пасады за «опасное вольнодумство в вопросах воспитания слепых детей». На яго месца прыйшоў нехта Захараў — чалавек далёкі ад педагогікі і выхавання. Пры ім усе наваўвядзенні, якімі ганарыўся Лейка, хутка зніклі, а вучылішча ператварылася ў «богоугодный приют». Аднойчы нават каля кабінета новага начальніка адбыўся пратэст. Хлопчыкі і дзяўчынкі патрабавалі, каб у вучылішчы было ўсё, як пры Кандрату Фёдаравічу Лейку, найперш — прагулкі па горадзе, спартыўныя мерапрыемствы, экскурсіі. Цяжка сёння адказаць, ці дабіліся былыя гадаванцы нашага земляка сваіх патрабаванняў, але Кандрат Лейка ў вучылішча больш не вярнуўся.



Гэтая навучальная ўстанова для сляпых дзяцей існуе ў Харкаве і сёння. Але называецца яна інакш. Цяпер гэта абласная спецыяльная гімназія-інтэрнат для сляпых дзяцей імя У. Г. Караленкі. У архіве вучылішча ўдалося нядаўна адшукаць кароткую характарыстыку Кандрата Лейкі на ўкраінскай мове: «Лейко Кіндрат Фёдорович керував училищем з 1892 по 1907 р. Прекрасний педагог, організатор. Разробив методику навчання для сліпих. Програми навчальних предметив наблизив до програм гімназії, в ремісних класах ввів нові спеціальності: в'язання, виготовлення щіток, настроювання роялей. Було організовано хор, музичні гуртки. Велика увага приділялась розвитку у сліпих почуття орієнтації у малому і великому просторі. Лейко К. Ф. висунув програму покращення становища сліпих у країні, пропонуючи визнати за сліпими громадянські права, а саме: одержання безкоштовної освіти, працевлаштування та гарантія пенсії. Про свої вимоги Лейко К. Ф. писав до інстанцій, виступав зі статтями в журналі «Сліпець». По суті Лейко К. Ф. — один із перших творців тифлопедагогіки».

Пасля Харкаўскага вучылішча для сляпых дзяцей Кандрат Лейка пэўны час працуе выкладчыкам рускай мовы ў Елісаветградскім камерцыйным вучылішчы, а пасля ў адной з прыватных жаночых гімназій.

У 1911 годзе наш зямляк пераязджае ў горад Валкі Харкаўскай губерні і ўладкоўваецца на працу ў мясцовае павятовае ведамства на пасаду загадчыка навучальнага аддзела. Гэта быў самы плённы і шчаслівы час для Кандрата Лейкі. Праўда, калі не лічыць смерць ягонай маладой жонкі. Яна памерла падчас родаў у 1916 годзе. Дактарам удалося толькі выратаваць сына Віталя, якога на выхаванне забрала на Палтаўшчыну Анастасія Васільеўна Пеліпенка — родная сястра жонкі Кандрата Лейкі.

У Валках Кандрат Лейка наладжвае шчыльныя сувязі з Бацькаўшчынай. Ён перапісваецца з Лявонам Дубейкаўскім, Гальяшом Леўчыкам, Янкам Купалам, з рознымі беларускімі таварыствамі і камітэтамі, а таксама з рэдакцыямі беларускіх газет і часопісаў. Шмат піша і перакладае з украінскай мовы на беларускую. Свае творы дасылае ў Вільню, а з кастрычніка 1911 года друкуецца ў «Нашай ніве» — апавяданне «Успамін» і верш «Зязюлька». На старонках «Нашай нівы» з’яўляюцца яго апавяданні «Кульгавы дзядзька Раман», «Таклюся-сухотніца», «Лес шуміць», Панас Крэнт», «Абмылка», «Пан Трудоўскі», верш «Навальніца» і іншыя творы. Друкуецца таксама ў «Беларускім календары на 1916 год», у «Гомане», «Беларускай думцы», пазней — у «Нашай думцы».

У сваіх апавяданнях і вершах Кандрат Лейка апісваў унутраны свет сваіх герояў, расказваў пра сацыяльныя канфлікты рэчаіснасці. Творы яго па-свойму філасофскія і псіхалагічныя, а таксама разнастайныя па жанры і тэматыцы. Некаторыя з іх, асабліва вершы, напісаны з гумарам, з баечнай мараллю, з элементамі выкарыстання фальклору:

Бусел, бесел, галяндач,
Пайшоў жыта аглядаць.
Яшчэ жыта зеляно,
Буслу ногу адняло.
Скача бусел на кію,
Кляне долечку сваю.

У 1912 годзе ў Вільні асобнаю кнігаю выходзіць з друку п’еса К. Лейкі для дзяцей «Снатворны мак», якую ён прысвяціў вясковым дзецям Слонімскага павета. Яна паклала пачатак беларускай нацыянальнай драматургіі для дзяцей.

У 1917 годзе хвароба ног, на якую захварэў у юнацтве, дала пра сябе знаць. А праз год Кандрата Лейку спаралізавала. У чэрвені 1918 года пляменнікі перавезлі яго ў горад Здалбунаў на Валынь да роднага брата Івана.

Пісьменнік моцна перажываў, найперш тое, што быў прыкаваны да ложка і не мог бачыцца са сваім маленькім сынам Віталем, якога часта наведваў на Палтаўшчыне. Ды і матэрыяльнае становішча стала жахлівым. Валынь перайшла пад Польшчу, і пенсію, якую Кандрат



Лейка атрымліваў праз Ровенскае казначэйства, палякі адмянілі. Таму апошнія тры гады ў Здалбунаве жыў ён за кошт дапамогі сяброў з Беларусі і Беларускага камітэта ў Варшаве. Землякі клікалі Кандрата дамоў у Гародню альбо на Слонімшчыну, але сіл вяртацца ўжо не было. «Пададцца на Бацькаўшчыну, жыць там паміж сваіх братоў, умерці і легчы ў магілу на сваёй зямлі — о, якая б гэта была для мяне радасьць, шчасьце, але я не змагу гэтага выканаць, бо жыцьцё мяне зусім задавіла, а аб Маці-Айчыне магу цяпер толькі ў салодкіх марах успамінаць…» — пісаў Кандрат Лейка ў адным са сваіх пісем Лявону Дубейкаўскаму (Наша ніва. 1999. № 6).

Перад самай смерцю ён паспеў паслаць у Беларускае Навуковае Таварыства восем сшыткаў сваіх твораў з надзеяй, што таварыства выдасць іх асобнаю кнігаю пад загалоўкам «Засеўкі». Пра кніжку ён марыў і ў 1914 годзе, калі атрымаў ліст ад Янкі Купалы, які паведамляў, што Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні хоча выдаць асобнаю кнігаю ягоныя творы. Але вершы і апавяданні Кандрата Лейкі асобным зборнікам свет так і не пабачылі, а многія з іх проста згубіліся. Ды і сам пісьменнік памёр у верасні 1921 года ў Здалбунаве на Украіне, дзе і быў пахаваны.

Магіла нашага земляка знаходзіцца на адных са старых могілак Здалбунава. За ўсе гэтыя дзесяцігоддзі ніхто з беларускіх літаратараў там ніколі так і не пабываў. Магіла забытага пісьменніка ўжо зраўнялася з зямлёю і зарасла травою і кустамі. Толькі дзякуючы жалезнаму крыжу з шыльдачкаю ўдалося яе знайсці.

На крыжы на ўкраінскай мове напісаны словы:

Нудьга його задавила
На чужому полю.
В чужу землю положила —
Така його доля.

*К. Лейко.*

Світла память про Вас
Завжди буде жити
В серцях наших.
*Родичи*

Увесь час Кандрат Лейка хацеў вярнуцца на сваю Радзіму, памерці на роднай зямлі. Але гэта яго мара так і не збылася. А ён быў, кажучы словамі Алега Лойкі, «першы беларускі дзіцячы паэт, заснавальнік рэпертуару беларускага нацыянальнага тэатра для дзяцей, арыгінальны паэт і празаік, які сваёй шматжанравай творчасцю пачынаў і значна ўзбагаціў новую беларускую літаратуру другой паловы XIX — пачатку XX ст.» (Алег Лойка. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Ч. 2. Мінск, 1989. С. 409).

## Ганна Кароль

Самае гучнае палітычнае забойства на Слонімшчыне ў першыя пасляваенныя гады адбылося 1 снежня 1947 года. У гэты дзень у вёсцы Шылавічы была застрэлена дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і Шылавіцкага сельскага Савета 45-гадовая Ганна Кароль. Прайшло ўжо шмат дзесяцігоддзяў, але старэйшыя жыхары Слонімскага раёна памятаюць гэты дзень, і кожны з іх пра смерць дэпутаткі выказвае свае ўласныя розныя меркаванні, думкі і ўспаміны. Але ўсё па парадку.



*Ганна Кароль*

### Змагарка

Слонімскі паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) (1912–1999) Ганну Кароль заўсёды называў змагаркай. І сапраўды, жанчына была смелая, мужная і самаадданая.

Нарадзілася яна ў 1902 годзе ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Скончыла пяць класаў мясцовай школы. З 1915 па 1922 год працавала па найме ў заможных сялян, а потым на сваёй гаспадарцы.

Калі Слонімшчына апынулася пад Польшчай, Ганна Кароль адразу далучылася да падпольнага нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. У 1925 годзе яна ўступіла ў падпольную кампартыю Заходняй Беларусі. Яе хутка выбіраюць сакратаром мясцовай парт'ячэйкі. І з той пары маладая падпольшчыца пастаянна знаходзіць сабе працу. Яна з сяброўкамі вядзе агітацыю ў сваёй роднай вёсцы Чамяры, а



таксама ходзіць па хатах суседніх вёсак, раздаючы падпольную літаратуру. Бывала, зімовымі студзеньскімі вечарамі дзяўчаты сядзяць за кудзеляй, а Ганна распавядае ім, як трэба жыць і як жывуць людзі ў іншых краінах. І равесніцы ўважліва слухалі яе. А пасля паўночы, калі многія кудзельніцы разыходзіліся па хатах, яна з сябрамі не спала, а да самай раніцы вывешвала лістоўкі каля Чамяроў, Касцянёў, Хадзявічаў і іншых навакольных вёсак.

Раніцай польская паліцыя зрывала лістоўкі і спрабавала даведацца, хто гэта зрабіў. І паліцыянты хутка дазналіся пра актыўныя дзеянні Ганны Кароль. Яны сталі за ёй уважліва сачыць. У Чамярах пачаліся арышты, асабліва шмат арыштоўвалі дзяўчат і юнакоў перад рознымі святамі. А 14 сакавіка 1928 года паліцыя ўвалілася і ў хату Ганны.

Спачатку Ганна Кароль трапіла ў дэфензіву, дзе яе катавалі некалькі дзён, а потым пасадзілі за астрожную браму. За прыналежнасць да КПЗБ і ўдзел у вулічнай дэманстрацыі польскі суд прыгаварыў беларускую дзяўчыну да двух з паловай гадоў зняволення.

Польская турма падпольшчыцу не зламала, а, наадварот, яе загартавала. У канцы 1930 года яна выходзіць на волю і зноў бярэцца за сваю справу. Хутка яе выбіраюць членам Слонімскага акруговага камітэта КПЗБ.

Некаторыя сябры і сваякі неаднаразова ўгаворвалі Ганну пакінуць сваю рэвалюцыйную дзейнасць, а то палякі заб'юць. Але дзяўчына не пагаджалася. У снежні 1932 года яе зноў арыштоўваюць і саджаюць у турму на шэсць гадоў. Адбыла яна і гэты тэрмін. А калі выйшла на волю, зноў пачала выступаць супраць польскай улады. Трэці раз разам з сяброўкай Верай Іскрык яе арыштоўваюць 1 верасня 1939 года і без суда і следства адпраўляюць у Картуз-Бярозу. Там дзяўчына знаходзілася 16 дзён, да прыходу саветаў. А 17 верасня Ганна Кароль вяртаецца на родную Слонімшчыну.

17 верасня 1939 года — супярэчлівая дата беларускай гісторыі. З аднаго боку, гэта была радасная падзея — нарэшце аб'ядналіся Заходняя і Усходняя Беларусь і беларускі народ стаў адзіным. Але разам з Чырвонай Арміяй у Заходнюю Беларусь прыйшло НКУС, пачаліся рэпрэсіі, спачатку супраць палякаў, а потым хапалі беларусаў, татараў, яўрэяў.

Ганну Кароль ніхто ў Чамярах не чапаў. Наадварот, яна актыўна ўключылася ў грамадска-палітычнае жыццё. Спачатку яе выбіраюць старшынёй сялянскага камітэта ў вёсцы Чамяры, затым — старшынёй Парэцкага сельсавета Слонімскага раёна. Але хутка пачынаецца вайна і актыўная дзейнасць Ганна Кароль на радзіме спыняецца. Яна пакідае Слонімшчыну і з'язджае ў Шклоў да сваёй сястры. Там і перажыла ўсю вайну. Чым падчас акупацыі на Шклоўшчыне займалася слонімская актывістка — застаецца загадкай. Праўда, пасля вайны Ганну Іванаўну ўзнагароджваюць медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гг.».

## Вяртанне дадому

Пасля вайны ў жніўні 1944 года Ганна Кароль са Шклоўшчыны вяртаецца на Слонімшчыну. Яе адразу выбіраюць старшынёй Шылавіцкага сельскага Савета. Ганна Іванаўна зноў праводзіць актыўную тлумачальную работу сярод сваіх землякоў, але на гэты раз па адбудове народнай гаспадаркі пасля вайны. Па яе ініцыятыве сяляне Шылавіцкага сельсавета за ўласныя грошы пабудавалі ў вёсцы школу-сямігодку. Пра дзейнасць Шылавіцкага сельскага Савета пад кіраўніцтвам Ганны Кароль у першыя пасляваенныя гады ёсць звесткі ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 4683, воп. 3, спр. 552, л. 28–36). У прыватнасці, у 1944 годзе ў вёску Шылавічы прыязджаў капітан Чырвонай Арміі і прасіў жыхароў вёскі датэрмінова сабраць і здаць мяса для байцоў Чырвонай Арміі. Ганна Кароль растлумачыла вяскоўцам на агульным сходзе важнасць гэтай справы. У выніку здалі для патрэб Чырвонай Арміі шмат збожжа, мяса і іншых прадуктаў. А сяляне Жылінскі Іван, Шухно Люба, Ёрш Іван і іншыя вяскоўцы здалі прадуктаў звыш нормы.

Актыўна была праведзена работа па распаўсюджванні дзяржаўнага займу. Да рэалізацыі задання Ганна Кароль далучыла актыў сельсавета. Жылінскі з Шылавічаў падпісаўся на 700 рублёў замест 200, Шухно — на 400, Тачоны — на 500 і г. д. План займу па сельсавеце быў перавыкананы больш чым у пяць разоў. А ў верасні 1944 года вясковая актывістка тлумачыла вяскоўцам аб неабходнасці збіраць грошы на танкавую калону. У выніку сама Ганна здала 18 тысяч рублёў на тыя грошы, Маслянкова — 15 тысяч рублёў, Крупнік — 13 тысяч рублёў і г. д.

Ганна Кароль вельмі шчыра адносілася да дзяцей-сірот, састарэлых людзей. Сама купляла тканіну і шыла для дзяцей бялізну, сарочкі, размяркоўвала многіх, хто быў круглай сіратой, у дзіцячыя дамы. Старым вяскоўцам па яе просьбе падвозілі дровы, апрацоўвалі агароды.

Жыхар Слоніма Мікалай Ракевіч успамінае: «Я вучыўся ў Азярніцкай школе і памятаю, як да нас у 1946 годзе прыязджала і выступала ў сельскім клубе Ганна Кароль. Яна была апранута ў кажушок, сама невысокага росту. Выступала яна на той мове, на якой размаўляў тутэйшы люд на Слонімшчыне. Казала жанчына, што трэба аднаўляць пасля вайны народную гаспадарку. Людзей прыйшло поўны клуб, усе слухалі ўважліва і пагаджаліся з тым, што казала мясцовая актывістка».

9 сакавіка 1947 года Ганну Кароль выбіраюць дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. А праз дзесяць месяцаў, 1 снежня 1947 года, яе не стала.

## Смяротны стрэл у вакно

Вечарам Ганна Кароль вярнулася з чарговага сялянскага сходу дамоў. Села каля лямпы за сталом прагледзець пратаколы, запісы. І раптам з вуліцы ў вакно, дзе яна сядзела, раздаецца стрэл. Ганна, параненая, падае. На стрэл прыбягаюць суседзі. Жанчыну хутка адвозяць у Слонім у раённую бальніцу, дзе яна праз чатыры гадзіны памірае.

Пасля забойства народнага дэпутата ў Шылавічах прайшло ўжо амаль 67 гадоў. Але забойства Ганны Кароль так і засталося нераскрытым. Ці проста не хацелі яго раскрываць?

На паховіны зямлячкі прыйшлі сотні людзей. Яе пахавалі ў Слоніме, а на магіле ў 1949 годзе ўстанавілі чатырохгранны абеліск. Слонімская раённая газета «Вольная праца» тады апублікавала сціплы некралог, які пачынаецца словамі: «На баявым пасту загінула старшыня Шылавіцкага сельскага Савета, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Ганна Іванаўна Кароль…». Некралог падпісалі слонімскія кіраўнікі райкама і райвыканкама (заўважце, амаль усе яны рускія. — *С. Ч.*). А гэта — Мардашоў, Косава, Буланаў,

Захараў, Башлакоў, Ананьева і іншыя. Праўда, сярод іх быў і слонімец — старшыня райвыканкама Іван Дабрыян. Пра гэта забойства ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь нічога не згадваецца. Няма звестак пра забойства дэпутата Ганны Кароль і ў Занальным дзяржаўным архіве ў г. Навагрудку. Ёсць там дакументы пра дзейнасць Шылавіцкага сельскага Савета дэпутатаў з 1944 да 1966 года (ф. 534, адз. зах. 70), але пра смерць Ганны Кароль не згадваецца. Дык хто ж застрэліў Ганну Кароль?

Такое пытанне я задаў сёння таму ж настаўніку-пенсіянеру Мікалаю Іванавічу Ракевічу. Ён сказаў: «На гэты конт я раскажу табе анекдот-быль, які вельмі папулярным быў у тыя 1940–1970-я гады. Вёз на калгаснай грузавой машыне вясковы шафёр старшыню калгаса. Раптам яны з’язджаюць у рышток, машына перавярнулася і.. загінуў старшыня калгаса. Шафёр застаўся жывы, вылез з кабіны, закурыў і кажа: «Што загінуў старшыня калгаса — гэта не бяда: райкам партыі заўтра новага прышле, а вось машыну прыйдзецца рамантаваць». Вядома, што замест Ганны Кароль прызначылі ў Шылавічы новага старшыню сельсавета. Але ж каму перашкаджала слонімская актывістка? Афіцыйна лічылася, што жанчына загінула ад рук «ворагаў народа». Былы старшыня адной з гаспадарак Слонімшчыны Эдуард Арочка, які жыве ў вёсцы Міжэвічы, на маё пытанне пра смерць Ганны Кароль сказаў: «У той час на Слонімшчыне быў забіты і яшчэ адзін старшыня сельсавета, нехта Сончык. Казалі, што іх забілі банды. Але ж напрыканцы 1947 года на Слонімшчыне ўжо не было ніякіх бандаў. А мясцовая актывістка, відаць, некаму перашкаджала, вось яе і ліквідавалі».

У вёсцы Хадзявічы жыве Ніна Фёдараўна Баль, якая таксама добра памятае Ганну Кароль: «Гэта была родная цётка майго мужа Уладзіміра. Я памятаю, як мы бегалі слухаць выступленні Ганны Іванаўны. Тады людзі казалі, што яе забілі тыя, хто яе зрабіў дэпутатам».

Гісторык Сяргей Ёрш на маё пытанне сказаў: «Так, я калісьці таксама чуў версію, што маглі і ўлады з Кароль разабрацца. Але ні тады, ні цяпер не бачу прычынаў гэта рабіць. Тым больш, на наступны дзень пасля забойства, 2 снежня 1947 года, Цанава трымаў, верагодна, запланаваную раней справаздачу перад бюро ЦК КП(б)Б пра змаганне з антысавецкім падполлем на працягу года. Яму нявыгадна было



дапускаць у гэты час забойства дэпутата Вярхоўнага Савета БССР. А ініцыятыва мясцовага аддзела МГБ проста немагчымая.

Таму, мусіць, былі нейкія тайныя прычыны, нам пакуль невядомыя. Можа, нехта з мясцовых, можа, не толькі нянавісць да ўлады, можа, і нешта асабістае было…».

Слонімскі гісторык Ігар Падгарадзецкі, які цяпер жыве ў Германіі, пра смерць Ганны Кароль паведаміў мне наступнае: «Мая маці добра ведала Ганну Кароль, але я ніколі з ёю на гэту тэму не размаўляў. Яна казала толькі, што Ганна Кароль была вельмі папулярнай сярод землякоў, што стралялі ў яе праз вакно з пісталета. І што пра вёску Шылавічы ў пасляваенны час людзі казалі, што гэта бандыцкая вёска».

Вёска Шылавічы на Слонімшчыне і пры Польшчы лічылася адной з найбольш рэвалюцыйных. Многія жыхары з гэтай вёскі сядзелі ў польскіх турмах. Аднак гэтая рэвалюцыйнасць, як потым выявілася, прыняла жахлівыя, нечалавечыя формы. Пасля таго як у верасні 1939 года Заходняя Беларусь адышла ад Польшчы, шылавіцкія «актывісты» пачалі здзекавацца над мясцовым жыхарамі, зводзіць асабістыя рахункі, помсціць нават за дробязныя крыўды. Аднойчы гэтыя былыя «актывісты»-бязбожнікі пад кіраўніцтвам начальніка валасной чырвонай гвардыі ў Шылавічах Фамы Кузняцова (прозвішча зменена па розных прычынах, сапраўднае аўтару вядома. — *С. Ч.*), дарэчы, былым палітвязнем польскіх турмаў, сагналі сялян да гумна, якое стаяла на беразе Шчары, і пачалі здзекавацца над адным з багатых людзей вёскі, мясцовым панам. Яны запрэглі яго ў воз і каталіся. А праз некалькі дзён «актывісты» закатавалі мясцовага святара Андрэя Куца і яго жонку Алену. Спачатку бандыты абрабавалі дом святара, прапаролі кіем жывот Алене, а айцу Андрэю выкалалі вочы, адрэзалі язык, нос, вушы, а пасля адвезлі і кінулі мёртвых у балота каля Шчары, а потым закапалі ў лесе. Іх пасля шукалі пашукавікі-вяскоўцы, але нічога не знайшлі. Але быў сведка гэтага злачынства і паказаў месца ў лесе. Святара і іншых забітых вяскоўцы адкапалі і перазахавалі. Такі лёс чакаў і лесніка Самсоніка з гэтай вёскі. Мясцовыя людзі бачылі і запомнілі ўсе зверствы, якія адбываліся ў іх Шылавічах. Вось у гэтай вёсцы і прыйшлося жыць і працаваць Ганне Кароль.

Як толькі застрэлілі яе, да старшыні Слонімскага райвыканкама Івана Дабрыяна прыйшлі супрацоўнікі НКУС і пачалі дапытвацца, а

што ў гэты вечар рабіў і дзе быў Іван Дарафеевіч Міско (паэт Анатоль Іверс). Іван Дабрыян добра сябраваў з Іванам Міско. У гады вайны Іван Дабрыян быў адным з арганізатараў партызанскага руху на Слонімшчыне, камісарам атрада імя Дзяржынскага брыгады імя Ракасоўскага. А Іван Міско з'яўляўся адным з арганізатараў падпольнага антыфашысцкага руху, а з лістапада 1943 года — партызанам гэтай брыгады імя Ракасоўскага, сакратаром Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта. Іван Дабрыян сказаў, што ў гэты вечар Іван Міско быў у яго ў райвыканкаме, і яны разам вечарам пайшлі дамоў. Гэта і выратавала Івана Міско ад арышту. Тады на яго і маглі б ускласці ўсю віну ў смерці Ганны Кароль. Дарэчы, у 2012 годзе мне прыйшлося рыхтаваць да 100-годдзя трохтомнік твораў Анатоля Іверса (Івана Міско), у адну з кніг «З глыбінь жыцця» (Мінск: Кнігазбор, 2012) я ўключыў і ўспамін Анатоля Іверса пра Ганну Кароль. На старонках 183–184 ён успамінае: «Перабіраючы ў памяці тыя трагічныя падзеі, аж цяпер шкура шэрхне. Няўжо слонімскія і рэспубліканскія Шэрлак-Холмсы, у якіх я быў на падазрэнні, не ведалі, што ў мяне з Ганнай Кароль былі нармальныя, прыязныя адносіны? Ці можа самі следчыя не валодалі нармальным чалавечымі якасцямі? Няўжо яны не цікавіліся тымі асобамі, што замучылі святара?..».

Магчыма, не цікавіліся, а проста ведалі, чыіх рук гэта справа. Іван Міско гэтыя ўспаміны нават публікаваў у 1992 годзе ў слонімскай райгазеце. Далей ён прыгадвае: «Неяк я хацеў удакладніць дату гібелі заслужанай зямлячкі, але ні ў музеях, ні на Слонімскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, калектыў якой трымае шэфства над магілай Ганны Іванаўны, не ведаюць дакладнай даты нараджэння і смерці. На фабрыцы некалі быў альбом, прысвечаны жанчыне, але камсамольцы аддалі яго ў райкам камсамолу, дзе і згубіліся яго сляды…».

Але як ні замятай сляды, яны ўсё ж застаюцца незамеценымі. Днямі патэлефанаваў аднаму са старэйшых жыхароў вёскі Чамяры Пятру Фёдаравічу Бурсевічу і спытаў, ці чуў ён што-небудзь пра Ганну Кароль. «Вядома ж, гэта мая зямлячка з Чамяроў. Пасля вайны яе застрэлілі Кузняцоў са сваёй бандай…» — адказаў Пятро Фёдаравіч.

Лёс Фамы Кузняцова пасля вайны склаўся даволі добра. Ён меў шмат узнагарод, яго ўшаноўвалі як ветэрана вайны і працы, запрашалі на розныя сустрэчы, ён меў персанальную пенсію, пра яго пісалі



газеты і кнігі. А тыя, хто ведаў яго мінулае, — проста маўчалі: ці баяліся, ці не хацелі яго варушыць.

Пра Ганну Кароль таксама ў Слоніме не забыліся. Яе імем названа адна з вуліц горада. А ў пачатку вуліцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Праўда, аднойчы падчас аварыі яе збіла машына. І больш за паўгода шыльду не аднаўлялі. Гісторык Сяргей Ёрш патэлефанаваў намесніку старшыні Слонімскага райвыканкама. На трэці дзень яе аднавілі, знайшлі тую, арыгінальную, якая стаяла там дзясяткі гадоў.

І апошняе. Нядаўна я наведаў вялікі школьны Народны музей у СШ № 4 г. Слоніма. У адной з залаў убачыў бюст Кузняцова. Ён глядзіць проста на адзін са стэндаў, на якім знаходзіцца сціплы стары здымачак Ганны Кароль. Тут яны — побач, гісторыя іх яшчэ не рассудзіла: хто варты ганаровага месца ў музеі, а хто не.

## Янка Бялькевіч — даследчык роднай мовы


*Янка Бялькевіч*

Пра беларускага лексікографа і лексіколага, аўтара вядома «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» Янку Бялькевіча хораша неяк сказаў вершам Алесь Пісьмянкоў:

Я зноў аб галоўным,
Аб кроўным,
Я зноў пра свае карані:
Гартаю
Бялькевічаў «Слоўнік»,
Нібыта гасцюю
Ў радні.

Але Янка Бялькевіч быў родам не з Магілёўшчыны, а са Слонімшчыны, з вёскі Варонічы, дзе ён з'явіўся на свет 6 сакавіка 1883 года ў сялянскай сям'і. Нядаўна я пабываў у Варонічах. Там ужо няма людзей з прозвішчам Бялькевіч. Але Бялькевічаў шмат жыве ў суседніх з Варонічамі вёсках Мяльканавічы, Сялявічы, Пасінічы і ў Слоніме. Ды з тых апытаных вяскоўцаў ніхто пра Янку Бялькевіча нічога не чуў і не ведае. Хаця ён пасля Свіслацкай на-

стаўніцкай семінарыі быў загадчыкам Вароніцкай сельскай школы, потым інспектарам школ Слонімскага павета, а са жніўня 1920 года працаваў у Наркамаце асветы БССР і ў школах Мінска.

Для паглыблення сваіх педагагічных ведаў Янка Бялькевіч паступіў на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне толькі што адкрытага Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён не прапускаў ніводнай лекцыі, выступаў на семінарах з грунтоўнымі навуковымі рэфератамі па пытаннях беларускай і рускай філалогіі, удзельнічаў у розных гуртках. Яшчэ студэнтам Янка Бялькевіч па заданні слоўнікавай камісіі Інбелкульта збірае лексічны матэрыял для тлумачальнага слоўніка беларускай мовы, распісваючы на карткі творы Ядвігіна Ш. і Максіма Багдановіча. Адначасова студэнт Бялькевіч запісвае і сістэматызуе беларускія словы з іншамоўнымі каранямі, мяркуючы скласці іх слоўнік.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Янка Бялькевіч стаў працаваць дырэктарам Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума. Па просьбе слоўнікавай камісіі Інбелкульта ён збірае і сістэматызуе матэрыялы для дыялектнага слоўніка ўсходняй часткі Магілёўскай вобласці. У вольны час ён выязджае ў раёны, запісвае новыя словы і правярае запісаныя. Напрыканцы 1926 года картатэка будучага слоўніка ўжо налічвала 15 тысяч лексічных адзінак. Часопіс «Наш край» (1928. № 12. С. 50) паведамляў пра першыя поспехі Бялькевіча: «Словы на першыя літары слоўніка ўжо апрацаваны ўкладальнікам…».

Паралельна з укладаннем слоўніка Янка Бялькевіч даволі часта выступае на старонках розных беларускіх выданняў. У прыватнасці, на старонках «Узвышша» ён друкуе рэцэнзіі на слоўнікі, рэзка выступае супраць ужывання ў беларускай літаратурнай мове слоў *акаляць* і *акаляючы* са значэннем рускіх *окружать, окружающий* (нататка «Аб слове акаляць» (Узвышша. 1928. № 2) і інш.

У Янкі Бялькевіча было шмат планаў і задумак. Але ён хутка будзе арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Гэта здарылася 17 лютага 1930 года. І хоць вінаватым ва ўсім ён сябе не прызнаў, паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 года яго саслалі на 5 гадоў у Іашкар-Алу. Там працу над беларускай філалогіяй яму замянілі працай на лесапавале. А калі вызваліўся, выехаў у Данецкую вобласць, дзе выкладаў у школах рускую мову і літаратуру.



У 1948–1958 гадах працаваў у розных навучальных установах Жданава. Але і там, далёка ад Радзімы, Янка Бялькевіч не спыняў працу над слоўнікам. Ён вельмі хацеў вярнуцца на Беларусь, але да канца жыцця не атрымаў на гэта дазволу. Сэрца не вытрымала такой знявагі. За месяц да смерці яго рэабілітавалі, а ў кастрычніку 1960 года даследчыка нашай мовы не стала.

Клопаты аб выданні «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» пасля смерці Янкі Бялькевіча ўзялі на сябе яго жонка Ніна Мікалаеўна Улашчык і сын Ізяслаў. І ў 1970 годзе ён пабачыў свет. Гэты слоўнік — адзін з самых поўных і грунтоўных з ліку ўсіх вядомых рэгіянальных (абласных) слоўнікаў беларускай дыялектнай мовы. Слоўнік Янкі Бялькевіча з'яўляецца багатым зборам лексікі жывой народнай мовы насельніцтва ўсходняй часткі Магілёўскай вобласці. Ён змяшчае каля 20 тысяч слоў.

Вялікае слоўнае багацце, сабранае Янкам Бялькевічам, даўно просіць перавыдання. Перавыдання не толькі слоўніка, а і іншых ягоных прац.

## Кіраўнік патрыятычнай «Чайкі»

Васіль Рыгоравіч Супрун жыў побач са мной на адной Брэсцкай вуліцы ў Слоніме. Таму я яго сустракаў амаль кожны дзень: то ідучы ў краму, то ён ехаў на дачу, то кудысьці спяшаўся на сустрэчу. Пры спатканнях Васіль Рыгоравіч стараўся гаварыць мала, ён больш любіў слухаць, а потым адным сказам ціха падводзіў вынікі ўсёй гутаркі. Ён да самай смерці быў асцярожным і маўклівым. Але я стараўся яго трохі разварушыць і гучна пытаўся: «Як справы, Васіль Рыгоравіч, чым займаецеся, над чым працуеце?».



*Васіль Супрун, 1955 г.*

— Вось сонейка выглянула вясновае, дык на дачу еду, варушуся там крыху. Цяжка ўжо працуецца ў маім узросце, не хапае сіл і

здароўя, каб працаваць, пісаць. Хоць жаданне зрабіць тое-сёе яшчэ ёсць, — заўсёды з лагоднай усмешкай, але ціха адказваў ён. Заўсёды інтэлігентны, шляхетны, быццам не з сялянскай сям'і выйшаў шукаць вольную ад паноў і таварышаў беларускую Беларусь. Ён моцна перажываў за Беларусь, казаў, што сёння ў нашай апазіцыі не хапае самаахвярнасці. А без гэтага — мы ніколі не пераможам.

Чаму ён так казаў? Таму што сам са сваімі равеснікамі ў 1946 годзе стварыў патрыятычную антысталінскую арганізацыю «Чайка», удзельнікі якой жылі ў Слоніме, Баранавічах, Навагрудку, Пінску і ў іншых гарадах, а таксама мястэчках. За гэта ён быў пакараны 25 гадамі зняволення.

Пра «Чайку» мы даведаліся толькі ў канцы 1980-х гадоў. Да гэтага часу ён нам ніколі нічога не казаў пра антысавецкае падполле. Калі выйшаў у 1956 годзе на волю і праз год вярнуўся на родную Слонімшчыну, быў пазбаўлены магчымасці працаваць настаўнікам, хоць меў педагагічную адукацыю: скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю і Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Настаўнікам працаваць не дазволілі, і Васіль Супрун мяняў занняткі і прафесіі. Працаваў спачатку будаўніком у роднай вёсцы, быў тэхнікам-будаўніком у СПТВ у Слоніме, а потым у пошуках заробку выехаў у Крым, дзе знайшоў працу праекціроўшчыка ў падводным марскім клубе ДТСААФ СССР. Працуючы далёка ад Беларусі, паступіў на гістарычны факультэт БДУ, які завочна скончыў у 1969 годзе.

Калі вярнуўся з Крыма на Радзіму, то зноў пайшоў працаваць на будоўлю. Адначасова займаўся ў вольны час археалагічнай разведкай і раскопкамі на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Пасля пісаў пра гэта ў мясцовым друку, у часопісе «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Так і дажыў да пенсіі… Але гэта было пасля вяртання з ГУЛАГу, пасля 1957 года. А да гэтага была «Чайка».

Напачатку 1946 года ў асяродку настаўніцтва і моладзі Слонімшчыны ўзнікла ідэя арганізаванага супраціву камуністычнаму руху і гвалтоўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтай у пачатку траўня 1946 года ў Слоніме быў праведзены ўстаноўчы сход, на якім было прынятае рашэнне стварыць падпольную беларускую арганізацыю з канспірацыйнай назвай «Чайка», якая ставіла б сваёй мэтай змаганне за нацыянальныя правы і годнасць свайго народа, яго культуры, мовы,



гісторыі і, урэшце, за свабоду і незалежнасць Беларусі. Арганізацыя не планавала займацца тэрорам, а індывідуальнай працай будзіць свядомасць беларусаў. Была прынятая праграма дзейнасці, асновы канспірацыі і абранае кіраўніцтва. У сходзе ўдзельнічалі Васіль Супрун (які быў абраны кіраўніком), Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Алесь Гардзейка, Леакадзія Кавальчук і Ніна Карач (сакратар). У сувязі з няяўкай Ніны Карач на пазнейшыя нарады і парушэннем канспірацыі дзяўчаты былі адхіленыя ад удзелу ў падполлі, змененыя яўкі. Дарэчы, пазней Ніна Карач была асуджана на 10 гадоў. Яе забяруць ужо студэнткай Інстытута народнай гаспадаркі. І што цікава, бацька Ніны быў некалі засланы з Расіі ў Польшчу для навядзення прапаганды на карысць Саветаў. А дачка, як бачыце, вырасла свядомай беларускай.

З агульнай згоды сяброў Васілю Супруну было загадана заснаваць патрыятычнае падполле ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, Міхасю Ракевічу — у Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме, дзе ён навучаўся, Міхасю Чыгрыну — у Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, дзе ён у той час вучыўся, і Алесю Гардзейку — сярод моладзі Слонімшчыны.

У хуткім часе патрыятычныя групы падполля былі створаныя і ў Баранавічах (з дапамогай Уладзіміра Салаўя — студэнта настаўніцкага інстытута), у Брэсце, Жыровічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

«Чайка» за нейкі месяц дзейнасці выйшла далёка за межы Слонімшчыны, што патрабавала паглыбленай распрацоўкі праграмы і схемы ўнутранай будовы арганізацыі. А праз пэўны час узнікла і неабходнасць стварэння так званага Цэнтра Беларускага Вызваленчага Руху (ЦБВР), які павінен быў ажыццяўляць агульнае кіраўніцтва рухам. Кіраўніком Цэнтра быў абраны Васіль Супрун, намеснікам па арганізацыйна-палітычнай рабоце стаў Аляксандр Барэйка, а адказным за ваенізаваны рух — Міхась Ракевіч. Акрамя таго, дарадчымі членамі Цэнтра былі прызначаныя Мікалай Макарэвіч, ён жа — кіраўнік Брэсцкага абласнога падполля, Міхась Агейка — ад баранавіцкай інстытуцкай групы і Уладзімір Салавей — ад слонімскіх груп. Кантакты Васіля Супруна з А. Барэйкам і М. Ракевічам былі рэгулярнымі, з астатнімі членамі Цэнтра — пры неабходнасці.

Цэнтрам была прапанаваная так званая «колавая» схема кіравання. Ад Цэнтра мела адходзіць (акружаць яго) першае кола,

гэта значыць, абласныя кіраўнічыя структуры, вакол якіх павінны размяркоўвацца раённыя групы — другога кола, а вакол апошніх — перыферыйныя групы — трэцяе кола. Пры гэтым прапаноўвалася своеасаблівая схема канспірацыі і кансервацыі падполля. На пэўным этапе, калі нейкая тэрыторыя будзе арганізацыяй ахоплена, яна павінна быць законсерваваная да спрыяльнай палітычнай сітуацыі, пры якой па камандзе з Цэнтра павінна была быць гатовая да любых дзеянняў…

Але за беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі пільна сачыла спецгрупа МДБ. І ў чэрвені 1947 года беларускіх патрыётаў пачалі арыштоўваць. Быў арыштаваны і Васіль Супрун. Амаль паўгода знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме «Крывое кола» і мінскай «амерыканцы». 21 лістапада 1947 года Ваенны трыбунал войскаў МУС Беларускай акругі ў Мінску паводле артыкулаў 63-1 і 76 КК БССР (здрада радзіме і антысавецкая агітацыя) асудзіў Супруна на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці. Такім суровым быў прыгавор перш за ўсё за ўпартасць, нязломнасць, адмову нагаворваць на сябе і іншых, карацей — за характар, за тыя яго рысы, якіх берыеўцы не чакалі ад вясковага настаўніка, маладога народнага інтэлігента, маладога беларуса.

Пакаранне Васіль Супрун адбываў у лагерах Інты і Варкуты. У зняволенні падтрымліваў тайную міжлагерную перапіску з беларускай паэткай Ларысай Геніюш:

Бачыш? Вялізныя шрамы па краю —
Лагеры, зоны, драты.
Там ні за што, як і мы, дагараюць
Нашы ў няволі браты.

Вершы з перапіскі Васіля Супруна і Ларысы Геніюш упершыню былі апублікаваныя ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» вясной 1989 года. Іх публікацыя была тады вялікай падзеяй ў беларускім літаратурным жыцці. Аказалася, што Васіль Супрун усё жыццё пісаў вершы, найбольш патрыятычныя. А першы ягоны верш быў надрукаваны ў «Баранавіцкай газеце» яшчэ ў 1943 годзе. І толькі праз 50 гадоў дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала невялікі зборнічак вершаў Васіля Супруна пад назвай «Крык» з прадмовай



прафесара Алега Лойкі. Вершы ў ім былі напоўненыя духоўнай сілай і верай, нязломнасцю духу ды бясконцай любоўю да роднага краю:

Так, каб жыць, каб тварыць, каб змагацца, любіць,
Трэба ўмець супроць хваляў і гора
Непакорна плысці, сваё Заўтра знайсці —
Яно лепей, чым нашае ўчора.

Потым свет пабачылі яшчэ некалькі кніг вершаў і краязнаўчых артыкулаў Васіля Супруна. Яго прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Васіль Супрун быў вельмі таленавітым чалавекам. Ён умеў добра фатаграфаваць, маляваць, выдатна іграў на скрыпцы, любіў прыроду. Некалькі разоў ён звяртаўся ў вышэйшыя мінскія інстанцыі, каб яго рэабілітавалі, але так і не дачакаўся рэабілітацыі. Аднак для тых, хто ведаў Васіля Рыгоравіча, ён застаўся маральным аўтарытэтам назаўсёды.

## Крынчык і Лябецкая

Гэты мой артыкул прысвечаны Паўлу Крынчыку (1898–1975) і Алене Лябецкай (1903–1982) — мужу і жонцы, якія ў першай палове XX стагоддзя былі актыўнымі дзеячамі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, актывістамі Таварыства беларускай школы, вязнямі польскіх і савецкіх лагераў.



*Павел Крынчык*

Арганізатар і кіраўнік Народнага музея СШ № 4 г. Слоніма Аляксандр Жукоўскі аднойчы запрасіў Паўла Крынчыка паглядзець ягоны вялікі музей. Павел Сцяпанавіч пагадзіўся. Ён зайшоў з кійком у музей і адразу пачаў разглядаць стэнды. Пад шклом аднаго з іх ён убачыў партрэт Сталіна. Нядоўга думаючы, ветэран падняў кіёк і з усяе сілы стукнуў па шкле стэнда. Шкло пасыпалася на падлогу. Крынчык падскочыў да Жукоўскага і, махаючы перад носам кійком, закрычаў: «Калі ты яшчэ раз павесіш



*Алена Лябецкая*

гэтага вусатага чорта, то я цябе павешу на гэтай кульбе». Аляксандр Жукоўскі ніколі больш не вешаў партрэт Сталіна ў сваім школьным музеі, хаця ён амаль увесь быў прысвечаны Другой сусветнай вайне.

Алена Лябецкая, калі польскія паліцыянты стукалі ў дзверы Слонімскай акруговай управы ТБШ у 1928 годзе, не разгубілася. Яна паспела праглынуць некалькі папер з тэкстам лістоўкі. Калі ў пакой ТБШ уварваліся паліцыянты і пачалі вобыск, яны ўжо нічога крымінальнага знайсці не змаглі.

Павел Крынчык нарадзіўся ў вёсцы Едначы Слонімскага павета. Перад пачаткам Першай сусветнай вайны рускія казакі выгналі сям'ю Крынчыкаў у Расію. Яны заехалі ажно ў Екацерынаслаў. Там юнак паступіў у мясцовы палітэхнікум шляхоў зносін. Скончыў яго, а потым сям'я вярнулася на Бацькаўшчыну, якая ўжо была пад Польшчай.

Вярнуўшыся на Слонімшчыну, Павел Крынчык стаў адным з ініцыятараў стварэння гурткоў Грамады, Таварыства беларускай школы і спажывецкага таварыства. У 1928 годзе ў польскі сейм былі абраны тры беларускіх дэпутаты: І. Дварчанін, І. Гаўрылік, А. Стагановіч. У лютым 1929 года замест А. Стагановіча дэпутатам сейма стаў Павел Крынчык. У Варшаве яму ўручылі пасольскі мандат, і з сакавіка 1929 года ён быў асобай недатыкальнай. Але…

Прыехаўшы ў Вільню, беларускі дэпутат польскага сейма актыўна ўключыўся ў працу сакратарыята пасольскага клуба «Змаганне». Ён стаў плённа працаваць над склiканнем Еўрапейскага сялянскага кангрэса ў Берліне, удзельнікам якога разам з жонкай Аленай Лябецкай быў і сам. Палымяны голас пасла гучаў тады на шматлюдных мітынгах працоўных у Дзярэчыне, Воранаве, Ашмянах, Вільні, Смаргоні, Кельцах, Карэлічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

Нягледзячы на недатыкальнасць, Паўла Крынчыка на ўсіх мітынгах абражалі і білі польскія шпікі і паліцыянты. А летам 1929 года ў Карэлічах беларуса нават паранілі выстралам з пісталета ў галаву. Ён апамятаўся тады, калі сябры клалі яго на воз. Юнака хутка завезлі да доктара. Доктар дастаў з патыліцы кулю і сказаў: «Пану вельмі пашанцавала!».



З забінтаванай галавой Крынчыка адвезлі ў гасцініцу, а потым на чыгуначную станцыю Наваельня, а адтуль у Вільню. Там перабінтавалі і зрабілі здымкі. Пазней гэта фатаграфія і фатаграфіі ягоных калег-паслоў Дварчаніна, Гаўрыліка, Грэцкага з перабінтаванымі галовамі будуць змешчаны на выбарчым плакаце. Плакат заклікаў беларусаў галасаваць за спіс кандыдатаў «Змагання» ў час дадатковых выбараў у сейм, якія праходзілі вясной 1930 года ў Лідскай выбарчай акрузе. Агітацыя аказалася даволі эфектыўнай і пераканаўчай. Толькі гэта ўсё хутка скончылася.

…Паўла Крынчыка паліцыя арыштавала дома. Валынца — у Вілейцы, Гаўрыліка — у цягніку, які ехаў у Варшаву. Іх усіх адправілі ў Стэфанаўскую турму ў Вільню. У пачатку 1931 года пачаўся суд над сябрамі беларускага сялянска-рабочага пасольскага клуба «Змаганне». І. Гаўрыліку, І. Дварчаніну, Ф. Валынцу і П. Крынчыку далі па 8 гадоў кожнаму строгага турэмнага зняволення.

Праз пэўны час у турму завітала сябра Чырвонага Крыжа СССР у Польшчы Стэфанія Семпалоўская і сустрэлася ў камеры з Крынчыкам. Спадарыня Семпалоўская паведаміла, што савецкі і польскі ўрады дамовіліся аб абмене палітзняволенымі. «У спіс палітзняволеных, якія належаць абмену, уключаны і вы, — сказала яна. — Цяпер толькі павінна быць ваша згода». Семпалоўская заявіла таксама, што Крынчык можа ўзяць з сабой усю сваю сям'ю. Крынчык пагадзіўся і папрасіў з сабой узяць яго жонку Алену Лябецкую.

Так Павел Крынчык і яго жонка Алена Лябецкая апынуліся ў Мінску. Там іх шчыра віталі Валянцін Таўлай і Іван Тарасюк. Быў гэта 1933 год…

Цяпер пару слоў пра Алену Лябецкую. Яна была на 5 гадоў маладзейшая за свайго мужа. Нарадзілася на хутары Лягуцева Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён). У 1910 годзе сям'я яе пераехала ў Гродна, дзе дзяўчынка паступіла ў падрыхтоўчы клас жаночай гімназіі.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны іх сям'ю выгналі ў Калугу. Там дзяўчына вучылася ў жаночай гімназіі. А калі вярнуліся ў 1920 годзе на Бацькаўшчыну — актыўна ўключылася ў грамадска-вызваленчы і культурны рух у Заходняй Беларусі. Яна актыўна стварала гурткі ТБШ, была арганізатарам і ўдзельнікам беларускіх спектакляў, канцэртаў на Слонімшчыне, Дзятлаўшчыне і Зэльвеншчыне.

З лістапада 1927 года Алена Лябецкая стала працаваць сакратаром Слонімскай акруговай управы ТБШ. Потым яе, як актыўную дзеячку ТБШ, забіраюць у Вільню, дзе Алена працуе ў Галоўнай управе ТБШ, загадвае беларускай бібліятэкай-чытальняй.

У лютым 1930 года Алену Лябецкую арыштоўваюць польскія ўлады і асуджаюць на 6 гадоў турмы. Але ў выніку абмену палітвязнямі яна разам з мужам трапляе ў Мінск…

Спачатку ў БССР жыццё наладжвалася някепска. Павел працаваў, а Алена вучылася на геолага-геаграфічным факультэце БДУ, працавала інструктарам у ЦК Міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі Беларусі. Але аднойчы іх сям'ю наведалі супрацоўнікі НКУС. Спачатку 26 лістапада 1935 года арыштавалі Паўла і прыгаварылі да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў за «сувязь з разведкай буржуазнай Польшчы». А потым восенню 1937 года арыштавалі і Алену. Павел Крынчык быў этапаваны ў адзін з калымскіх лагераў. А Алена Лябецкая была выслана ў адзін з лагераў Усходняй Сібіры.

На Радзіму Алена Лябецкая вярнулася ў 1947 годзе, а Павел Крынчык — у 1956 годзе. Яны жылі ў Слоніме, дзе і памерлі. Пасля сябе Павел Крынчык і Алена Лябецкая пакінулі невялікія ўспаміны пра барацьбу і дзейнасць у 1920–1930-х гадах у Заходняй Беларусі. Гэтыя ўспаміны друкаваліся ў кнігах «У суровыя гады падполля» (Мінск, 1958), «Годы испытаний и мужества» (Мінск, 1973), «Вильнюсское подполье» (Вільнюс, 1966). Пра сталінскія лагеры ўспамінаў яны не пісалі.

Неяк, перад выступленнем у адной са школ, Алена Канстанцінаўна Лябецкая сказала: «Мы ніколі не ішлі на гатовае, мы ўсё аддавалі справе роднай Беларусі, бо ў нас іншых шляхоў не было».



# Паэт служыў Радзіме



*Анатоль Іверс*

У Слоніме ў доме № 8 на вуліцы Дабрыяна цяпер жывуць іншыя людзі. Я стараюся ў тым раёне бываць рэдка. Бо калі праходжу каля хаты, дзе жыў паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) са сваёй жонкаю Нінай Паўлаўнай, сэрца пачынае шчымець ад таго, што ўжо няма гэтага сціплага чалавека і цікавага паэта. Яго не стала ў кастрычніку 1999 года, а крыху раней памерла і Ніна Паўлаўна.

Калі бываў вольны час, я спяшаўся ў гэтую хату. Адчыняў знаёмыя веснічкі, праходзіў па невялікім дагледжаным надворку, заходзіў у сенцы, дзе пахла бульбаю і сушанымі яблыкамі ці грушамі. З парога мяне вітала шчырая Ніна Паўлаўна — сяброўка па жыцці і жонка паэта. А Іван Дарафеевіч, як звычайна, сядзеў за сталом у сваім чысценькім невялікім пакойчыку і нешта пісаў.

«Пажаніліся мы летам 1945 года, — расказвала Ніна Паўлаўна. — Вось з таго часу і разам. А пазнаёміліся ў рэдакцыі слонімскай газеты «Вольная праца», дзе я працавала літработнікам. Мне ён тады вельмі спадабаўся. Раней у Слоніме я не бачыла і не сустракала прыгажэйшага за яго мужчыну. Хаця на першы погляд здавалася, што Іван звычайны, як усе. Але заўсёды, у адрозненне ад іншых, ён быў і заставаўся паэтам. Вершы яго мне таксама падабаюцца. Я, напрыклад, як выйду зімою на вуліцу, заўжды прыгадваю яго радкі:

Марозам траскучым па хвоях
Наступная прыйдзе зіма.

Асабіста мне муж прысвяціў толькі адзін верш — «Развеяліся хмары». Але я ніколі на гэта не крыўдавала…».

Гэты верш быў надрукаваны ў апошнім зборніку Анатоля Іверса «Травень» (Слонім, 1997). У ім ёсць і такія радкі:

Сяброўка трапілася мне
Не горшая, чым марыў.
І перастала ўжо цямнець,
Развеяліся хмары.

Так, хмараў у жыцці паэта са Слоніма было шмат. Нарадзіўся ён 15 траўня 1912 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Праз два гады сям'я падалася ў бежанства. Жылі ў Казанскай губерні і ў Кіеве. Вярнуліся дамоў толькі ў 1918 годзе.

Як ні цяжка было, але за гэты час маленькі Іван навучыўся чытаць па-руску, а калі вярнуўся з бацькамі ў родныя Чамяры, пайшоў «перавучвацца» ў польскую пачатковую школу. Аднак гэтыя мовы былі для яго чужыя. Хлопчыку хацелася вучыцца ў беларускай школе. Аднойчы летам з Віленскай беларускай гімназіі прыехаў у Чамяры Казімір Чартовіч, які за лета падрыхтаваў чамяроўскіх дзяцей да паступлення ў гімназію. Сярод гэтых вучняў быў і Іван Міско. У 1926 годзе ён становіцца вучнем Беларускай гімназіі ў Вільні. Там чамяроўскі хлопец знаёміцца з Алесем Салагубам, Язэпам Урбановічам, Міхасём Васільком. Раскідвае лістоўкі, носіць у турму мапраўскія перадачы для вязняў, расклейвае плакаты, ходзіць на дэманстрацыі рабочых. Аднойчы паліцыя разагнала забастоўшчыкаў, а некалькі дзясяткаў навучэнцаў былі выключаны з гімназіі, у тым ліку і Іван Міско, якога пад канвоем прывезлі ў Чамяры і пад распіску здалі бацькам.

Потым былі яшчэ дзве спробы працягваць адукацыю — у Клецкай і Навагрудскай гімназіях, але і адтуль «бунтар» Міско быў выключаны. У 1931 годзе юнак вярнуўся ў родную вёску.

У адзін з вечароў да Івана Міско зайшоў незнаёмы хлопец, перадаў прывітанне ад Валянціна Таўлая і папрасіў згоды на подпіс пад Дэкларацыяй сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Дэкларацыя і першы верш Івана Міско пад псеўданімам Анатоль Іверс былі апублікаваныя ў студзеньскім нумары часопіса «Літаратурная старонка» за 1934 год. Праўда, наклад часопіса быў канфіскаваны, але з друкарні ўдалося вынесці толькі некалькі нумароў.



Праз пэўны час вершы Анатоля Іверса сталі часта друкавацца на старонках выданняў «Літаратурная старонка», «Калоссе», «Беларускі летапіс», «Шлях моладзі», «Наша воля», «Асва». А ў верасні 1939 года ў Вільні выходзіць яго першы паэтычны зборнік «Песні на загонах».

Аб чым пісаў малады паэт са Слонімшчыны? Ды пра тое, як шуміць жыта, як «хтось расчэсваў зялёныя сосны», як «заігралі ветры ў полі», як «залацілася раніца ападаючым шэлестам». Ці пра тое, як «ціха гарэлі аўсяныя росы…». А яшчэ паэт пісаў пра Беларусь, пісаў шчыра і светла, натхнёна і радасна:

Адзначыць каб добрую ўдачу,
Я зораў з сабой набяру
І жменяю сыпну — няйначай,
На славу табе, Беларусь.

Калі прыйшлі «першыя саветы» і ў Слоніме пачала выдавацца раённая газета «Вольная праца», яе першы рэдактар Іосіф Чарняўскі запрасіў Івана Міско на пасаду літсупрацоўніка рэдакцыі. А ў 1940 годзе на выязным пасяджэнні ў Беластоку кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі БССР прыняло Анатоля Іверса ў Саюз пісьменнікаў.

У гады Другой сусветнай вайны Іван Міско ўзначальваў Слонімскую падпольную антыфашысцкую арганізацыю і быў намеснікам камандзіра партызанскага атрада імя Дзяржынскага па разведцы. У лесе выдаваў антыфашысцкую газету «Барацьба», лістоўкі, дапамагаў выпускаць падпольную «Вольную працу».

Вайна прайшла праз сэрца і душу Анатоля Іверса. Ён страціў першую жонку і бацьку, ды і сам быў на валаску ад гібелі. Але, нягледзячы на ўсе яго асабістыя пакуты і заслугі перад Айчынай, для савецкай улады паэт Анатоль Іверс у Слоніме заўсёды заставаўся чужым. І нават другі паэтычны зборнічак вершаў выйшаў з друку ажно праз 31 год пасля першага. «Не хацелі камуністы выдаваць», — казаў ён мне. Зборнік называўся «З пройдзеных дарог». Дарог сапраўды было пройдзена шмат. Нялёгкіх дарог, пакручастых, небяспечных і палыновых. Таму выхад другога зборнічка вершаў для Івана Дарафеевіча быў вялікай радасцю. У яго ўвайшлі вершы, напоўненыя пачуццём

У трыпціху «Роднае» (Выбраныя творы. У 2 т. Мінск, 1992. Т. 2. С. 336) Алег Лойка сказаў: «Мае першыя святло, прастор і любоў — Слонім». Тут паэт на Татарскай вуліцы нарадзіўся, на Зялёнай вуліцы жыў, на Чырвонаармейскай — хадзіў у першую беларускую школу. І пра ўсе гэтыя вуліцы ў паэта напісаны вершы:

Я вырас на Зялёнай,
Дзе яблыні і вішні,
І маладыя клёны
Ля вербаў, зграбных, пышных…
Па самай жа галоўнай —
Па Чырвонаармейскай,
Слязою шчасця поўны,
Я нёс байцам пралескі!

*(Зборнік «Грайна». Мінск, 1986. С. 23)*

На Чырвонаармейскай вуліцы (былой 3 Мая) да вайны ў невялікай хатцы жыў слынны беларускі паэт Гальяш Леўчык. Да яго ў 1939 годзе, едучы з Беластока ў Мінск, заязджаў Янка Купала. Ён, дарэчы, быў рэдактарам першай кніжкі Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912). Старыя сябры сустрэліся, паабедалі ў Першым беларускім рэстаране, і Купала на сваім «шэўрале» паехаў па вуліцы Маставой на Мінск. Цяпер вуліца Маставая носіць імя Янкі Купалы. Алег Лойка так і назваў свой верш — «На вуліцы Янкі Купалы ў Слоніме». А пачынаецца ён радкамі, у якіх любоў да роднага горада шчыра асветлена памяццю пра вялікага паэта:

Родны мой горад, спрадвечны горад,
Памяць чыя глыбей, чым твая?..
Дай скалынуць твае радасці, гора,
Дай перажыць іх з табой удвая!
Дай, прывярні тыя дні, тыя хвілі,
Госцем калі тут Купала быў:
Вулкі твае яго не забылі,
І ён жа іх, пэўна, нідзе не забыў.
Чуў ты біццё яго сэрца, горад,
Хвалямі Шчары думы ўздымаў:



Усю Беларусь абдымаўшы, як мора,
Ён і цябе, горад мой, абдымаў…

*(Зборнік «Грайна». С. 12–13)*

Гальяш Леўчык загінуў у 1944 годзе ў Варшаве. Разам з паэтам вайна знішчыла і яго варшаўскую кватэру і вялікі беларускі архіў, які ён збіраў усё сваё жыццё. Нібы працягам верша пра вуліцу Янкі Купалы ў Слоніме з’яўляецца верш Алега Лойкі «На Маршалкоўскай пад Аркадамі». Ён прысвечаны былым слонімцам, цяпер — варшавякам, якія раз у месяц — у сераду — збіраюцца ў Варшаве на Маршалкоўскай вуліцы і ўспамінаюць Слонім.

Родны горад і слонімцы гняздзяцца ў кожным паэтычным зборніку Алега Лойкі. Напісаны дзясяткі вершаў-прысвячэнняў землякам: Анатолю Іверсу, Валянціну Таўлаю, Янку Саламевічу, Міколу Арочку, скульптару Івану Міско, старшыні калгаса Антону Дабрэнку, настаўнікам, аднакласнікам. Сам Слонім ва ўяўленні і выяве паэта ў кожным вершы заўсёды раствараецца ў прыродзе, зліваецца ў гістарычных і экалагічных усведамленнях паэта. Гэта вершы шчырыя, добрыя, запамінальныя. А інакш ён пра родны горад і пісаць не ўмее:

У зелені — бель камяніц, касцёлаў.
Уецца Шчара, бліскаючы срэбрам.
Спыніўшыся на ўзгорках, навакола
Лясы стаяць, падпёршы купал неба.
Я вырас, захапляючыся тут
Высокім небам, Шчары ціхім звонам,
Агністым сонцам, лесам задумёным,
Мурамі і людзей жыццём штодзённым,
І сэрцам палюбіў я гэты кут —
Цябе, мой старадаўні родны Слонім.

*(Зборнік «Пралескі ў акопах». Мінск, 1987. С. 11)*

# Тэатральны рэжысёр Мікалай Варвашэвіч



*Мікалай Варвашэвіч*

З заслужаным работнікам культуры Беларусі, тэатральным рэжысёрам Мікалаем Фёдаравічам Варвашэвічам я быў знаёмы шмат гадоў. Не раз пісаў пра яго сцэнічныя пастаноўкі яшчэ тады, калі ён узначальваў Слонімскі народны тэатр, і пра ўсе прэм'еры Слонімскага беларускага драматычнага тэатра. Аднойчы, а гэта было ў 1992 годзе, ён узяў мяне на гомельскі фестываль «Драматычнае мастацтва Беларусі». «Складвай чамадан, паедзем на тыдзень у Гомель. Трэба табе дасканала ведаць сённяшнюю тэатральную сітуацыю ў Беларусі. А таксама пазнаёмлю цябе са сваімі сябрамі», — сказаў Мікалай Фёдаравіч. І мы паехалі.

Менавіта там, у Гомелі, сярод беларускіх акцёраў, рэжысёраў і тэатральных крытыкаў, я адчуў і ўбачыў, якім усё ж вялікім аўтарытэтам і павагай карыстаўся сярод творчай тэатральнай інтэлігенцыі гэты апантаны і ўлюбёны ў сваю справу чалавек.

Бацькоў сваіх Мікалай Варвашэвіч не памятаў. Іх знішчылі немцы ў гады Другой сусветнай вайны. Сіроцкі лёс закінуў яго спачатку ў Целяханскі дзіцячы дом, а затым да цёткі ў Ленінград. Шмат яны тады зведалі гора і бяды ў пасляваенным, разбураным горадзе на Няве. Але ўсе цяжкасці вытрымалі і перажылі.

У 1957 годзе беларускі юнак (нарадзіўся ў вёсцы Раздзялавічы Ганцавіцкага раёна) Мікалай Варвашэвіч паступае ў Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі. Ён любіў успамінаць гады вучобы, сваіх аднакурснікаў і выкладчыкаў. Відаць, вучоба пайшла юнаку на карысць, і яна прадвызначыла яго далейшы лёс.

Пасля заканчэння інстытута маладога рэжысёра накіравалі на працу ў Калінінскі абласны тэатр (цяпер гэта горад Цвер). Першай



яго самастойнай пастаноўкай быў спектакль «На бойкім месцы» па п'есе А. Астроўскага. Пасля былі пастаўлены іншыя спектаклі па п'есах рускіх і савецкіх драматургаў.

Жывучы ў Калініне, Мікалай Варвашэвіч вельмі хацеў вярнуцца на Бацькаўшчыну. Але такой мажлівасці, на жаль, не было. І вось неяк ён сустракае свайго аднакласніка Эдуарда Усачова, які працаваў тады ў Горацкай беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён прапаноўвае Мікалаю Варвашэвічу прыехаць на Беларусь. Прапанова была з радасцю прынята, і ў 1964 годзе наш зямляк працуе ўжо дырэктарам Дома культуры ў Горках Магілёўскай вобласці і адначасова ўзначальвае тэатральны калектыў мясцовай сельскагаспадарчай акадэміі.

У пачатку 1968 года Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч прыязджае ў горад над Шчарай і пачынае кіраваць Слонімскім народным тэатрам. І тут яго першай самастойнай працай быў таксама спектакль «На бойкім месцы» А. Астроўскага. Памятаю, неяк спытаўся ў яго наконт любімага спектакля. Ён задумліва і з нейкай настальгіяй адказаў: “Ты пытаеш, ці ёсць у мяне любімыя спектаклі, якія я часта ўспамінаю. Вядома ж, ёсць. Гэта ў першую чаргу «На бойкім месцы» А. Астроўскага, «Барабаншчыца» А. Салынскага, першая пастаноўка «Паўлінкі» Янкі Купалы, «Ганка» У. Галубка, «Сабака з залатым зубам» У. Сауліча… Ды дзе ж іх усе пералічыш”.

Так, сапраўды, спектакляў у Слоніме рэжысёрам М. Варвашэвічам было пастаўлена шмат. Але больш за ўсё майстар сцэны звяртаўся да беларускай драматургіі. За заслугі перад тэатральным мастацтвам рэспублікі яму ў 1975 годзе было прысвоена званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

Мікалай Варвашэвіч шмат працаваў. У яго было многа задумак, планаў, энергіі. Народны тэатр ён ператварыў у самастойную тэатральную студыю. А ў 1990 годзе на базе тэатра-студыі быў адкрыты прафесійны дзяржаўны беларускі драматычны тэатр. Шчыра кажучы, гэта быў беларускі тэатр Мікалая Варвашэвіча. Тэатр у асноўным працаваў на роднай мове. Ён шмат гастраляваў па Беларусі, а на прэм'ерах заўсёды былі аншлагі. Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч стараўся сабраць у свой калектыў таленавітых людзей Слоніма, найперш тых, хто хоць трохі меў дачыненне да тэатральнага мастацтва, культуры, літаратуры. І людзі да яго ішлі і ў яго вучыліся. Ён і

мяне пастаянна клікаў да сябе, калі я працаваў у рэдакцыі газеты «Слонімскі веснік». «У тэатры ты будзеш больш вольны чалавек, у цябе будзе шмат часу пісаць тое, што ты хочаш», — казаў ён мне. І я паслухаў Мікалая Фёдаравіча і прыйшоў у тэатр на пасаду загадчыка літаратурнай часткі. І аб гэтым зусім не шкадую.

Мы часта з ім размаўлялі пра жыццё, пра тэатр і драматургію. Неяк ён мне сказаў: «Даўно мару ажыццявіць пастаноўку п'есы Лопэ дэ Вэга "Сабака на сене". Вельмі люблю гэты драматычны твор. Таксама хачу паставіць п'есу Шэкспіра "Рамэа і Джульета". Хачу паказаць сённяшняму гледачу, як па-сапраўднаму можна кахаць, якія чыстыя і светлыя пачуцці мае чалавек. Праўда, ёсць і ў беларускай літаратуры добрыя драматычныя творы. Але не такія ўсё ж глыбокія, як, напрыклад, п'есы Шэкспіра, Мальера. Прычынай, відаць, застаецца той савецкі час, калі творы пісаліся амаль па заказу. Таму шмат згублена. Але тое, што напісана Янкам Купалам, Уладзіславам Галубком, Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам, Францішкам Аляхновічам, — гэта наш нацыянальны скарб. І да гэтага скарбу трэба нам часцей звяртацца. І мы гэта пастаянна будзем рабіць».

Мікалай Варвашэвіч быў у Слоніме даволі вядомым чалавекам. Ён добра ведаў жыццё і людзей. Таму ў 1995 годзе мастацкі кіраўнік Слонімскага беларускага драмтэатра вырашыў вылучыць сваю кандыдатуру на пасаду дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. І шансы ў яго былі вялікія. Тым больш, што Мікалай Фёдаравіч не быў за сваё жыццё разбэшчаны пасадамі, хабарам, карупцыяй, а гэта быў культурны, адукаваны, працаздольны чалавек.

Але стаць дэпутатам Мікалаю Варвашэвічу не пашанцавала. Бо ён, па падліках камісіі, не набраў пэўную колькасць галасоў выбаршчыкаў. Ды ён аб гэтым не шкадаваў, ён перажываў толькі аб тым, што былыя партыйныя камуністычныя функцыянеры і наменклатуршчыкі розных узроўняў не здольныя былі зразумець новы час і яго патрабаванні.

Наогул, Мікалай Варвашэвіч не любіў мясцовых чыноўнікаў і не хацеў з імі асабліва кантактаваць. Ён любіў тэатр, ён ім жыў і шанаваў свой калектыў, які яго паважаў і цаніў.

Летам 2000 года Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч звольніўся з тэатра па стану здароўя. А восенню 2001 года яго не стала. Пахавалі Мікалая Варвашэвіча ў Свіслачы, на радзіме ягонай жонкі.



# Згадка пра Валянціну Ададураву

Пра слонімскую паэтку і настаўніцу Валянціну Ададураву нагадвае толькі адзіны зборнічак яе вершаў «Глыбінка», які выйшаў з друку ў Слонімскай друкарні за год да смерці Валянціны Захараўны — у 1994 годзе.



*Валянціна Ададурава*

Кожны раз, калі еду ў родную вёску паэткі Хадзявічы, а гэта і мая родная вёска, мне прыгадваюцца яе цудоўныя шчырыя радкі:

Куточак родны — Хадзявічы.  
Да вас шляхі з усіх канцоў.  
Ды незнаёмы, непрывычны  
Мне твары юных хадзяўцоў.  
Дадому ў госці… Крыўдна шчыра.  
Ды птушкам быць не век ў гняздзе.  
Хай будзе найцяплейшы вырай,  
А сцежка зноў сюды вядзе.

Разам з гэтымі радкамі прыгадваецца і сама Валянціна Захараўна. Не так часта прыходзілася з ёй сустракацца, бо жыла яна ў суседняй з Хадзявічамі вёсцы Елка Зэльвенскага раёна, але такія сустрэчы былі. Найбольш яе цікавіла тое, аб чым я пішу. Яна пыталася заўсёды, што новае ў літаратуры, у нашай культуры. Была Валянціна Ададурава вельмі сціплай, адукаванай, інтэлігентнай жанчынай. Але лёс ёй не даў пажыць шмат, невылечная хвароба рана загнала яе ў магілу.

Як Максім Багдановіч, так і мая зямлячка пры жыцці паспела выдаць толькі адзіны зборнічак светлай паэзіі «Глыбінка». Па сваім светаадчуванні, светаразуменні, манеры думаць і гаварыць Валянціна Ададурава была найперш вясковай, сялянскай паэткай. Яе любоў да роднага краю была настолькі магутнай, усёабдымнай, што, правёўшы дзяцінства, юнацтва ў вёсцы, паэтка зрабіла яе галоўным героем у

сваіх паэтычных радках. Свае вершы яна прысвяціла роднай вёсцы Хадзявічы, зэльвенскім вёскам Шавулічы, Манцякі, Ялуцавічы, Елка, Крамяніца, родным краявідам і землякам. Уся істота паэткі была ахоплена такой нястрымнай любоўю да маленькай радзімы, што нічога, апроч яе, яна проста не магла ўспрымаць:

Гайдае рэчка тут ваду
Знаёмымі ўсплёскамі.
А я сцяжынкаю іду,
А я прыспешваю хаду —
Спаткацца з роднай вёскаю.

Валянціну Ададураву вельмі хваляваў і лёс роднай зямлі, мовы і народа, прыгажосць беларускай прыроды, пытанні маралі і міру. Пра гэта яна таксама пісала. Няўтольная прага любові да ўсяго блізкага, да гродзенскага краю, Бацькаўшчыны, шчырых і добрых людзей гучала ў яе мілых, адкрытых паэтычных радках. Вельмі часта перачытваю яе «Глыбінку» — зборнічак жаночых пачуццяў, захапленняў, радасці, дзе хораша апета родная зямля, якая як магніт прыцягвала яе чуллівае сэрца. Чытаю яе вершы сёння і адчуваю, што без Беларусі ёй не было б спакою, не было б натхнення і святасці. Паэзія, землякі і родная зямля яе лячылі, суцяшалі, а паэтка іх апявала ў сваіх вершах. Гэтыя вершы Валянціна Ададурава пакінула нам як напамін пра яе, як наказ, як трэба любіць бацькоўскі кут, захапляцца ім, берагчы і шанаваць яго.

## Педагог і паэт Уладзімір Весялуха

Педагог і паэт Уладзімір Весялуха — мой зямляк. Але так склаўся лёс, што сустрэцца нам на гэтым свеце, на вялікі жаль, не ўдалося. Аб чым, як заўсёды, вельмі шкадую.

Памятаю, калі быў яшчэ школьнікам, у слонімскай раённай газеце сяды-тады друкаваліся вершы Уладзіміра Весялухі. Я іх чамусьці добра запомніў. Бо неяк аднойчы Генадзь Каханоўскі мне напісаў у лісце, што ў Вілейцы жыве мой зямляк Уладзімір Весялуха — добры паэт, педагог і краязнавец, які падрыхтаваў і выдаў некалькі кніг. І прыслаў мне вілейскі адрас земляка. Я адразу ўспомніў пра




*Уладзімір Весялуха*

вершы з «раёнкі» Уладзіміра Весялухі і падумаў: магчыма, гэта і ёсць той Весялуха. А потым напісаў у Вілейку пісьмо. Але адказу доўга не было. І дзесьці ў сярэдзіне 1990-х гадоў прыйшоў ад Уладзіміра Весялухі ліст і невялікая бандэролька з кнігамі. Нядаўна ў папках свайго хатняга архіва адшукаў я гэты першы ліст. Прыгожым роўненькім почыркам Уладзімір Мікалаевіч пісаў: «Паважаны Сяргей Мікалаевіч! Шчыра ўдзячны Вам за лісты і ўвагу да мяне. І адразу прашу прабачэння за маўчанне. Першае пісьмо прыйшло на адрас аддзела адукацыі, дзе я працаваў, але нехта памылкова, мабыць, яго са сваімі паперамі знішчыў, а адраса ў мяне не засталося. Спрабаваў даведацца ад брата, які жыве ў Слоніме, але ён мне не змог дапамагчы. Цяпер, маючы адрас, пастараюся трымаць з Вамі сувязь.

Коратка пра сябе. Працую ў Вілейскай гімназіі намеснікам дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце і выкладаю беларускую мову і літаратуру. Па меры магчымасці займаюся з вучнямі, якія праяўляюць літаратурныя здольнасці. Патроху пішу і сам. Друкаваўся ў мясцовай газеце. Некалькі вершаў змясціў у калектыўным зборніку «Спатканне» (1994), які Вам дасылаю.

Наконт дзвюх кніг, аб якіх гаварыў Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі. Гэта кнігі не з маімі творамі: адна з іх накшталт даведачнага матэрыялу пра літаратурную Вілейшчыну на аснове сабранага мною матэрыялу (экзэмпляр Вам дасылаю, праўда, ужо засталіся без вокладак (працую над дапаўненнем брашуры); а другая — з вершамі вучняў сельскіх школ — «Усё пачынаецца са школы», укладальнікам якой я з’яўляюся.

Шчыры дзякуй, Сяргей Мікалаевіч, за зборнік Вашых вершаў «Шчырая Шчара». Прачытаў на адным дыханні, прачытаў і нібы пабываў на радзіме, па якой часам сумую. Многія вершы ўражваюць, а адзін з іх (думаю, Вы не пакрыўдзіцеся) я выкарыстаў у 11 класе на заключным уроку па творчасці Васіля Быкава. Дарэчы, Ваша імя часта сустракаю ў перыядычным друку, што, безумоўна, радуе.

На гэтым свой кароткі ліст заканчваю. Да чарговай, хоць і завочнай, сустрэчы! З удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі Уладзімір Весялуха».

Вось такі быў першы ліст ад майго земляка са Слонімшчыны Уладзіміра Весялухі. Пасля мы перапісваліся. Але не так часта. Тым не менш сувязі не гублялі. А летам 2004 года зайшоў у рэдакцыю «Газеты Слонімскай», дзе я працаваў, пляменнік Уладзіміра Весялухі — міжнародны арбітр па шашках Аляксандр Аніська, і сказаў, што 1 жніўня не стала Уладзіміра Мікалаевіча. Я быў шакіраваны: майму земляку 2 студзеня споўнілася толькі 56 гадоў.

Уладзімір Весялуха нарадзіўся 2 студзеня 1948 года ў вёсцы Старыя Дзявяткавічы Слонімскага раёна. У сям'і Весялухаў было шасцёра дзяцей. Гадавала іх адна маці, бо бацькі рана не стала — яго забіла маланка.

Уладзімір скончыў мясцовую дзесяцігодку. Спачатку працаваў загадчыкам клуба, бібліятэкарам у роднай вёсцы, а пасля завочна паступіў на філфак Белдзяржуніверсітэта. Калі стаў завочнікам-студэнтам, яго прызначылі на пасаду дырэктара Хмяльніцкай васьмігадовай школы на Слонімшчыне. Дарэчы, той школы, дзе з восені 1912 да траўня 1915 года настаўнічаў Ігнат Дварчанін. Цяпер у Хмяльніцы няма школы.

У пачатку 1980-х гадоў Уладзімір Весялуха з сям'ёй пераехаў у Вілейку. У апошнія гады свайго жыцця ён працаваў у мясцовай гімназіі № 1. Настаўнік не толькі актыўна займаўся педагагічнай дзейнасцю, але і выхоўваў у дзяцей любоў да роднай культуры, да матчынай мовы. Ён добра разбіраўся ў паэзіі, ведаў яе, цаніў працу беларускіх літаратараў. Уладзімір Весялуха даследаваў літаратурную Вілейшчыну. Для школьнікаў ён падрыхтаваў і выдаў брашурку пра літаратараў Вілейшчыны. А ў 1990 годзе ў Вілейцы, пры падтрымцы аддзела народнай адукацыі Вілейскага райвыканкама, выйшаў зборнічак паэзіі школьнікаў пад назваю «Усё пачынаецца са школы…». Гэты зборнічак склаў і рэдагаваў Уладзімір Мікалаевіч. У ім надрукаваны вершы 22 юных паэтаў Вілейшчыны. І ўсе вершы на беларускай мове, толькі адзін па-руску. Цяпер гэтым паэтам па 30 і больш гадоў. А тады яны былі вучні 5–11 класаў. Зборнік пачынаўся вершам «Беларусь» вучаніцы Даўгінаўскай сярэдняй школы Святланы Ляшковіч:



Беларусь, родны край,
Мілы кут.
Люба сэрцу ты мне,
Бо радзіма мая —
Гэта звонкая песня,
Што ля рэчкі плыве,
Гэта матчына доля,
Што жыццё мне дае,
Гэта тыя бярозы,
Што стаяць у бары,
Гэта бацькавы рукі,
Што ў працы заўжды.
Ўсім паклон я даю:
Лясам, рэкам і долам,
Людзям, птушкам, звярам,
Маладым навасёлам.
Пакуль сонца свеціць,
Пакуль месяц ззяе,
Беларусь назаўжды
Застаецца з намі!

Ва ўступным слоўцы да гэтай кніжачкі Уладзімір Весялуха сказаў: «Усё пачынаецца са школы…». Такая назва зборніку вучнёўскіх вершаў дадзена невыпадкова. Як вялікая рака пачынаецца з маленькіх ручайкоў, так і вялікая любоў да Радзімы, людзей, усяго, што акружае, пачынаецца са школьнай парты. Не будзем строга судзіць юных паэтаў за пэўную недасканаласць іх вершаў. Галоўнае, што іх вызначае, — шчырасць, дзіцячая непасрэднасць, а часам — і лятуценнасць. Пажадаем жа ім любоў да мастацкага слова пранесці праз усё жыццё. Магчыма, нехта з іх стане нашым гонарам…».

Можа, нехта з аўтараў зборнічка «Усё пачынаецца са школы…» і сапраўды стаў гонарам Вілейшчыны. Але гэта найперш дзякуючы сціпламу і шчыраму настаўніку Уладзіміру Мікалаевічу Весялуху. Творы некаторых паэтаў з вышэйзгаданага зборнічка я прачытаў ужо ў кнізе вершаў «Спатканне» (Вілейка, 1994). Яны былі надрукаваны побач з паэтычнымі радкамі іх настаўніка. Гэты зборнік тады стаў

плёнам творчай дзейнасці сяброў аб'яднання «Майстэрства. Фантазія. Шчодрасць», якое працавала пры Вілейскай гарадской бібліятэцы. У «Спатканні» на суд чытачоў Уладзімір Весялуха вынес 7 вершаў, прысвечаных настаўнікам, Максіму Багдановічу, Н. Ф. Купрыянавай, якая ў часы Другой сусветнай вайны не дачакалася сваіх сыноў, а таксама вершы-развагі пра наша жыццё.

Многія творы Уладзіміра Весялухі раскіданы па розных выданнях. Бо ён пісаў не толькі вершы, але і педагагічныя артыкулы, рэцэнзіі на кнігі і падручнікі. Свае працы друкаваў у раённых выданнях Слоніма і Вілейкі, у «Настаўніцкай газеце» і ў іншай перыёдыцы. У адным з пісем Уладзімір Мікалаевіч напісаў: «Сваіх зборнікаў я пакуль не выдаваў і не планаваў выдаваць. Думаю, што пакуль рабіць гэта не варта…». Тым не менш, творчая спадчына Уладзіміра Весялухі павінна быць сабрана пад адну вокладку і выдадзена. І гэта будзе найлепшай памяццю пра яго.

## Працаўнік на ніве дзвюх культур



*Уладзімір Сакалоўскі*

Пра беларускага пісьменніка і перакладчыка Уладзіміра Сакалоўскага прафесар Адам Мальдзіс неяк сказаў: «Я не ўяўляю сабе беларуска-нямецкія грамадска-культурныя, асабліва літаратурныя сувязі без прац Уладзіміра Сакалоўскага. Ён адкрыў многія іх факты, сістэматызаваў і абагульніў». Да гэтых слоў я хачу яшчэ дадаць, што я, як зямляк Уладзіміра Лявонцьевіча, не ўяўляю Слонімшчыну без яго. Хаця асоба Уладзіміра Сакалоўскага даволі значная не толькі ў маштабах сваёй маленькай радзімы, але і ў маштабах усёй Бацькаўшчыны.

Здаецца, пазнаёміўся я з Уладзімірам Лявонцьевічам Сакалоўскім дзесьці ў сярэдзіне 1980-х гадоў. Тады якраз з друку



выйшлі дзве яго арыгінальныя кнігі, якія адразу зрабілі даследчыка літаратуры вядомым і кампетэнтным знаўцам у галіне перакладу і нямецка-беларускіх сувязяў. Гэта былі кнігі «Пара станаўлення» і «Беларуская літаратура ў ГДР». Гэтыя кнігі літаратуразнавец мне даслаў у Слонім, і я пра іх напісаў добрыя словы ў мясцовым друку. Так мы пасябравалі.

Родам Уладзімір Сакалоўскі са слонімскай вёскі Мяльканавічы. Бацька яго, Лявонцій Аляксеевіч, на вёсцы быў даволі адукаваным чалавекам. Ён у свой час скончыў гімназію і некалькі курсаў Варшаўскага ўніверсітэта. Добра валодаў беларускай, польскай, рускай і нямецкай мовамі, ведаў таксама лацінскую і старажытнагрэцкую мовы, прымаў актыўны ўдзел у мясцовай філіі Таварыства беларускай школы (ТБШ). Так што прыклад Уладзіміру было з каго браць. Таму юнак з далёкай слонімскай вёскі таксама пайшоў у навуку, бо меў талент да замежных моў, да вучобы.

Пасля заканчэння факультэта замежных моў Гродзенскага ўніверсітэта Уладзімір Сакалоўскі працаваў перакладчыкам ва Усходняй Германіі, потым выкладаў нямецкую мову ў Латвіі, працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, пасля — у Бонскім універсітэце. Побач з беларускай моваю ў яго заўсёды была нямецкая. А асноўнай тэматыкай даследаванняў стала гісторыя развіцця і ўзаемадзеяння беларускай і нямецкай культур.

Ведаў даўно, што ў 1961 годзе ў Боне на нямецкай мове выйшла кніга Анджэя Цеханавецкага «Michal Kazimierz Oginski und sein Musenhof zu Slonim». Кніга гэта ўнікальная, яна з'яўляецца адным з першых спецыяльных даследаванняў па гісторыі прыдворнага тэатра Беларусі, да таго ж напісаная аўтарам на невядомых раней архіўных матэрыялах. Доўгі час гэтае выданне было недаступным беларускім даследчыкам і простым чытачам. І толькі дзякуючы Уладзіміру Сакалоўскаму кніга Анджэя Цеханавецкага пабачыла свет і ў Беларусі. Першае выданне па-беларуску выйшла ў 1993 годзе і адразу хутка разышлося. Другое выданне з больш дапоўненымі каментарыямі ў перакладзе Уладзіміра Сакалоўскага з'явілася чатыры гады таму.

У апошні час беларускі вучоны і перакладчык вялікую ўвагу аддаваў даследаванню Беларусі ў перыяд Першай сусветнай вайны, а таксама Надзвычайнай місіі БНР у Нямеччыне. Справа ў тым, што

адну з важных роляў у знешнепалітычнай дзейнасці Беларускай Народнай Рэспублікі адыграла Надзвычайная місія рэспублікі ў Берліне, якая на працягу амаль сямі гадоў (1919–1925) у цяжкіх і складаных умовах годна прэзентавала Беларусь у Нямеччыне і доўгі час з'яўлялася адным з галоўных цэнтраў БНР па каардынацыі дзейнасці беларускіх дыпламатычных прадстаўніцтваў за мяжой. Вось гэты перыяд актыўна і грунтоўна даследаваў Уладзімір Сакалоўскі. Вялікі артыкул на гэту тэму ён апублікаваў у часопісе «Arche».

Усе кнігі, артыкулы, выступленні Уладзіміра Сакалоўскага немагчыма пералічыць. Дый няма сэнсу. Усё зробленае ім трэба чытаць, даследаваць, аналізаваць. Працы яго — сур'ёзны ўклад у нашу айчынную гісторыю.

20 чэрвеня 2013 года майго земляка Уладзіміра Сакалоўскага не стала.

## Яму сніліся Скарына і Міндоўг

Усё жыццё беларускага паэта Міколу Арочку (1930–2013) роздумна займала ідэя самапазнання — сябе і свайго народу, ягонай духоўнай красы і яе стратнасці. Таму і сёння паўстае пытанне: на якіх жыццёвых вузлах, з якіх мэтаў, памкненняў нараджаліся складнікі яго паэтычнага бачання і светавымярэння?

Ва ўступе «Вымярэнні майго свету» да сваіх выбраных твораў «Памяць зярнятаў» (Мінск, 1991) ён пакінуў сціслае сведчанне: яму суджана было апынуцца на вострых зломах вырашальна-цяжкіх гістарычных падзей XX стагоддзя — дыхаць атмасферай нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў нашай Заходняй (гэта ўвасобіцца як адно з творчых вымярэнняў у драматычнай паэме «Мелодыя Таўлая»), трапіць у спісы высялення пры «тых» Саветах («Спісы высялення», «Сіта»), потым — у пекла нямецкага «катла» ў лясным акружэнні («Бацькоўскі гай»), стаяць пад расстрэлам на вогненным партызанскім хутары («Партызанскі хутар», «Балада пра няскошанае жыта»), падзяляць долю на вачах растаптанага калектывізацыяй гаспадара-селяніна («Бацькава відушчасць», «Маналог знішчанага селяніна»), зведаць хіжа выпушчаныя кіпці «чорнага ворана», накліканага, як гора на матчыну хату, першай свавольнай рыфмай…





*Мікола Арочка з маці ў роднай вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна, 1958 год. Фота Янкі Брыля*

Можа, некалі і не суджана было б пачаткоўцу, падлетку-пастушку выкараскацца з кволасці першых вершаваных практыкаванняў, калі б спакваля ўжо тады, у перакалочаныя школьныя гады, не пастукаўся ў яго дасціпнае трывожнае светасузіранне спадчынны сум па адраджэнні нацыянальнай, вякамі патаптанай самасвядомасці беларуса. Адбылося гэта, пэўна ж, дзякуючы беларускаму настаўніку Вялікакракоцкай няпоўнай сярэдняй школы Слонімскага раёна Васілю Пракопавічу Трафімовічу, да якога з суседняй глухаватай вёсачкі Вецявічы юнак Мікола, ледзь перамагаючы ўвагнаную вайной хваробу, папрасіўся на кватэру. У свой час, як распавядаў мне некалі Мікола Арочка, Васіль Пракопавіч паспытаў трохі асветы ў Вільні, хоць з вучобай там не атрымалася, але не лез у палітыку, дабіраў адукацыю дома. Меў натуру чуйна-інтэлігентную, валодаў незвычайна мілагучным голасам, хадзіў заўсёды з камертонам, заўзятар спявак, хароў, вясковых спектакляў, не касец, не плугар, душа моладзі, жыў беднавата, але выпісваў пасляваеннае «Полымя». На гарышчы яго хаты трапляліся пажоўклыя нумары купалаўскай «Нашай нівы», беларускія календары, нават асобныя нумары беларускіх газет акупацыйнага часу. Кватаранту Міколу тады проста пашанцавала. Васіля Пракопавіча ён ведаў яшчэ па беларускіх уроках у народным доме, які пабудавалі жыхары вёскі Кракотка на свае складкі за польскім часам. На складкі вяскоўцы набылі і кнігі для бібліятэкі, якую ў 1927 годзе ўганаравалі

імем Янкі Купалы. Бібліятэку польскія ўлады праз два гады паспяшаліся зачыніць, патаптаць як небяспечны асяродак нацыянальнай самасвядомасці. А народны дом нёс годна асветніцкую службу нават у акупацыйна-нямецкія гады. Настаўнік дужа трывожыўся, каб немцы не перапынілі яго шчыравання на сціплай сяўбе беларускасці, каб не ўздумалі яны спаліць іхні народны дом. Аднак нардом спалілі не немцы. Спалілі партызаны. Каб не атайбаваліся, маўляў, у нардоме немцы з паліцаямі. Пра гэта добра напісаў Мікола Арочка ў сваім ранейшым вершы «Заклінанне Чыжыка Беларускага».

Уздыхаў Васіль Пракопавіч са слязою ўваччу. Прадчуваў штось нядобрае. Яго забралі з урокаў. Добра яшчэ, што не пасадзілі, не катавалі, не выслалі ў месцы сіберна-аддаленыя. Перавялі ў глухі кут Слонімскага раёна. Міколава кватараванне ў настаўніка на гэтым скончылася.

Дзякаваць Богу, у начлезе яму не адмаўляў некалі і далёкі сваяк — бібліятэкар Аляксандр Іванавіч Жыткевіч — кніжнік, заўзятар, які ў сваёй хаце, у светлай палове, узяўся аднавіць колішнюю слынную бібліятэку імя Янкі Купалы. Падчас начлегу на лаве Мікола Арочка адчуваў у галовах праз дашчаную абклееную газетамі сценку вячыстае свячэнне славутых постацяў беларускіх песняроў, іх запаветаў. У прывідным судакрананні з імі юнаму начлежніку тая лава здавалася зусім не мулкай.

Магчыма, ужо тады ў душы пачаткоўца пачала зараджацца адна з яго ранніх паэм «Сын», прысвечаная дзядзьку Шурку — Аляксандру Жыткевічу, які спазнаў палон, жахі вайны (нявыдуманая калізія твора!). Перад вусцішнай музыкай яго пратэза нерухомела незабыўная цёця Уладзя, калі з Міколам Арочкам яны, нагружаныя пакункамі кніг, прыязджалі ў гістарычна-слынную купалаўскую бібліятэку ў вёску Вялікая Кракотка. Валянцін Таўлай, які за паўгода перад гэтым наведваўся сюды, на радзіму, як старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы ў Мінску, найпершы памочнік, «правая рука» Уладзіславы Францаўны, ужо не з'явіўся з пісьменніцкай групай. На вялікі жаль, яго, падкошанага турмамі, пасля зацяжной хваробы не стала. Цёця Уладзя, згадваў Мікола Арочка, выступаючы перад чытачамі бібліятэкі, успамінала, як цяжка яна перанесла гэту страту.



Некалькі слоў пра незвычайны феномен таго часу — ускалыхнутую цягу да вучобы. Высокая хваля гэтага феномену пракацілася тады па ўсёй Беларусі, асабліва Заходняй, дзе польскі асіміляцыйны этнацыд вынішчыў усе беларускія школы, гімназіі, семінарыі, ліквідаваў рэшткі легальна-асветніцкай працы Таварыства Беларускай Школы. Акупантам заўсёды больш зручна і бяспечна было трымаць запрыгоненае людства ў галечы сацыяльнай і духоўнай. Беларускае грамадства проста зацярпелася, засумавалася па айчыннай навуцы, па асвеце — дзеля нацыянальнага адраджэння.

Дарэчы, нямецкія захопнікі адчулі вялікую выйгрышнасць ад пралому гэтай асіміляцыйнай плаціны сваіх папярэднікаў. І тады ў гэты пралом, учынены наўмысна, з разлікам, хлынуў напор юнацкай прагі асветы. Сёння ўсё яшчэ сарамліва замоўчваецца тое віраванне асветніцкіх памкненняў, што, як разводдзе, ахапіла шматлікія згуртаванні і формы Саюза беларускай моладзі (СБМ), дазволенага нямецкімі ўладамі. Галоўны камісар Кубэ таму, відаць, і стаўся асабліва небяспечным, што дазволіў моладзі рынуцца ў прабоіны плаціны, нават прыўздымаў яе, спадзеючыся, што СБМ неўзабаве паможа круціць вынішчальныя жорны акупацыі. Вядома, пад зманлівы ўсплёск дужа прыцягальнай ідэі — служэння Бацькаўшчыне.

Ідэя ў сваёй патэнцыяльнай разбуджанасці аказалася і сапраўды невынішчальнай. Прычым настолькі захапляюча-магутнай, што феномен прагавітай цягі да навукі, духовай асвечанасці не знік з нямецкай акупацыяй, а перакінуўся ў пасляваенны час як самы жыццядзейны чыннік ажыўлення і адбудовы нацыі.

Да пачаткоўца Міколы Арочкі, у яго спробы пяра не адразу прыходзіла абуджаная нацыянальным жыццём вялікая мэта, без якой, як ён адчуў, няма сэнсу асабістага існавання. Шкодзіла толькі пакалечанасць культаўскім пострахам. Прыходзілася часам, як успамінаў Мікалай Мікалаевіч, апусціўшы вочы, глытаць ганьбаванне жыццёва-дасведчаных дзядзькоў, якія чыталі, здаралася, яго практыкаванні одапісу. Што казаць: грашыў на старэйшых гледзячы. Дый дзеля ўласнай перасцярогі, спазнаўшы першыя кіпці ліхога «варанка». Штосьці прасачылася і ў рэспубліканскі друк. «Сорамна прыгадваць, — казаў мне пры жыцці Мікола Арочка, — але тыя вершаскладанні былі заўважаны». І вучань Азярніцкай сярэдняй школы

неспадзявана атрымлівае выклік у Мінск на Трэцюю рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў. Гэта быў 1950 год.

Як усцешна і ўзрушальна было сустрэцца са славутым песняром Беларусі, жывым класікам Якубам Коласам (перад ім ужо быў грэх паэмнага пераймальніцтва!), чуць яго зычлівыя запавяданні, услухацца ў яго мякка-дрыготнае чытанне новых частак паэмы «На шляхах волі», а на ростані — сумнаватае прызнанне наконт усё большай узроставай «цягі» зямлі.

У часе абмеркавання творчасці маладых Мікола Арочка дранцвеў ад сораму, калі старонкі яго сшыткаў з вершаскладаннем перабіралі-перагортвалі Максім Танк, Алесь Бачыла, Анатоль Вялюгін, Аляксей Русецкі. Затое з якім досціпам ён услухоўваўся ў зычліва-крытычны разгляд набытку яго калег — Сцяпана Гаўрусёва, Петруся Макаля, Віктара Шымука. Не кажучы пра разгляд досыць сталага плёну Сяргея Дзяргая, Аляксея Пысіна (паводле яго набытку прымалі ў члены Саюза пісьменнікаў, іншых — у кандыдаты). Ці думалася, што ў тое пераломнае дзесяцігоддзе Міколу прыйдзецца ад многіх з іх чуць не толькі настаўніцкае спрыянне, але ўжо і супольна набываць новыя ўрокі ломкі старога ўкладу і творчага абнаўлення?

Аднаго толькі немагчыма было адняць — ужо з набытага: скарыстанай магчымасці засвойваць веды. Магчымасць сапраўды была шырока разнасцежанай: хто хацеў вучыцца, мог вучыцца, здолеў уздымацца па прыступках асветы. Праўда, завадатары гвалтоўнай калектывізацыі спахапіліся, кінуліся перапыняць маладзёвы запал, напор у навуку нявыдачай старшынскіх даведак і інш. Але гэта толькі была падліва масла ў агонь: імкненне вырвацца з новай формы парабчанства, нібы з палону, стала неадольным, кроўна-жыццёвым у патрэбе.

Дзве вышыні на гэтым шляху былі здабыты асветніцкай напорыстасцю Міколы Арочкі: Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1951–1956) і затым, ужо ў наступным дзесяцігоддзі, — Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук. Не справа толькі ў рэалізацыі навукова-літаратуразнаўчага патэнцыялу: у абароне дысертацый — кандыдацкай, прысвечанай Валянціну Таўлаю ў 1967 годзе, і доктарскай — пра беларускі паэмны эпас у 1980 годзе. Расхінулася з вышыні акадэмічнага Інстытута літаратуры далёкасяжная даследчыцкая аглядальнасць



паэмна-эпічнай прасторы ў гістарычным часе. А разам з даследчыцкімі — адхінуліся зманлівыя магчымасці і спробы асабістага ўжывання ў паэму, у яе вякамі напрацаваны вопыт — дзеля сучаснага тварэння. Невыпадкова Міколу Арочку з яго распрацоўкамі эпічнай канцэпцыі паэмы было прапанавана распачаць усесаюзную дыскусію: «Паэма: крызіс ці адраджэнне?» (Литературное обозрение. 1973. № 5).

Зрэшты, ці мела б усё гэта шырокі рэзананс і выніковасць, калі б тады ў грамадскім жыцці на поўную моц не працягвалі адбывацца сацыяльна-тэктанічныя зрухі? Другое дыханне, другое творчае нараджэнне ахапіла і ператрэсла да самых асноў паэзію Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі. Іх бескампраміснае, самакрытычнае прамаўленне ў грамадзянскіх творах увачавідкі мяняла вектар эстэтычнай дзейнасці. Прыкоўвала ўвагу кардынальнае абнаўленне куляшоўскай паэмы («Эпічны свет Куляшова»). Для Арочкі-навукоўца адсланяўся прастор для аналізу. І не толькі. У яго творчыя задумы пачала ўжо асмялела стукацца самая спакусная для яго форма асэнсавання — паэма ў самых розных яе жанравых разнавіднасцях. Уяўленні запалоньвалі ўмоўныя формаўтварэнні з іх невычэрпнымі магчымасцямі скандэнсаванай шматзначнасці і абагульненасці мастацкага вобраза. Паэтам засвойваўся і абжываўся як бы новы тып эпічна-паэмнага мыслення, які аказаўся для яго не чужародным, а арганічна ўласцівым, надзвычай прыдатным для бачання і асэнсавання таго мацерыка, які гадаваў яго, агнём паласаваў яго маленства, падкошваў узлётнасць юнацтва. «Памяць зярнятаў» шукала расшыфроўкі. Цяжка прарасталі тыя апаленыя зярняты, пакуль станавіліся калоссем матчынага жыта, хлебам паэзіі (паэма «Матчына жыта», 1976). «Бачу, як эпічны герой — бохан чорнага хлеба, — пісаў аўтар драматычнай паэмы «Курганне», — з вогненнага печыва нашай хаты ідзе па бясконцым шляху надзей, каб ратаваць свет, каб сваёю смерцю прадухіліць смерць». І далей: «Я сустрэў яе, сястру Хатыні, на Магілёўшчыне — вёску Курганне. Уклаў у яе сімвалічнасць, узвёўшы да яе ўсё, што асабіста перажыў».

Гэта не была эпізацыя на зададзеную тэму. Роздумная сустрэча з прывідам вогненнага паэта — гэта не адвольная прыдумка, не жартачкі. Драматычная паэма «Курганне» Міколы Арочкі — гэта інтуітыўна разгаданая трагедыя, якая немінуча ўжо вісела над роднай

вёскай паэта, над роднымі Вецявічамі, што значыліся ў акупацыйных планах спапялення, прычым на самы бліжэйшы час. Фактычна паэт Мікола Арочка ўжо станавіўся попелам. Дарма ў начных пострахах ён вышукваў розныя схованкі ўратавання. Збавення не было. Партызанскія засады па ўскрайках вёскі не ўратавалі б. Партызаны перакалочвалі хаты ў пошуках пракорму, сагрэву. Але найбольшы страх так і застаўся на ўвесь акупацыйны час: немцы! Ім патрэбна была наша радзінная прастора: нас — каго ў зямлю, з попелам па ветры, каго — за Урал. Адборную рабсілу — на бручкавінную пахлёбку на чужацкіх землях ды падзямеллях-шахтах. Якое там збавенне? Курганне на Бацькаўшчыне разрасталася. Гэта было не першае перапляценне абставін, калі падлетак Мікола апынуўся на грані пагібелі (вогненны «кацёл», партызанскі хутар, немінучае спаленне вёскі). У косці тройчы засядаў смяртэльны сполах. Паўтысячы год Бацькаўшчына не знала такой усёвынішчальнай навалы. Магчыма, калі глянуць у рэтраспекцыю, гэта была гітлераўская спроба рэваншу за Грунвальд. Уваскрэслы, па сутнасці, са спрадвечнага попелу, Мікола адчуў ліхаманкава-дрыготкую патрэбу балюча-роздумнай сустрэчы з вогненным прывідам паэта. З самім сабой, пакліканым з небыцця.

Мікола Арочка, аўтар неардынарных паэм, — бясспрэчна, з'ява ў беларускай паэзіі. Асаблівая значнасць дасягнута праз гістарычнае вымярэнне. Як даследчык ён разумее, на якую рызыку ён ішоў, калі выбіраў творчую «звышзадачу», што магла стацца і не па плячы яму. Як напрыклад, у паэмнай задуме «Крэва» (1981). Праблема гістарычнага самапазнання вынесена ў эпіграф, як дужа надзённы наказ Купалы: «Пачнем дакапывацца самі разгадкі нашых крыўд і бед» — з «Магілы льва», дзе ўжо сама назва праецыруецца сваёй сімволікай на трагізм становішча Бацькаўшчыны (краіны-льва!). Таму ва ўступным «Слове да Купалы» ўжо горача, як бы на падхопе акцэнтуецца разуменне ўсёй важнасці ўспрынятай задачы:

Жывым, нам трэба пазнаваць сябе,
Ўгрызацца ў лёхі цёмнае разгадкі…
З-пад старадаўніх зломаў, з-пад руін
Бяру кавалак цэглы, нібы крэда.
І апаляе вусны слова «Крэва»
Гарачым згусткам крэўнасці, крыві.



Дакопвацца да пластоў, што жывілі і жывяць самасвядомасць, — гэта запатрабавана самім часам дзеля жыцця нацыі. Задача не проста дэкларуецца, а разгортваецца абвострана, у драматычным сутыкненні персанажаў, якія рызыкоўна запачаткавалі лёсавырашальны канфлікт, змачылі крывёй і хітрадзействам акт Крэўскай уніі — гэты «найпершы, самы круты вузел палітычнай драмы ў гістарычным лёсе нашага народа». Па сутнасці, ужо тады вырашаўся, знутры падточваўся будучы незайздросны лёс кароны Вітаўта — каралеўскай кароны! Лёс Айчыны, як Каралеўства («Лямант кароны Вітаўта»). Эпілог «Крэва» несуцешны. Скрыжаванне драматычных калізій, вострых перапляценняў (смерць Кейстута, уцёкі Вітаўта, яго маналагічныя адпрэчанні экспансіўных памкненняў) — усё гэта, зрэшты, падводзіць да канчатковага жываначальнага зыходу, да ўпэўненасці,

Што землі нашы будзе не так проста
Вам праглынуць паквапнай пашчай уній!
Вы будзеце ўчыняць яшчэ не раз
І множыць іх праз доўгія гады
І з веку ў век,
Каб зноў пацвердзіць права
На ўціск і на захоп…
Але ў дзяржаве,
На землях нашых я ўзгадаю моц,
Невынішчальны дух супраціўлення…

Цікавае прызнанне аўтара наконт узроўню валодання жанравымі магчымасцямі паэмы: «Чамусьці я ўжо не асцерагаўся запазычак і пераклічак, пасылаючы ўслед за Куляшовым (з яго вяршынна-цудоўным "Хамуціусам") сваю ластаўку да Шэкспіра, да яго "Макбета" і "Гамлета". Захоплена і прагавіта ўглядаўся ў драматычна-паэмны вопыт Байрана, Мільтана, Шылера. А калі бліжэй — то і ў трыпціх літоўскага аднагодка Юсцінаса Марцінкявічуса ("Міндаўгас", "Катэдра", "Мажвідас")».

Цікавы таксама аповед Міколы Арочкі з псіхалогіі яго творчасці. Захоплены светам продкаў, знакамітымі постацямі, ён часам ледзь не пераступае ў сферу спірытуалізму, упадае ў стан пазарэчаісны, уваскрашае там буйныя персаналіі і, апанаваны ўваскрашэннем іх

вобразаў, ходзіць і ездзіць з іх лексікай, партрэтамі, выпісамі, выразкамі. Немажліва просіць даверыцца («я ж беспадманна, няздрадна, з любасцю і агульнасцю мэты»!). Карацей, быццам выклікае з небыцця прывід асобы, і толькі тады, «калі гэта асоба даверыць свае вусны, спавяданні, можа атрымацца штось сапраўднае». Так здарылася, напрыклад, з вобразам Францішка Скарыны — яшчэ з часу напісання «Курганя». Ужыванне ў яго свет спатрэбілася нават для эпізадычнай сцэны. І нечакана перарасло ў чарговую «звышзадачу»: захацелася стварыць свой «эквівалент» (скажам, упоравень з «Мажвідасам» Ю. Марцінкявічуса) глыбокай духоўнай драмы Скарыны. Пасля драмы палітычнай («Крэва») яна немінуча навісла на нас, духоўная драма роднай зямлі. Трагізм, які ўжо адчуўся і пачаў няўмольна нарастаць з часоў Высокага Адраджэння, не пакідае нас і па сёння. «Судны дзень Скарыны» (1986–1989) уяўляецца вяршынным творам у паэмна-драматычным даробку Міколы Арочкі. Структурна, у адной лагічнай повязі, па сутнасці, у гэтым творы сышліся як бы шаснаццаць паэм. Сваёй уражлівай змястоўнасцю асабліва вылучаюцца тыя, што прасякнуты галоўным, вядучым матывам самой задумы твора, так бы мовіць, раздзелы-паэмы «ідэяносныя». Напрыклад, «З'яўленне Міколы Гусоўскага» невыпадкова пазначана яшчэ і назвай «Пазнанне сябе». З'яўленне, вядома, прывіднае, у закрытым вузілішчы ў Познані, куды ганебна кінуты Скарына. Ёсць час удумна агледзецца: чаму ён «улоўлены кратай»? Адкуль яны, нязводныя злопрычыны? Хто на наш род накінуў гора? («Дайсці да злопрычын мы мусім самі»). Паралюш, які ў Пултуску прыкаваў да пасцелі славутага аўтара «Кармэн» («Песні пра зубра»), — бяда, вядома. Ды ёсць паралюш духоўны — занядбанне родавай памяці («Сябе мы не спазналі — вось паралюш! Улася чужына ў маю косць»). Як парываецца сэрца з нямогласці плоці:

Мне хоць глыток адзіны
Адтуль, з Радзімы,
З пушчаў і гаёў,
Дзе сэрца працінаў мне рык зубрыны,
Дзе рагачы вялі мяне з гайнёй,



Дзе я, ўчапіўшыся каню у грыву,
Кідаўся ў стромы Нёмана, Дняпра!
Сын палясоўшчыка,
Я — з тых мыслівых,
Якія ў жылах чуюць кроў зубра!

Дзівуецца Скарына: «Чаму мы толькі ў немачы або з-за краты шчымліва б'емся ў дзверы роднай хаты?». Спроба Гусоўскага даць адказ «бо тут чужына душ» толькі развярэджвае закратны роздум Францішка:

Чужына душ?
Вось, браце, сэнс цяжкі!
Мне ад яго аж непамысна штосьці.
Ды на Радзіме, любай з маленкосці,
Свае хіба не ходзяць чужакі?!

Вобраз зубра, загнанага хіжымі лаўцамі ў пастку, стрыножанага, з колцам у пысе, распярэшчанага ў мішэнь для спрыту і збройнага рыштунку, са стрэламі ў баках, — балюча-шматзначны: «пасвежаваўшы волата, на скуры разлягуцца, учыняць шумны баль…». Скарына:

За гэтай прытчай бачу я, на жаль:
Не баль яны спаўняюць,
А хаўтуры!

Аўтар «Песні пра зубра» са скрушнасцю дадае:

Арканяць край, не цямячы, што робяць!
З расколіны зжахнецца яшчэ свет!

Свет бачыць. Але заступніцтвам не абцяжарваецца. У разуменні штось прамаўляе («Ды сёння ў яме ад таго хіба лягчэй зубру?»). Драматычныя сцэны такога кшталту («Начная размова з Іовам» і іншыя) маюць актуальны падтэкст, вярэдзяць, філасафічна набліжаюць да ісціны…

Акрамя ранейшай паэмы «Судны дзень Скарыны» ў апошнія гады жыцця Мікола Арочка напісаў драматычную паэму «Каранацыя Міндоўга». Ён пісаў яе ў Вецявічах і закончыў у 2003 годзе. Унук паэта

Валерык Арочка набраў паэму на кампутары і сам сшыў некалькі асобнікаў паэмы. Адзін асобнік я неяк завёз у часопіс «Маладосць», дзе рэдактар выдання Раіса Баравікова абяцала надрукаваць усю паэму. Але надрукавалі ў вераснёўскім нумары за 2007 год толькі ўрывак з яе. Калі я прыехаў у Мінск забраць Валерыкаў асобнік «Каранацыі Міндоўга», то кніжачкі нідзе не знайшлі. Але, дзякаваць Валерыку Арочку і жонцы Міколы Арочкі Марыі Іванаўне, знайшоўся яшчэ адзін асобнік выдатнай паэмы.

Я памятаю, як пачынаў пісаць «Каранацыю Міндоўга» Мікола Арочка. Калі я бываў у яго ў Вецявічах, ён шмат мне пра Міндоўга распавядаў, разважаў, спрачаўся са мной. З яго слоў я даведаўся, што ў пачатку 1970-х гадоў беларускага паэта дужа ўразіла драматычная паэма «Міндаўгас» літоўскага паэта і сябра Міколы Арочкі Юсцінаса Марцінкявічуса (1930–2011). Яна яго так уразіла і захапіла, што мой зямляк нават напісаў пра яе ва ўсесаюзным друку, бо быў проста захоплены велічнай постаццю галоўнага персанажа.

Юсцінас Марцінкявічус, у знак падзякі за гэта, даслаў Міколу Арочку свайго «Міндаўгаса», выдадзенага асобнай кніжкай, з зычлівым аўтографам. Мой зямляк быў шчаслівы такім падарункам. Ён нават сваім уражаннем падзяліўся з выдатным нашым літаратуразнаўцам Віктарам Каваленкам (1929–2001). «Дай пачытаць», — папрасіў пасля гутаркі Каваленка. Прайшло некалькі дзён, і Віктар Каваленка вярнуў «Міндаўгаса» Міколу Арочку. Але паэт быў здзіўлены, калі Віктар Антонавіч аднёсся да твора літоўца стрымана-крытычна, без ніякай ухвалы. Маўляў, зашмат наўмысных адступленняў ад гістарызму, літоўскай падгонкі пад старую канцэпцыю заваёўніцкай місіі князёў Літвы. Аднак у такога самабытнага мастака слова, як Юсцінас Марцінкявічус, было і бясспрэчнае права на сваё асабістае бачанне хады гістарычных падзей і шляхоў станаўлення нацыі.

Тым не менш, да канца свайго жыцця Мікола Арочка застаўся ўдзячны літоўскаму сябру ўжо за тое, што ён далучыў яго да шырока распачатага ім узнаўлення нашага агульна-адзінага гістарычнага Дома — Вялікай Літвы. Удзячны, што ён падбіў майго земляка на «звышзадачу» — стварыць свой паэмны эквівалент палітычнай і духоўнай драмы роднай зямлі («Крэва», «Судны дзень Скарыны») з нахілам да ўсё большага трагізму. І ўсе гэтыя гады ў Міколы Арочкі



несціхана тачылася, як незагойная рана, балючая задума каранацыі — ідэі, што працягнулася ў наступнасць на многія стагоддзі. І вось атрымаўся ўдачны зыход асэнсавання. Мікола Арочка адолеў выдатны эпічны твор, які з'яўляецца вартасным завяршэннем трыпціху гістарычных паэм — «Крэва», «Судны дзень Скарыны», «Каранацыя Міндоўга».

Пасля «Міндаўгаса» Марцінкявічуса ў нашага літаратара ўзнікла неабходнасць палемічнай скіраванасці ягонай новай паэмы, тэматычна блізкай з «Міндаўгасам» Марцінкявічуса, якім у свой час ён захапляўся. Міндоўг у «Каранацыі» выглядае ўжо не як заваёўнік накшталт Аляксандра Македонскага з пустой далонню, якая ў дарозе расшчэмлена высунулася з труны. Гэта зусім не захопнік беларускіх земляў, а ўстурбаваны Гаспадар, які збіраў іх да купы, ратуючы ад загубення, вынішчэння, асіміляцыі. Ён нястрымна апантаны ў мэце. Ажно дзівіць, чаму ім так завалодала ідэя задзіночання не толькі этнічна блізкіх, але і разрозненых плямёнаў вакол Наваградка, які дзякуючы волі фактычна аднаго чалавека, паклікананага сюды на княжанне, стаў урэшце яго рэзідэнцыяй, збройнай мышцай, кіпучым сэрцам новай дзяржавы. Перамяніўся вектар у гістарычным часе… Падупаў слынны Полацк пад націскам мечаносцаў на Дзвіне… Асіміляцыйнае, патаптанае тэўтонцамі племя прусаў…Балтыйскія орды, наезды стэпавічоў… Ваяўнічыя прэтэнзіі на аднаўленне былога ўладарства Данілы Галіцкага… Усё гэта вядома. Але як можна бясконца адчуваць сябе пушчай, падпаленай з усіх бакоў? Дзеля ўласнай зверхнасці ўладарства? І, можа, найгорш і найбольш небяспечна, што драматызм і трагізм становішча наклікала і ўзмацняла далёкая і блізкая язычніцкая радня, што закаранела трымалася паганства, няўступна патрабуючы адрачэння ад выбару шляхоў і спосабаў утрывалення незалежнасці. Вымогі і не пустыя просьбы адрачэння ад Хрыстовай веры, ад каралеўскага вянца… Язычніцкіх князькоў і верхаводаў, зрэшты, можна было зразумець — сваёй сляпой няўступнасцю, веранязрушанасцю яны хацелі ўратавацца ад бураломнасці часу, пазбегнуць горкамыснага лёсу некаторых суседзяў патаптаных плямёнаў.

І, вядома ж, не любоўна-інтымныя жарсці ўплывовых каралёў пускалі ўзаемазабойчыя стрэлы вынішчэння супраціўнікаў, а прычыны,

пэўна, больш глыбокія, кроўна-жыццёвыя, спароджаныя няўмольнымі акалічнасцямі суравейшай хады гісторыі.

Дужа паказальна, што ў новай паэме «Каранацыя Міндоўга» ўсё гэта даводзіцца не публіцыстычна аголенымі сродкамі, а пераважна як бы апранута ў мастацкія шаты, увасоблена праз напругу супярэчлівых сутыкненняў, учынкі і злонамеры характараў, праз драматычны напор спрэчак, а то і вузлавата-крута паважнага дзейства.

Аўтару, падобна, сама важна было паказаць галоўнага героя як чалавека жывога, духова адоранага ў псіхалагічным багацці пачуццяў, не бяздумна-безагляднага ва ўчынках, любоўных сваіх жарсцях, а інтымна надзвычай чуйнага. Пра гэта сведчаць яго пранікнёныя маналогі, звернутыя да Марты, размовы з яе прывідам, дачыненні з Міртай. Уражлівую ролю спаўнялі сродкі прамаўлення на грані самазабыцця падчас сцішанай споведзі з высокімі носьбітамі боскага духу на жэглішчы. Такія моманты запамінальныя, яны сапраўды спрыяюць, так бы мовіць, жывому «ўчалавечанню» Міндоўга. Яго высакагоднасць не дэкларавана, а выяўлена чуйна, нібы на жывы дотык, на судакрананне з духова прыгожымі пачаткамі; таму герою і давяраешся, унутрана прымаеш яго нялёгкі свет.

Падкупае як бы сама ментальнасць натуры галоўнага героя, менавіта вялікасць князя-караля з душой беларуса. Такім, відаць, і наканавана яму быць — з няўмольнымі скарбамі на далоні, працягнутай да нас праз стагоддзі. Не скіньце неасцярожна з гэтай далоні ўзнятыя з народных глыбінь перліны яго кароны і душы. Таму вельмі і вельмі шкода заўчаснага трагізму буйнай дзяржаўнай асобы, да якой гэтак няшчасна і марнатраўна аднёсся акаянны свет — усе носьбіты наўмыснага загубення. А сабе ж на страту!..

Да слёз шкада толькі, што аўтар не зможа ніколі даслаць яе свайму сябру-літоўцу Юсцінасу Марцінкявічусу, а той у сваю чаргу ніколі не зможа выказаць свае ўласныя думкі наконт беларускай «Каранацыі Міндоўга». Але іх паэмы — гэта, бясспрэчна, агульны і магутны ўклад у гісторыю даследавання Вялікага Княства Літоўскага.

Акрамя дзвюх драматычных паэм, чытачы ў новай кнізе Міколы Арочкі, якую я нядаўна падрыхтаваў і аддаў у выдавецтва «Мастацкая літаратура», пазнаёмяцца і з яго апошнімі вершамі. Гэта вершы-роздума, вершы-прысвячэнні вялікім асобам Бацькаўшчыны. Іх няпроста чытаць, іх трэба вывучаць на памяць, над імі трэба думаць, разважаць. Калі я рыхтаваў іх да друку, мне заўсёды прыгадваўся мой слаўны зямляк дзядзька Мікола. Не па сваёй волі з Мінска ён вярнуўся ў родную вёску Вецявічы, што на Слонімшчыне, дзе і пражыў апошнія 23 гады. У вёсцы рэдка калі можна было застаць яго за пісьмовым сталом. Мікалай Мікалаевіч часцей працаваў з рыдлёўкай ці касой у руках або на пашы з роварам пры дробнакапытнай жыўнасці, з нязменным лазовым кошыкам, у якім заўсёды ляжалі кнігі і рукапісы ў цэлафанавых мяшэчках. Яго пісьмовым сталом былі зялёны палетак, выпас, пянёк на ўзлеску, услончык ці ўласныя калені. А вечарамі ў хаце вясковаму літаратару сніліся Скарына і Міндоўг. Ішло апошнім часам паглыбленне і выспяванне ў варыянтах і адпрацоўках драматычнай паэмы «Каранацыя Міндоўга», як некалі пра Скарыну, каб дадацца да гістарычнага трыпціха двух папярэдніх паэм. А яшчэ з-пад яго рук, са «стала зялёнага» прасіліся ў шырока разнятую «самааповесць» два новыя аповеды — «Пёрка курапаткі» і «Бацькоўскі край».

Трагічныя штрыхі закраліся ў яго светаадчуванне пасля таго, як яго два акрутна загубленыя сыны (паэма «Страта», «Малітва сына Віталія») перабраліся на пагорак паўскрай вёскі Вецявічы, пад навісла-плакучыя бярозы. Таму дзядзька Мікола са сваёй паплечніцай цёткай Марыяй апынуліся там, у спадчыннай бацькоўскай хаце на Слонімшчыне. Выгадавалі, дзякаваць Богу, круглага асірочанага ўнука Валерыка, які цяпер стаў дарослым, атрымаў адукацыю, жаніўся і мае ўжо дачушку. Там, у сялянскім асяроддзі, куды пішчом лезла стратнасць красы духоўнай, яшчэ жыла стыхія беларускасці, роднай мовы, свежай, непакананай гаючасці прыроды. Спрыяльна Мікола Арочка ўзнаўляў і кампенсаваў мазольныя выдаткаванні дотыкам да роднай зямлі, рэальна адчуваў каранёвую сувязь з ёй. І, як покліч, заўсёды стукалася ў ягонае сэрца ўзмоцненая запатрабавальнасць самапазнання.

У вёсцы Чамяры напачатку 1960-х гадоў Аляксандр Жукоўскі пачаў збіраць першыя звесткі пра гісторыю роднага краю. А аднойчы ён запрасіў у школу ўсіх вяскоўцаў і выступіў з дзіўнай па тых часах прапановай адкрыць у Чамярах музей. Некаторыя нават на смех яго паднялі: хіба няма больш важнай справы, чым музей… Але Аляксандру Жукоўскаму ўдалося зацікавіць людзей, і хутка ў Чамяроўскай школе адкрыўся краязнаўчы куток, а потым музей, які праз пэўны час стаў народным. На жаль, цяпер даўно ў Чамярах няма школы і слядоў не засталося ад таго музея. І куды ж падзеліся ўсе экспанаты?..

У 1964 годзе Аляксандр Жукоўскі стаў працаваць настаўнікам гісторыі ў СШ № 4 г. Слоніма. Але і тут ён займаўся не толькі педагогікай, але і краязнаўчай, музейнай справай. Створаны ім музей у СШ № 4 г. Слоніма да сённяшніх дзён лічыцца адным з найлепшых школьных музеяў рэспублікі. Выключная працавітасць, выдатная памяць, талент даследчыка, прынцыповасць, настойлівасць і неардынарнасць думкі дапамагалі яму да апошніх дзён жыцця весці пошукавыя і даследчыя працы па ўзнаўленні гераічнага мінулага Слонімшчыны.

Акрамя гэтага Аляксандр Жукоўскі на працягу ўсяго свайго жыцця шмат пісаў і друкаваў сваіх артыкулаў па гісторыі, краязнаўстве і педагогіцы. У 1971 годзе (другое выданне выйшла ў 1973 годзе) выдавецтва «Народная асвета» выпусціла ў свет ягоную кнігу «Школьны музей рэвалюцыйнай і баявой славы», дзе аўтар абагульніў свой багаты вопыт па зборы матэрыялаў і арганізацыі школьнага музея, цікава распавёў пра разнастайную працу юных краязнаўцаў, пра тое, як трэба выкарыстоўваць матэрыялы музея ў вучэбнай і выхаваўчай рабоце ў школе і па-за школай. А ў 1990 годзе ў Гродне выйшла яго невялікая кніжачка «Назаві яго імем», прысвечаная героям Другой сусветнай вайны.

Дзякуючы Аляксандру Сямёнавічу Жукоўскаму, савету яго музея ўдалося ўстанавіць 55 прозвішчаў савецкіх воінаў, якія загінулі падчас вайны на тэрыторыі Беларусі. На тэрыторыі школы ў гонар удзельнікаў баёў за Слонім у гады Другой сусветнай вайны быў адкрыты памятны абеліск…

Пры жыцці Аляксандр Жукоўскі быў узнагароджаны шматлікімі нагруднымі знакамі, медалямі, граматамі, у тым ліку і граматай Савета



Міністраў СССР. У 1990 годзе яму было прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларусі. Але, на жаль, хадайнічалі аб гэтым не слонімскія чыноўнікі, а зусім іншыя людзі. У Слоніме такіх людзей не ўмелі і не ўмеюць пры жыцці і пасля жыцця ўшаноўваць і шанаваць.

## Любіў сваю Бацькаўшчыну

Пазнаёміўся я са шчырым беларусам, настаўнікам, краязнаўцам Уладзімірам Шундрыкам дзесьці ў другой палове 1980-х гадоў. Гэта ён, Уладзімір Іванавіч, падараваў мне тады кнігі Уладзіслава Казлоўшчыка, Сяргея Хмары, Станіслава Грынкевіча, Хведара Ільяшэвіча, якія выдаваліся ў Заходняй Беларусі ў 1930-х гадах. Аднойчы Уладзімір Шундрык паказаў мне кнігу Язэпа Найдзюка «Беларусь учора і сёння», выдадзеную ў 1943 годзе ў Мінску. «Гэтую кнігу я хачу падараваць табе, каб ты добра вывучыў гісторыю нашай Бацькаўшчыны і ведаў праўду», — сказаў мне Уладзімір Іванавіч. Я «адным глытком» яе «праглынуў», потым чытаў і перачытваў дзясяткі разоў. Яна і цяпер стаіць на паліцы на самым відным месцы ў маёй кватэры.



*Уладзімір Шундрык*

Уладзімір Іванавіч Шундрык нарадзіўся ў Рышчыцах. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Слоніме. Вось што пра яго вучобу прыгадвае былы настаўнік, цяпер пенсіянер Мікалай Ракевіч: «Сам Валодзя мне расказваў пра вучобу пры немцах. Ён казаў, што ў школе працавалі даволі адукаваныя настаўнікі, таму на ўроках заўсёды было цікава. Настаўнікі адкрывалі нам праўдзівую гісторыю Беларусі, распавядалі пра выдатных дзеячаў, якія праславілі наш край. Запомніўся асабліва настаўнік Паважынскі. Яго ўрокі мы чакалі з нецярпеннем, яны прабягалі для нас, як адна хвіліна. Цікавая работа вялася і па лініі Саюза беларускай моладзі (СБМ). Усе вучні былі сябрамі СБМ. Насілі сваю адметную форму, якую выдавалі бясплатна. У летні час у Альбярціне праводзілася работа з дружынамі: вучні развучвалі беларускія песні, рыхтавалі сцэнары розных мерапрыемстваў. Потым дружыновыя вялі такую работу ў сваіх дружынах. Шмат увагі надавалася спорту. Перыядычна адбываўся збор арганізацыі СБМ на гарадской цэнтральнай плошчы ў Слоніме. Завяршаўся збор паходнай песняй і маршыроўкай. Ніякай антысавецкай агітацыі не праводзілася. Нават настаўнікі нашы стараліся нас папярэдзіць, каб мы не ўдзельнічалі ні ў якіх палітычных мерапрыемствах».

Але, на жаль, дзейнасць Саюза беларускай моладзі (СБМ) у пасляваенныя гады трактавалася савецкімі ўладамі як калабарацыя з нямецкімі акупантамі, а ягоныя сябры амаль усе былі рэпрэсаваныя. Баяўся рэпрэсій і Уладзімір Шундрык. Летам 1944 года ён хацеў з’ехаць на Захад. Нават сеў у цягнік, але бацька адшукаў юнака, зняў з цягніка і забраў дахаты. А калі Слонім занялі савецкія войскі і прыйшла ў наш горад зноў савецкая ўлада, Уладзіміра Шундрыка некалькі разоў выклікалі на допыт супрацоўнікі НКУС. Яны распытвалі пра СБМ, пагражалі арыштам і расстрэлам. Але на адным з допытаў Уладзімір сказаў, што кінуў вучобу ў школе, не быў у СБМ, а працаваў вучнем у каваля. Больш яго НКУС не чапаў.

У 1951 годзе Уладзімір Шундрык скончыў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Па накіраванні спачатку настаўнічаў на Міншчыне, але ў 1957 годзе вярнуўся ў родны Слонім, дзе шмат гадоў працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры, а таксама выкладаў сталярную справу.



У вольны час Уладзімір Шундрык даследаваў гісторыю роднага краю, сам спрабаваў пісаць, выступаў з артыкуламі на краязнаўчую і літаратурную тэматыку ў мясцовым і абласным друку. «Мне аднойчы запомніўся яго цікавы і змястоўны даклад пра Гальяша Леўчыка на секцыі настаўнікаў беларускай літаратуры, — прыгадвае настаўнік-пенсіянер Мікалай Ракевіч. — Валодзя меў схільнасць і да паэзіі, пісаў вершы на патрыятычныя тэмы, іншы раз па памяці дэкламаваў іх. Шкада, што я не запісаў вершаў Уладзіміра Шундрыка».

Адзін з твораў Уладзіміра Шундрыка быў надрукаваны ў зборніку «Золак над Шчарай» (Слонім, 1994), ён прысвячаўся роднай мове. Вось як гучыць адна страфа з таго верша:

Беларуская мова — гэта факел свабоды,
Гэта промень святла ў паднявольнай начы.
Паважае ўвесь свет толькі тыя народы,
Што змаглі сваю мову, свой край зберагчы…

Беларускую мову і слова Уладзімір Іванавіч Шундрык шанаваў, як самае святое на зямлі. Ён любіў Бацькаўшчыну і свой горад. Ён шчыра вітаў незалежнасць Беларусі, быў сябрам БНФ, прымаў удзел у многіх мерапрыемствах, якія ладзіліся сябрамі БНФ.

У апошнія гады ён жыў адзін. Ён перажываў за ўсё, што адбывалася ў Беларусі. Гэтыя перажыванні, адчай і самота ўкарацілі яму жыццё.

III

## Легенды і паданні Слонімшчыны

### Азярніца

Пра вёску Азярніца існуе некалькі легендаў. Адна з іх распавядае пра тое, што вёска некалі знаходзілася сярод невялікіх азёр. Таму і стала называцца Азярніца.

Згодна іншай легендзе, Азярніца называецца таму так, што некалі ў гэтым краі ў азёрах было шмат русалак, якіх людзі клікалі азярніцамі. Вельмі часта русалкі-азярніцы выходзілі на бераг і гайдаліся на галінках бярозаў і вербаў. А тых, хто да іх трапляў, азярніцы маглі да смерці заказытаць. Асабліва русалкі любілі лавіць хлопцаў. Але колькі юнакоў заказыталі азярніцы — ніхто не ведае.

А яшчэ бытуе легенда, што назва Азярніца ўзнікла ад слова «зерне». Людзі прыходзілі ў Азярніцу — азярніцца, па «зерне» — гэта значыць па багацце і натхненне.

### Акоўка

Праз вёску Азярніца працякае рэчка Акоўка. Мясцовая легенда распавядае, што, калі на вёску напалі крыжакі, мясцовыя жыхары схаваліся на адзін невялікі астравок. Крыжакі іх заўважылі і вырашылі прайсці праз рэчку, якая тады была вельмі шырокай, каб людзей захапіць у палон. Але вяскоўцы на востраве пачалі маліцца



Богу. І раптам сярод лета наступіла зіма: рэчка пакрылася лёдам і скавала ўсіх крыжакоў, якія ўвайшлі ў ваду. Ворагі загінулі, а людзі вярнуліся дамоў.

### Акунінава

На ўзгорку вялікага лесу, які называецца Шумны бор, жыў некалі ляснік Акунін. Яго сядзіба знаходзілася на лясной паляне, вакол якой былі адны балоты. Гэта месца людзі называлі Акунін-востраў. Акунін жыў у канцы XIV— пачатку XV стагоддзя. У 1432 годзе Шумны бор перайшоў у прыватную ўласнасць і Акуніна папрасілі адтуль выселіцца. Але ён хутка памёр, а сядзіба запусцела. Праўда, з цягам часу туды пачалі сяліцца людзі, бо гэта было вельмі зручнае месца для жыцця. І ўжо ў другой палове XV стагоддзя на востраве з’явілася вёска Акунін. Але праз некалькі стагоддзяў вёску пачалі ўжо называць Акунінава.

Існуе і яшчэ адна легенда пра Акунінава. Вяскоўцы расказваюць, што на месцы вёскі некалі было вялікае балота, дзе вадзілася шмат акунёў. Калі возера высахла — на тое месца пачалі сяліцца людзі. Яны так і назвалі вёску — Акунёва, Акунінава.

### Баравікі

Бор — гэта сасновы лес. Сосны звычайна растуць на ўзвышшы, дзе менш вільгаці. Такія месцы заўсёды зручныя для пасялення людзей. Вось такое месца і выбралі першыя жыхары вёскі Баравікі — месца, якое знаходзілася побач з борам. Ад слова «бор» і назвалі сваю вёску Баравікі. Дый, відаць, у бары расло і шмат баравікоў.

### Бракава

Пра вёску Бракава старыя людзі расказалі, што на месцы цяперашняга Бракава быў лес, у якім раслі толькі вялікія сосны. У гэты лес прыязджалі палякі, якія высякалі зграбныя сосны і іх прадавалі.

Аднойчы ў гэты лес яны прыслалі свайго прадстаўніка — бранёра, які пасяліўся там каля сосен. Потым з цягам часу гэта пасяленне лесарубаў назвалі Бракава.

## Бярдовічы

На месцы, дзе цяпер знаходзіцца вёска Бярдовічы, быў некалі хутар. На тым хутары жыў адзін чалавек. Гэтага чалавека людзі называлі майстрам. Але майстар нічога асаблівага рабіць не ўмеў, бо ў яго здольнасць была адна — бёрды. Такіх майстроў не мелі ніводная бліжэйшая вёска і ніводзін хутар. Бо не так проста было зрабіць бёрды для кроснаў. А ён умеў — рабіў бёрды хутка, добра і якасна. Усе вяскоўцы прасілі майстра, каб ён паказаў і навучыў рабіць бёрды, але майстар адмаўляўся.

Аднойчы ён пагадзіўся быць настаўнікам па вырабу бёрдаў. Ён склікаў людзей і паказаў, як трэба іх вырабляць. Гэтаму рамяству ён вучыў вяскоўцаў з радасцю. І людзі яго вельмі палюбілі, нават не хацелі вяртацца ў свае вёскі і хутары. Яны побач з ім будавалі хаты і гумны. Так хутка з'явілася вёска, якую шчыра назвалі Бярдовічы.

## Возера Бяздоннае, камень-бацька і камень-сын

Возера Бяздоннае знаходзіцца на поўдні вёскі Клепачы Слонімскага раёна. Жыхары гэтай вёскі пра возера расказваюць такую легенду. Даўным-даўно на месцы сучаснага возера была вёска з дзвюма вуліцамі, якія перасякаліся. Аднойчы ў гэту вёску прыйшла бедная жанчына. Яна хадзіла па хатах і прасіла міласціны. Але людзі яе не вельмі ветліва сустракалі — зневажалі, некаторыя адмаўляліся даць кавалачак хлеба ці бульбінку, сякое-такое адзенне. Жанчына добра разумела, што жыхары гэтай вёскі і самі жылі не вельмі багата. Тым не менш ёй было да болю крыўдна, што яе так зневажалі. Жанчына ішла і моцна плакала. Але раптам з крайняй хаты выйшаў мужчына і паклікаў незнаёмку ў хату, накарміў яе і даў яшчэ хлеба на дарогу. Здзіўленая жанчына была вельмі ўдзячна за такую дабрыню, шчырасць і міласэрнасць. Яна запытала гаспадара: «Хто яшчэ жыве з вамі ў гэтай добрай хаце?». Мужчына адказаў, што жонка яго памерла ўжо даўно, а ён жыве з сынам-падлеткам. Тады жанчына папярэдзіла: «Бярыце свайго сына і як мага хутчэй уцякайце з гэтай вёскі, бо ваша вёска хутка праваліцца ў бездань і загінуць усе людзі разам з



усёй маёмасцю. Ідзіце з сынам на гару, якая бачна з вёскі на поўнач гледзячы, але не аглядайцеся на сваю хату».

Мужчына з сынам паслухалі жанчыну і хуценька выйшлі з вёскі на гару, але не вытрымалі і азірнуліся. Вёскі ўжо не было. Замест яе ўтварылася возера, а дзе былі дарогі — там засталася гладзь вады. А бацька з сынам ператварыліся ў два камені-валуны, меншы — камень-сын, большы — камень-бацька. І цяпер гэтыя валуны ляжаць на ўскрайку вёскі Клепачы Слонімскага раёна. Людзі іх і сёння называюць бацькам і сынам. А возера сталі называць Бяздонным, бо вёска правалілася ў бездань. І да сённяшніх дзён ніхто ў ім не можа вымераць глыбіню і дастаць да дна.

У 1976 годзе слонімскі паэт Алесь Сучок (1916–1993) напісаў «Баладу пра Бяздоннае возера». Яна гучыць так:

Між гор яно. Упадзінай глыбокай,
Як люстра светлае, блішчыць з далечыні.
Улетку ў ім там мыюцца аблокі,
І мноства хваль — пайдзі пералічы.
Легенды ходзяць сумныя ў народзе:
На месцы тым, дзе возера разліў,
Было мястэчка людное такое,
І ўсё пайшло наскрозь зямлі, ў прарыў.
Ў людской легендзе, можа, праўды сіла,
Стары тут могільнік пры беразе зусім.
І пліты на магілах ў моху сівым,
Ніхто не помніць стаўленыя кім.
У час вячэрні, як няма аблокаў,
Як сонца твар схіляе да зямлі,
Паглянь на возера. У тоні вод глыбокіх
Убачыш вуліцы ў мястэчку, як ішлі.
Уявіш мітуслівы клопат ранні,
Пачуеш песню, з поля ідучы.
І спраўдзіцца легенды той казанне, —
Усё, што людзі змогуць зберагчы.

### Возера Бяздонка

Паміж вёскамі Ісаевічы і Дзераўная ёсць прыгожае лясное возера Бяздонка. Ні адзін ручай не ўпадае ў гэтае возера і не выцякае з яго. Зімой возера не замярзае. Ляжыць яно паміж невысокіх гор. Пра гэта возера людзі расказваюць такую легенду.

Даўным-даўно жыў у Ісаевічах пан. Было ў яго многа нявольніц — прыгожых дзяўчат з усяго свету. Жылося ім вельмі цяжка. Пан і яго падпанкі здзекаваліся з дзяўчат. Аднаго разу пан узлаваўся на прыгажунь, схапіў трохгадовага хлопчыка і кінуў у возера. А сам нікога не дапусціў да вады, пакуль хлопчык не патануў. Маладая маці доўга шукала сына, каб пахаваць. Але возера было такое глыбокае, што дна ніхто не мог дастаць. Возера страшна бушавала, вада была чорная, як сажа. Не вытрымала маці свайго вялікага гора і… утапілася. Вада ў возеры з тае пары стала чыстая-чыстая і падобная на матчыны слёзы.

### Вомшаро

У лясным масіве недалёка ад вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна і вёскі Сынковічы Зэльвенскага раёна ёсць урочышча, якое людзі называюць Вомшаро. Вяскоўцы расказваюць розныя легенды пра Вомшаро. Напрыклад, калі хто ішоў у лес па грыбы, ці гнаў у лес пасвіць каровы, ці ехаў па дровы, яго папярэджвалі: «Каб не заходзіў і не ехаў у Вомшаро». Бо той, хто туды трапляў, дамоў ужо не вяртаўся. У Вомшары жыў лесавік Вомшар, які летам, восенню і вясною хапаў людзей і цягнуў у сваё тарфянае балота. Зімою лесавік спаў, таму тады можна было на санях смела праехаць праз Вомшаро. Людзі баяліся і баяцца сёння Вомшара, стараюцца яго абыходзіць бокам.

### Высацк

Калі яшчэ не было гэтай вёскі, людзі жылі ў нізіне ў балотнай мясцовасці. Ім там жылося вельмі дрэнна, бо зямля была неўрадлівая і вадзілася шмат камароў.

Аднойчы вырашылі яны памяняць сваё месца жыхарства на іншае. Сабралася ўся вёска на сход. На ім вяскоўцы прыдумалі знайсці такое месца, дзе будзе бліжэй да сонца. Доўга яны хадзілі-блукалі ў



пошуках месца для жыцця і неяк усё ж натрапілі на даволі высокую мясцовасць. Перабраліся туды і назвалі сваю вёску Высацк.

### Вядзьмар Шашэйка

Старыя жыхары вёскі Хадзявічы часта расказваюць легенды пра старога ведзьмара Шашэйку, які не любіў, калі бралі шлюб маладыя вяскоўцы.

У дзень вяселля ён прыходзіў да хаты маладажонаў, глядзеў на іх і нешта варажыў. Неяк адна пара прыехала з царквы. Перад тым як зайсці ў хату, маладых саджалі на ўслончык і падкідалі ўверх. Шашэйка нешта шаптаў, і ўслончык, на якім сядзелі маладыя, пераламаўся папалам. Хлопец з дзяўчынай доўга не пражылі, а хутка разышліся.

На іншым вяселлі ў хату, дзе гулялі госці, забеглі два шалёных сабакі і пачалі кусацца. Кусаліся і бегалі па хаце да таго часу, пакуль іх не аблілі вадой, і тады яны, спалохаўшыся, выбеглі на вуліцу. Праз некалькі гадоў і гэта пара развялася. Бо Шашэйка і ім наваражыў бяды.

Доўга так вадзьмар Шашэйка рабіў непрыемнасці. Але аднойчы з царквы прыехала новая пара. Вяскоўцы прыйшлі паглядзець на маладых. Быў там і Шашэйка. Ён стаяў каля плота і нешта мармытаў. Убачыла гэта бабуля нявесты і кажа: «Дзеткі, вы не бойцеся, а ідзіце за мной і рабіце тое, што буду рабіць я». Бабуля ўвайшла ў хату не праз дзверы, а праз акно. А за ёй праз акно ў хату пралезлі маладая з маладым. Шашэйка, як убачыў такое, спалохаўся і сам сабе прамовіў: «Гм, яшчэ мацнейшая вядзьмарка за мяне». Пасля гэтага выпадку вядзьмар Шашэйка не хадзіў на вяселлі і хутка памёр.

### Гарадок

Адно з гарадзішчаў каля вёскі Ніз Слонімскага раёна людзі называюць Гарадок. Паводле легенды, якую расказваюць жыхары вёскі Ніз, калісьці тут быў горад, у якім жылі вельмі моцныя і дужыя людзі. Яны вырывалі сасновыя дрэвы з каранямі і хадзілі, абапіраючыся на іх, як на кійкі. А ў паўднёва-ўсходнім раёне Гарадка збіраліся бесы і спявалі «бандуркі». Іх страшэннае выццё наводзіла страх на ўвесь Гарадок. А непадалёк ад Гарадка на «страпчымперавозе» адбываліся

забойствы і рабаўніцтвы. А побач стаяў тракцір, дзе ў якасці ежы прадавалі чалавечае мяса. Адзін святар пракляў гэтую мясцовасць. Пасля пракляцця каля Гарадка ўтварылася вялікая адтуліна, якая вяла ў бездань. З бездані ўсе чулі рыканне жывёл і д'ябальскія енкі. Пасля ўсяго гэтага моцныя і дужыя людзі з Гарадка спалохаліся, разбегліся хто куды, і пасяліліся яны ў іншых месцах. А тое месца цяпер называюць Гарадок.

## Гарадзішча каля Збочна

Паводле мясцовай легенды, гарадзішча каля вёскі Збочна Слонімскага раёна звязана з закапаным скарбам, які ноччу свеціцца. А была справа так. Нейкі салдат, які ў гэтай мясцовасці прымаў удзел у бітве, аднойчы закапаў ваенны залаты скарб. Прайшло шмат гадоў. Калі ён стаў стары, то ўспомніў закапаны скарб і прыехаў сюды, каб яго адшукаць. Калі ён падышоў да гарадзішча, то ўбачыў, што ўжо не растуць альховыя дрэвы, пад якімі быў закапаны скарб. Стары салдат пачаў шукаць скарб, але дарэмна. І тады ён сказаў мясцовым людзям пра золата, і калі хто яго знойдзе, то хопіць ім і іх нашчадкам. Людзі кажуць яшчэ, што чатыры разы ў суткі — вечарам, ноччу, раніцай і ў поўдзень — многія бачылі, як прасушвалі скарб.

## Гіганцкая рыба

Пра Бяздоннае возера існуе вельмі шмат легендаў. Мясцовыя людзі распавядаюць, што ніхто ніколі не змог у ім дастаць дна. А справа ў тым, што дно возера як жывое: яно то з'яўляецца, то ўцякае з-пад ног. Аднойчы аквалангісты вырашылі вывучыць дно вадаёма. Яны спусціліся ў ваду, але праз пяць хвілін выскачылі з вады і са страхам пачалі распавядаць, што на дне Бяздоннага возера ўбачылі гіганцкую рыбу, якая, заўважыўшы ў вадзе людзей, плыла на іх. Магчыма, гэта гіганцкая рыбіна ахоўвае дно Бяздоннага возера.



## Грынкі

Адна з легенд распавядае, што на месцы вёскі Грынкі некалі жыў жабрак. Людзі баяліся блізка падыходзіць да яго. З суседніх вёсак і хутароў гэтага чалавека называлі «грынлівы жабрак». Ён быў дзіўны, а таксама на ім было шмат лішаёў. Усе баяліся з ім сустрэцца, бо казалі: калі грынлівы жабрак дакранецца, то цела пакрыецца лішаямі. Але там, дзе жыў грынлівы жабрак, была вельмі ўрадлівая зямля. І калі жабрак памёр, то людзі хутка перасяліліся туды. А месца назвалі Грынкі — ад слова «грынлівы».

## Грыўда

Вёска Міжэвічы знаходзіцца на беразе ракі Грыўда. Легенда расказвае, што некалі злыя людзі праклялі двух закаханых маладых людзей. Аднойчы, калі маладыя ехалі на конях, яны нечакана адчулі, што з конямі нешта адбываецца. І раптам коней не стала — яны ператварыліся ў два камяні, з-пад якіх пэўны час выцякаў маленькі ручаёк, як сімвал вялікага кахання. Вада струменіла, цякла па камянях, уздыхала. І ў гэтым сумным дыханні было чуваць: «Крыўдна, крыўдна, крыўдна…». Але не ўсе разумелі першыя літары слоў, нават не ўсе іх дачувалі, таму рэчку назвалі Грыўда.

## Дзве легенды пра Дзявяткавічы

У бацькі было дзевяць сыноў. Ішоў час, і сыны сталі дарослымі. Першым ажаніўся старэйшы сын. Нарадзіліся дзеці. Стала цесна ў невялікай хаце. Вось і кажа бацька старэйшаму сыну: «Выбірай, сынок, зручнае месца. Будзем табе новую хату будаваць». Ён выбраў зручнае месца для пасялення, а бацька з братамі дапамаглі яму пабудаваць хату.

Потым пажаніліся іншыя браты. Адзін за адным, услед за старэйшым братам, будавалі яны сабе хаты. Хутка ўзнікла вёска з дзевяці двароў. Вось і вырашылі браты назваць сваю вёску Дзявяткавічы.

* * *

Гандляры, калі ехалі са Слоніма ў Косава, спыняліся і прадавалі мясцовым жыхарам свае тавары. Па гэтай дарозе, па Косаўскім тракце, як кажуць у народзе, пачалі сяліцца людзі. Хутка іх паселішчы ператварыліся ў вёскі. На дзевятнаццатым кіламетры, а гэта была сярэдзіна шляху, узнікла яшчэ адна вёска. Яна аказалася дзявятай па ліку. Вось і вырашылі вяскоўцы назваць яе Дзявяткавічы.

## Дундар

Аднойчы юная пастушка з вёскі Ганькі пагнала пасвіць у поле карову. Бліжэй да абеду цёмныя хмары завалаклі неба. Пачалася навальніца. Дзяўчынка ўбачыла ў полі вялікі камень, схавалася за ім ад ліўня. Але раптам гром стукнуў у камень і забіў дзяўчынку. Пайшла па вёсцы пагалоска, што дзяўчынку ў полі забіў дундар. І цяпер, калі ў вёсцы хто сварыцца, дык жадаюць: «Каб цябе дундар свіснуў!»

## Жыровічы

Існуе паданне, што на месцы сённяшніх Жыровічаў была вялікая пушча. Гэтай пушчай валодаў нейкі паганец па прозвішчы Жыр. Ён лавіў на лясных сцежках і дарогах людзей і браў у палон. У палоне яны будавалі хаты і жылі пад наглядам паганца. Шмат ім было злоўлена люду. Але Жыр хутка памёр. І людзі сталі вольнымі, а мястэчка назвалі Жыровічы.

## Жыровіцкая ікона Божай Маці

Калісьці даўным-даўно на месцы манастыра быў дрымучы лес. Як і ўсё наваколле вёскі Жыровічы, належаў ён падскарбію Вялікага Княства Літоўскага Аляксандру Солтану. Аднойчы летнім днём 1470 года мясцовыя праваслаўныя вернікі пасвілі ў лесе кароў. Непрыкметна зайшлі яны туды, дзе ніколі раней не былі. І ў лясным паўзмроку заўважылі ў галінах лясной грушы-дзічкі нязвыклае дзіўнае святло. Яны спусціліся з пагорка на бераг ручая і здзівіліся яшчэ больш. На дрэве, у зялёналістым атачэнні, як у шатах, цудадзейным святлом праменіўся абразок Божай Маці з ейным святым сынам на правай



руцэ. Пастухі знялі абразок з дрэва. Быў ён выразаны з каштоўнага каменю яшмы, невялікі, змяшчаўся на далоні рукі. Меў авальную форму.

Усцешаныя незвычайнай знаходкай, пастухі аднеслі абразок Солтану. Той не надаў значэння расказам пастухоў і схаваў яго ў куфэрак. Калі ж на наступны дзень захацеў паказаць лясную знаходку гасцям, абразка ў куфэрку не аказалася. Не адчуваючы нічога благога да служылых людзей, гаспадар маёнтка, аднак, моцна здзівіўся гэткаму здарэнню.

А праз некалькі дзён пастухі знайшлі зніклы абразок у тым самым лесе, над тым самым ручаём і на той жа дзікай грушы. Яны зноў знялі яго і зноў перадалі свайму гаспадару. Аляксандр Солтан, усвядоміўшы незвычайнасць падзеі, сам пайшоў на месца з'яўлення абразка. Там ён даў абяцанне збудаваць у гонар дзівоснай праявы царкву. Неўзабаве тут паўстаў драўляны храм, галоўны алтар якога знаходзіўся акурат на месцы, дзе расла лясная груша. А пазней узнікла там паселішча Жыровічы.

## Забалацце, Смаўжы, Засімавічы

Вёскі Смаўжы, Засімавічы, Забалоцце — заўсёды былі баярскія. Назвы тлумачацца вельмі проста. Забалацце было за балотам, таму так і назвалі вёску. Смаўжы знаходзіліся каля самай багны, там вельмі шмат было смаўжоў. А першымі жыхарамі Засімавічаў былі два чалавекі, абодвух клікалі Засімам. Так, паводле легендаў, і ўзніклі Забалацце, Смаўжы і Засімавічы.

## Іярданка

Пра рэчку Іярданку існуе такая легенда. Некалі на рацэ недалёка ад вёскі Вялікая Кракотка стаяў млын. Ён належаў мясцовым яўрэям, якія жылі побач. У сям'і гэтых яўрэяў былі дачка Данка і сын Іяр. Аднойчы яны селі ў лодку і паплылі па рацэ па цячэнні. Калі яны плылі, пачалася навальніца з маланкай, громам і градам. Маці гэтых дзяцей выбегла на вуліцу і пачала крычаць: «Іяр! Данка!». Але дзеці так і не пачулі маці і ніколі не вярнуліся дамоў. Яны загінулі. Хутка яўрэі прадалі млын і ўсю сваю гаспадарку, і некуды назаўсёды

выехалі. З таго часу людзі пачалі называць рэчку Іярданкай. Хаця, магчыма, з часоў першых праваслаўных хрысціян рэчку гэту пачалі называць у гонар палесцінскай ракі Іярдан.

### Казлы — Альбярцін

Слонімскі мікраараён Альбярцін у народзе называюць Казламі. І на эмблеме кардонна-папяровага завода «Альбярцін» адлюстраваны козлік. Існуе легенда, што калі ў Альбярціне пасяліліся паны Пуслоўскія, яны пачалі займацца паляваннем. Найперш адстрэльвалі ў мясцовых лясах ласёў і казуль. Іх мяса салілі ў бочках, а потым прадавалі за мяжу. І дзякуючы гэтаму сталі багатымі людзьмі. А ў дваццатых гадах мінулага стагоддзя, калі пачаў працаваць завод, іншай эмблемы, як малюнак казла (казулі), прыдумаць не маглі. І людзей, якія жывуць у Альбярціне, называюць сёння казламі.

### Канатоп і Вялікі Млын

Недалёка ад вёскі Старая Перавалока ёсць штучнае возера Вялікі Млын, створанае на рацэ Зяльвянка. На гэтай рэчцы былі пастаўлены шлюзы, праз якія вада падавалася на вадзяны млын. Існуе легенда, што той млын пабудавала пані Лідкоўская, якая прыехала сюды са сваім сынам яшчэ да вайны. Вялікі Млын рабіў некалькі аперацый. Таму і возера называлі Вялікі Млын. А за возерам было месца Канатоп. Людзі расказваюць, што аднойчы туды паехала запрэжаная павозка. Назад яна вярнуцца не змагла, бо патанула ў багне разам з канём і людзьмі. З таго часу людзі так і кажуць — Канатоп.

### Курачы і падухоўныя

Паводле легендаў, прозвішчы жыхарам цэлых вёсак даваліся па розных прычынах. Напрыклад, жыхароў былой вёскі Цывіншчына называлі курачамі. Называлі іх так за тое, што яны звычайна раніцай не спяшаліся на кірмаш, бо любілі даўжэй паспаць. Калі жыхары вёсак Нагуевічы і Харашэвічы ўжо ехалі на рынак, цывінцы толькі прачыналіся, закурвалі свае цэдулькі, запальвалі печы. Карацей, раніцай уся вёска «курыла».

А вось жыхароў вёскі Першыя Пятралевічы называлі плябанцамі. Яшчэ пры Польшчы да 1939 года назва гэтай вёскі гучала так — Пятралевічы-падухоўныя. Бо жыхары гэтай вёскі былі замацаваны за царквой і працавалі на духавенства. Таму, калі ў вяскоўцаў пыталіся, дзе яны жывуць, тыя адказвалі: «У плябаніі».



### Клепачы

Назва вёскі Клепачы паходзіць ад таго, што жыхары гэтай мясцовасці вельмі рана пачыналі кляпаць косы ў час касавіцы. Стук малатка аб касу будзіў жыхароў з усіх навакольных вёсак. Вось іх і пачалі называць клепачамі, і вёсцы далі такую ж назву.

### Крынічка каля Збочна

Адна слонімская жанчына нарадзіла сляпое дзіця і вельмі гаравала, таму што ніхто не мог яму вярнуць зрок: ні дактары, ні шаптуны. Аднойчы жанчына даведалася, што ў вёсцы Збочна ёсць святая каплічка, а таксама крынічка са святой вадой. Вырашыла яна наведаць каплічку. Узяла дачушку на рукі і пайшла, хаця не ведала, дзе насамрэч струменіць крынічка. Доўга яна хадзіла па наваколлі каля Збочна, прытамілася, села адпачыць. Раптам бачыць невялічкую крынічку, падышла і стала піць ваду. І дзяўчынка спатоліла смагу, памыла тварык халоднай і чыстай вадой. А праз некалькі хвілін малая закрычала: «Мама, паглядзі, вунь тая каплічка, якую мы шукалі!»…

### Лапухова

Пра вёску Лапухова легенду ведаюць усе вяскоўцы. Жыў некалі на вялікай гары змей. І былі ў яго вялікія чорныя крылы, доўгі хвост і лапы. Кожны дзень змей аблятаў свае ўладанні. Аднойчы ён пралятаў над Пенным балотам — урочышчам каля Лапухова. Зверху змей убачыў пасярод балота высокі сухі ўзгорак, які быў абнесены сцяной і валам. Зацікавіла гэта змея, ён падляцеў бліжэй і ўбачыў людзей. З вышыні змей прапанаваў людзям, каб яны яму падпарадкаваліся. Але людзі адмовіліся і пачалі з ім біцца. Змей быў мацнейшы за людзей, ён спаліў узгорак і мужчын. Жывымі засталіся толькі жанчыны. Змейператварыўся ў прыгожага юнака і спусціўся на зямлю. Каб застацца жывымі, змей прапанаваў жанчынам падпарадкавацца. Але раптам насустрач змею выехала на алені Вялікая Маці з лісцем

лопуха ў руках. За ёй ішла Вялікая Сястра з факелам. За Сястрой — Цётка з гляком крынічнай вады і Вялікая Дачка з лукам і стрэламі. І сказалі яны змею: «Будзь нашым уладаром і мужам». Узрадаваўся змей і ад шчасця наладзіў вялікі пір. Некалькі дзён усе пілі і гулялі, а змей напіўся і сказаў, што ён мае чатыры чароўных зубы. Адным зубам ён кіруе агнём, які паліць лясы, зямлю, паветра. Другім — гарамі, палямі, стэпамі, астравамі. Трэцім зубам — паветрам і птушкамі, чацвёртым — дажджамі і снегам, акіянамі і рэкамі, азёрамі і балотамі, а таксама рыбамі. І зразумелі жанчыны, што ўся сіла змея ў зубах. І калі ён заснуў, кабеты каменем выбілі зубы змею. Раззлаваўся змей, але нічога зрабіць не змог. Ён паляцеў на сваю гару і схаваўся назаўсёды ў пячоры. А дочкі Вялікай Маці нарадзілі сабе сыноў ад змея, якія засяляліся побач. Мястэчка каля Пеннага балота назвалі Лапухова. Бо менавіта Вялікая Маці з лопухам у руках перамагла змея.

Старыя вяскоўцы Лапухова распавядаюць, што ва ўрочышчы Пеннае балота яшчэ пасля вайны можна было ўбачыць сухую гару Груд, на вышыні якой ляжалі вялікія камяні, выкладзеныя сцяною. Менавіта там, паводле легенды, знаходзілася гарадзішча, якое спаліў змей.

### Легенда пра вяселлі на Сехнавым полі

У народзе кажуць: вяселле нікому дарогі не саступае. Каля Радавіцкага лесу на Сехнавым полі каля вёскі Бярдовічы аднойчы сустрэліся два вяселлі. Адно вяселле ехала з вянчання з Сынковіцкай царквы, а другое ў царкву ехала вянчацца. І вось яны сустрэліся ў адной калейцы ад колаў. Ніхто не хацеў саступаць дарогі. А вяселлі тады былі невялікія: маладыя, сват, свацця, сябры і сяброўкі. Пачалася бойка. Біліся ўсе да таго маманту, пакуль адзін аднаго не пазабівалі. Там іх і пахавалі ўсіх. Пра гэта каля Бярдовічаў нагадваюць каменныя курганы.

### Малая і Вялікая Кракоткі

Так называюцца на Слонімшчыне дзве вёскі. Як расказваюць мясцовыя жыхары, даўным-даўно на поўначы Слонімскага краю згарэла ад маланкі і грому ўся вёска. А ў гэтай вёсцы жылі браты Кракі. Пасля пажару яны селі ў два чоўны і паплылі па роднай рацэ



Іярданцы ў пошуках новага месца для пасялення. Іярданка ў той час была вельмі глыбокая і шырокая. Плылі браты, плылі, пакуль не спыніліся там, дзе сёння стаіць вёска Вялікая Кракотка. Месца Кракам спадабалася. Старэйшы брат прапанаваў малодшаму застацца тут і пачаць будаваць сабе жыллё. Але малодшы Крак падумаў-падумаў і сказаў: «Я крыху адплыву далей, можа, там яшчэ лепшае месца будзе». І ён паплыў. Адплыў зусім недалёка і заснаваў там вёску Малая Кракотка. А старэйшы яго брат — Вялікую Кракотку.

### Масілавічы

На тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца вёска Масілавічы, быў некалі хутар, на якім жылі чатыры сям'і: Масалыкі, Масаляны, Масевічы і Масілавічы. Жылі яны дружна, не спрачаліся. Неяк Масалыкі, Масаляны, Масевічы і Масілавічы сабраліся разам і пачалі думаць, як назваць свой хутар. Масаляны прапанавалі назваць у гонар іх прозвішча. Але Масевічы такой прапановай засталіся незадаволеныя. Тады Масалыкі і Масілавічы параілі цягнуць жэрабя. Накідалі ў шапку чатыры роўненькія кіёчкі, праўда, адзін з іх быў чуць-чуць карацейшы. І той, хто выцягне карацейшы, тым прозвішчам і вырашылі назваць свой хутар Масалыкі, Масаляны, Масевічы і Масілавічы. Карацейшы кіёчак трапіў Масілавічам. Таму так і назвалі хутар, а потым стала так называцца і ўся вёска — Масілавічы.

### Махначы

Вясковыя людзі пра Махначы распавядаюць страшную легенду. Нібыта на месцы, дзе зараз знаходзіцца вёска, рос густы лес. І ў гэтым лесе жыў адзін чалавек. Быў ён вельмі калматым, кудлатым і кашлатым. Але людзі так яго не называлі, а казалі па-мясцоваму — махнаты. Усе вельмі баяліся махнатага чалавека. Але ў лес па ягады і грыбы ўсё роўна хадзілі. А той, хто ў лесе заблудзіўся і дамоў не вяртаўся, казалі, што схапіў яго махнаты чалавек. За шмат гадоў нахапаў махнаты шмат люду. Дамоў ён нікога не пускаў, таму людзі жылі ў лесе, дзе будавалі сабе жыллё. І нават прозвішча мелі Махнач, Махновіч. А калі махнаты чалавек памёр і людзі сталі вольнымі, сваё паселішча яны назвалі Махначы.

## Мізгіры

Існуе легенда, што там, дзе цяпер знаходзіцца вёска Мізгіры, жыў павук. Месца было вельмі добрае, зямля ўрадлівая. Але павук, якога людзі называлі Мізгір, нікога на сваю зямлю не пускаў. Ён ахоўваў яе днём і ноччу. Вакол зямлі павука Мізгіра раслі высокія сосны. Павук вакол соснаў наплёў шмат павуціны, і людзі ніяк не маглі праз яе пралезці. А калі яны пачыналі сякерамі сячы і нажамі рэзаць павуцінне, прыбягаў Мізгір. І ўсе ўцякалі. Аднойчы сабраліся людзі ўсе разам і вырашылі пайсці да Мізгіра і забраць у яго добрую зямлю. Прыйшлі яны да павуціння і пачалі сячы яго і рэзаць. Калі ачысцілі дарогу да добрай зямлі, Мізгіра нідзе людзі не ўбачылі і не знайшлі. Не з’явіўся ён ні праз год, ні праз два. Падзялілі зямлю людзі між сабой, пабудавалі хаты і сталі жыць. А вёску назвалі ў гонар павука Мізгіра.

## Мілаванне

Некалі праз вёску праходзіў стары сівы падарожнік. Ён вельмі моцна хацеў піць. І раптам на яго шляху ўзнікла крыніца. Падарожнік напіўся вады з гэтае крыніцы, наталіў смагу. На смак вада яму вельмі спадабалася, і ён у захапленні прамовіў: «Мілая вада!» З таго часу і сталі называць пасяленне, якое ўзнікла на гэтым месцы, такой мілагучнай назвай — Мілаванне.

## Падлужжа

Так называецца ўрочышча недалёка ад вёскі Хадзявічы. Паводле легенды, якую расказваюць вяскоўцы, тут быў вялікі белы палац, дзе жыла пані Падлужанская. У яе было 50 гектараў зямлі. Высокая, худая, прыгожая пані была не замужам. Яна ездзіла на белым кані, была ганаровай і асцярожнай. Да сябе блізка пані нікога не падпускала, асабліва была асцярожнай у адносінах да мужыкоў. Аднойчы людзі заўважылі, што кудысьці пані Падлужанская знікла. Тыдзень яе не было, месяц… Так пані і не вярнулася. Тады людзі з суседніх вёсак сабраліся і пачалі рабаваць яе белы палац. Расцягнулі ўсё дашчэнту. А тое месца, дзе жыла пані Падлужанская, сталі ў народзе называць Падлужжа.



## Пан Сурын

Гісторыя пра пана Сурына адбылася вельмі даўно. Людзі толькі пачалі асвойваць новую мясцовасць, будаваць хаты. Уся гэта зямля належала пану Сурыну. У ваенных паходах пан Сурын параніў нагу, таму моцна кульгаў. Ён заўсёды быў злосным, гаспадаркай не займаўся, а цэлымі днямі гуляў з панамі-суседзямі ў карты і любіў плаваць.

Аднойчы вясной, калі было вялікае разводдзе, каб заехаць да сваіх паноў-сяброў, Сурын загадаў сялянам пабудаваць мост. Мясцовыя мужыкі прасілі пана не будаваць мост, бо ім на гэта няма часу, трэба было рыхтавацца да пасяўной. Але Сурын не пагадзіўся на прапановы людзей. Больш за ўсё пана прасіў селянін Дзям’ян, але яго за гэта білі розгамі так, што ён нават не мог стаяць.

У Дзям’яна было шасцёра сыноў і прыгажуня-дачка Марыя. Старэйшыя сыны на руках прынеслі Дзям’яна дамоў, а за імі ішла і плакала дачка Марыя. Пан Сурын глянуў на дзяўчыну, і яна яму спадабалася, хаця пану ўжо было шмат гадоў.

Сяляне выканалі просьбу пана, яны пабудавалі мост, высыпалі добрую дарогу. Але на цэлы месяц затрымалася пасяўная збожжа, таму многіх чакаў голад. Некалькі мужыкоў у той час памерла і ад прастуды.

Пасля Вялікадня пан Сурын аб’явіў, што ён жэніцца з Марыяй. А яе бацька Дзям’ян так і не ачуняў, а потым сышоў у магілу. І тады старэйшыя браты Марыі Гаўрыла і Палікарп вырашылі адпомсціць пану Сурыну за бацьку. Цёмнай ноччу, калі пан вяртаўся ў брычцы з гулянкі, браты спынілі яго на мосце і закалолі віламі.

Хутка пачалася вайна. Ворагі спалілі ўсе хаты вяскоўцаў, забілі шмат людзей, загінулі таксама Гаўрыла і Палікарп. Таму тады ніхто не шукаў тых, хто забіў пана Сурына, хаця ўсе ведалі, што іх забілі сыны Дзям’яна.

Прайшло шмат гадоў. Новая вёска была пабудавана недалёка ад моста. Старэйшыя жыхары часта ўспаміналі і нават снілі пана Сурына. З часам мост людзі сталі называць Сурынаў мост, а потым усю вёску — Сурынкай.

### Паравалока

Паводле легенды, якую распавядаюць старыя жыхары вёскі Паравалока, некалі паравалокцы прымалі да сябе ў абшчыны прыгонных сялян-уцекачоў, дык тыя там аўтаматычна атрымлівалі волю. З гэтай прычыны, што ўсе туды «паравалэкаліся», вёска і атрымала сваю назву.

### Пляшкі

У далёкія часы наша мясцовасць была пакрыта лясамі, а вакол было шмат балотаў. Добрае месца для пасялення людзей выбраць аказвалася не так і проста. Для гэтага неабходна было выпальваць лес. А рабілася гэта так. Спачатку дрэвы высякалі, затым выкарчоўвалі пні, а калі ўсё высыхала, дрэвы і пні спальвалі. Такое выпаленнае месца называлася на стараславянскай мове плешшу (лысінай). Ад гэтага слова і стала называцца вёска Пляшкі.

Пасля 1964 года вёску Пляшкі сталі называць Партызанаўка. Але старыя людзі ўсе роўна называюць сваю вёску Пляшкі. А ў мясцовай бібліятэцы я нават адшукаў пра вёску верш:

Былі мы калісь пляшкоўцы,
Што тут доўга разважаць.
Назва тая і сягоння
Можа многа расказаць.
Хуценька гады мінаюць,
І ўжо ўнукі запрашаюць
Гасцей шчырых да сяла…
Ну, а *пляшка*, як заўсёды —
Пасярэдзіне стала.

### Пузавічы (Паўлава)

Раней вёска Паўлава называлася Пузавічы. Існуе легенда, што некалі адзін вясковец захацеў у лесе набраць золата, якое ў старым дубе збіралі і хавалі чэрці. Паехаў ён у лес, знайшоў чортаў чароўны дуб, груknуў па ім кулаком і закрычаў: «Сязьмі адкрыйся». Дуб пусціў



чалавека ў сваю схованку з каштоўнасцямі. Набраў ён золата, а выйсці з дуба не можа. Пачаў крычаць. Пачулі ў лесе крык чэрці, сабраліся каля дуба і вырашылі яму адпомсціць. Прыцягнулі вялікую бочку са смярдзючай вадой і заставілі яго піць. Спалохаўся вясковец чарцей і пачаў жлукціць брудную ваду. Жывот яго раздуўся, і стаў ён вельмі тоўстым. Чэрці паднялі яго і кінулі на воз. Ляжыць ён на возе, як бочка, і крычыць: «Маё, маё золата!». А людзі пытаюцца адзін у аднаго, што там такое. «Ды нейкі пузач на возе верашчыць», — адказваюць ім. З таго часу сталі мужыка называць Пузач, а дзяцей — Пузавічамі. З цягам часу і ўся вёска стала называцца Пузавічамі. Праўда, напачатку 1960-х гадоў яе перайменавалі ў вёску Паўлава.

### П'явіч-возера

#### *Легенда першая*

П'явіч-возера знаходзіцца ў лесе побач з вёскай Дзераўная. Яно схавалася ў дрымотным лесе, мае круглую форму з топкімі берагамі. Таму дабрацца да яго цяжка і нават небяспечна, бо ісці трэба па дрыгве. Травяны насціл пад нагамі заўсёды хістаецца і гушкаецца, а вада пастаянна сочыцца з няўстойлівага балотнага покрыва. Тутэйшыя людзі кажуць, што П'явіч-возера не мае дна. Ягоная цьмянасіняя, з бурым адценнем, без якіх-небудзь раслін вада і сапраўды здаецца бяздоннай.

Існуе паданне пра хлопчыка-пастушка, які на беразе П'явіч-возера нібыта натрапіў на незвычайную каляровую стужку. Хлопчык пачаў выцягваць яе з вады. Але што гэта? Над гладкім люстэркам возера паказаўся крыж, потым купал царквы. Напалохаўся малы, пабег у вёску. Потым мясцовы святар сказаў людзям, што гэта быў той шчаслівы выпадак, калі бязгрэшны хлопчык, каб не спалохаўся, мог выратаваць, вярнуць з небыцця калісьці патанулую вёску. А на гэтым вось месцы ўтварылася П'явіч-возера.

#### *Легенда другая*

Там, дзе цяпер возера, калісьці была вёска. У ёй жыла адна ўдава. Ніхто яе за чалавека ў вёсцы не лічыў. Пагарджалі ўсе, папікалі яе, смяяліся з яе. Бо нікому, бедная, слова супраць сказаць не асмель-

валася. Быў у яе сынок, якога яна заўсёды прасіла і вучыла, што не трэба злом за зло плаціць.

Аднойчы ў вёску прыйшлі два жабракі — стары і малы. Ніхто іх пераначаваць не пусціў, а пусціла толькі ўдава з сынам. Зайшлі яны ў хату, адпачылі з дарогі, гаспадыня дала перакусіць, а потым паклала іх спаць. Але перад сном стары жабрак кажа: «Пасля трэціх пеўняў я вас пабуджу. Мы хуценька будзем адсюль уцякаць, бо вёска вельмі ацяжараная людскімі грахамі, яна хутка праваліцца пад зямлю, а на яе месцы паўстане возера».

На світанку жабракі і ўдава з сынам пакінулі вёску. Праз пэўны час яна праваліласе пад зямлю, а на яе месцы раскінулася вялікае возера, дзе плавалі здаравенныя п'яўкі. Людзі з суседніх вёсак і мястэчак казалі, што гэта плаваюць душы тых злых вяскоўцаў. А возера яны назвалі П'явіч.

### Расколаты камень-валун

Расколаты камень ляжыць у лесе паблізу Альбярціна (мікрараён Слоніма, раней быў пасёлак) каля дарогі, калі ехаць на вёску Якімавічы. Ён больш за тры метры ў вышыню, тры з паловай метры ў шырыню і ў даўжыню.

Сярод слонімцаў бытуе легенда, што некалі тут жыў Янка-асілак. Аднойчы ён сустрэў дзяўчыну незвычайнай прыгажосці і моцна закахаўся. Дзяўчына таксама пакахала юнака. Але аб прыгажуні даведаўся двухгаловы змей і прыляцеў па яе. Насустрач змею выйшаў Янка-асілак і сказаў: «Трымаю бой на жыццё і смерць, але сваю дзяўчыну табе не аддам».

Янка-асілак і змей сышліся ў чыстым полі. Загрымелі мячы, і пачалася бойка. Яны доўга біліся, і Янка бачыць, што перамога зусім блізка. Але ён раптам адчуў, што моцна прытупіўся яго меч. «Эх, і патачыць няма чым! — усклікнуў Янка. — Хоць бы камень які пад рукой аказаўся».

І вырасла перад ім скала, як быццам шчытом закрыла. Не змог змей дастаць сваім мячом Янку, злосна секануў па камені што было сілы — раскалолася скала і выбіла меч з варожых рук. Тут Янка і дабіў змея. А расколаты валун да сённяшніх дзён ляжыць на слонімскай зямлі.



Пра слонімскі расколаты камень існуе і другая легенда. Неяк вяртаўся пан Пуслоўскі з лецішча ў свой маёнтак, што быў у Альбярціне. У дарозе яго застала навальніца. Фаэтон Пуслоўскага спыніўся каля самага каменя-валуна. У гэты момант моцна стукнула маланка і трапіла проста ў камень, які ад удару раскалоўся на дзве часткі.

Два тыдні ў маёнтку Пуслоўскіх гарэлі свечкі ў знак таго, што камень выратаваў пана. Ён пасля загадаў паставіць на камені крыж. А неяк слугі Пуслоўскага спрабавалі даведацца, на колькі метраў валун знаходзіцца ў зямлі. Яны пракапалі ўглыб на некалькі метраў, але асновы так і не знайшлі. Пан загадаў спыніць гэту работу і засыпаць яму. Што слугі і зрабілі.

Расказваюць людзі і трэцюю легенду пра расколаты камень. Калі на нашу зямлю прыйшлі бальшавікі, яны знішчылі многія гістарычныя помнікі. Гэта адбывалася і на Слонімшчыне. Нейкі камісар загадаў узарваць валун некалькім салдатам. А ў той час, магчыма, камень мясцовым насельніцтвам успрымаўся як рэлігійная святыня, што і стала прычынай такой нянавісці з боку атэістычнай улады. Заклалі бальшавікі пад камень узрыўчатку, ды самі падчас выбуху загінулі, а ад валуна адкалоўся толькі кавалак.

Сёння людзі кажуць, што некалі ў шчыліну расколатага каменя магла ўлезці толькі рука. А сёння шчыліна стала шырнёй больш за метр. Мабыць, быў і крыж на камені, бо зверху яго ёсць паглыбленне.

### Святое возера

Здаўна на Слонімшчыне існуе забытае паданне пра царкву, што праваліласе на беразе невялікага азярца пад назвай Святое, якое з цягам часу ператварылася ў невялікую сажалку.

А пад гэтым Святым возерам, згодна паданню, знаходзілася тая самая царква. Мясцовыя старажылы, калі ўспамінаюць сваё маленства, прыгадваюць царкоўны перазвон званіц, які, па іх словах, быў заўсёды чуваць з глыбіні Святога возера. Гэта паданне жыве і цяпер. А хто хоча пераканацца ў яго сапраўднасці, няхай паспрабуе прыкласці вуха да берага Святога возера — можа і пачуецца звон.

## Святы гай

У старажытныя часы нашы продкі пакланяліся сілам прыроды — узгоркам, камяням, азёрам, дрэвам і г. д. Высокія ўзгоркі і дрэвы лічыліся шляхам да неба. У святых гаях людзі прыносілі ахвяры язычніцкім божышчам. Там жа адбываліся і сходы жыхароў наваколля. Сляды такіх мясцін захаваліся да сённяшніх дзён. Каля вёскі Ніз ёсць таксама Святы гай. Так яго людзі і называюць — Святы гай. А каля вёскі Ягнешчыцы, людзі кажуць, у Святым бярозавым гаі закапаны скарб — куфар з грашыма, які заўсёды ахоўваюць сабакі. Так ніхто той скарб і не знайшоў у Святым гаі.

## Скуратава студня

Зямля каля вёскі Вялікая Кракотка некалі належала аднаму багатаму чалавеку. У яго была маленькая дачушка, якая амаль нічога не бачыла. Аднойчы ў гэтую мясцовасць завітаў жабрак. Хадзіў ён па наваколлі, хадзіў і заўважыў, што з невялікай гары капае вада. Жабрак падыйшоў да вады, выпіў крыху, а потым прамыў свае хворыя вочы. І… раптам стаў лепш бачыць. Ад шчасця ён закрычаў на ўсю вёску: «Людзі, глядзіце, тут лячэбная вада!». Багаты чалавек пачаў таксама лячыць дзяўчынку гэтай вадой. І праз пэўны час яго дачка стала бачыць. А звалі ў вёсцы гэтага багацея Скурат. Ён добраўпарадкаваў месца, дзе цякла вада, і пабудаваў там студню. З таго часу людзі і пачалі называць гэта месца Скуратава студня.

## Слонім

Існуе легенда, што на месцы, дзе сёння стаіць Слонім, былі палі і лясы. Калі людзі пачалі высякаць лясы і абрабляць зямлю, яны сталі знаходзіць шмат касцей. Гэта былі вялікага памеру косці мамантаў і сланоў. І потым людзі прыдумалі назву свайго паселішча ад знойдзеных, найперш слановых, касцей. Маўляў, тут некалі вадзілася шмат сланоў, дык і месца няхай будзе называцца Слонім.



## Сялявічы

Існуе легенда, што назва вёскі Сялявічы пайшла ад слова «ссяляцца». Дзе цяпер вёска — там некалі былі тры хутары. На гэтых хутарах людзі жылі далёка адзін ад аднаго. Але кожную раніцу яны выходзілі са сваіх хатаў і пачыналі дудзець кожны ў свой ражок. Гэта азначала, што ў суседзяў на хутарах усё добра.

Але аднойчы на адным з хутароў ражок маўчаў. Калі хутаране прыйшлі на той хутар, то ўбачылі жудасны малюнак: уся сям’я была забіта. Пасля такога выпадку людзям з суседніх хутароў стала вельмі страшна жыць. Таму яны вырашылі ссяліцца ў адно месца. Ад слова «ссяліцца» і пайшла назва вёскі Сялявічы.

## Тарасаў груд

Недалёка ад вёскі Вялікая Кракотка ёсць мясціна, якую людзі называюць Тарасаў груд. Існуе легенда, што Тарасаў груд некалі быў абнесены балотам і вадой. Толькі нейкі Тарас ведаў да той мясціны сцежку. Калі ён пасвіў кароў, то гэтай сцежкай пераганяў іх на тую сухую мясціну. Каровы там удосталь елі траву. А пан з-за гэтага вельмі злаваў, але сам ніяк не мог дабрацца на Тарасаў груд, каб пакараць Тараса.

## Трыбушкі

Ходзіць такое паданне, што жыхары гэтай вёскі вельмі любілі шмат есці. Харчаванне ў той час было даволі сціплае — хлеб, бульба ды садавіна. Але тыя людзі, якія працавалі на пана і пан іх карміў, стараліся з’есці як мага больш. З-за стала яны падымаліся з поўнымі трыбухамі. З той пары і замацавалася за імі мянушка «трыбухі», а вёску, дзе яны жылі, сталі называць Трыбушкамі. У 1964 годзе гэту вёску на Слонімшчыне перайменавалі ў вёску Мірная.

### Храм каля Збочна

Даўным-даўно праз вёску Збочна ехаў на возе невядомы вандроўнік. Ён вёз з Іерусаліма часцінку Крыжа Гасподняга. І калі воз параўняўся з узгоркам, на якім цяпер знаходзіцца мясцовы храм, валы з возам нечакана спыніліся. Вандроўнік пачаў падганяць, крычаць, біць валоў, але яны далей так і не рушылі. Вяскоўцы ўсё гэта бачылі і вырашылі на гэтым месцы пабудаваць храм Уздвіжання Крыжа Гасподняга.

### Чамяры

Існуе дзве народныя легенды наконт паходжання вёскі Чамяры Слонімскага раёна. Паводле адной з іх, яшчэ ў XIV стагоддзі ў даліне ракі Валобрынкі пасяліліся 17 сем'яў з урочышча Падоськавічы. З Падоськавічаў людзі ўцяклі ад эпідэміі чумы, якая там успыхнула. Гэтую хваробы тады і цяпер на Слонімшчыне старыя людзі называлі і называюць «чамер». Нават у сварцы сярод вяскоўцаў можна пачуць: «Ах, каб цябе чамер пабраў!».

Паводле іншай легенды, назва вёскі Чамяры паходзіць ад расліны чамярыцы, якой тады шмат расло ў пойме ракі Валобрынкі. І калі пачалася эпідэмія чумы, людзі з Падоськавічаў хаваліся ў чамярыцы. І ядавітая чамярыца іх выратавала ад чумы. Тады на гэтым месцы яны засталіся жыць. І назвалі паселішча Чамяры.

### Чапялейка

З дзяцінства памятаецца гэтая невядомая, страшная, загадкавая істота. Пачуў я пра яе ўпершыню ад свайго суседа дзядзькі Колі Пыцеля ў вёсцы Хадзявічы. Калі дзядзька прыходзіў з працы на абед, а мы ў гэты час сваволілі, дурэлі, то ён, уважліва гледзячы ў акно, казаў: «Вунь за аселіцай ідзе чапялейка з касою, ідзе проста да нас». Мы са страху хаваліся пад ложак і ціха сядзелі, пытаючыся ў дзядзькі Колі: «Дзе чапялейка і які ён?». Дзядзька Коля тады спакойна абедаў і нам казаў: «Чапялейка барадаты, стары, з касою ў руках». «А чаму ён з касою ў руках, а не з чапялою, ён жа — чапялейка?» — пыталіся мы. «Таму што чапялу згубіў, а вострую касу ён не згубіць», — казаў дзядзька.



Прайшло шмат гадоў. Пра чапялейку я неяк расказаў слонімскаму дзіцячаму празаіку і драматургу Аляксею Якімовічу. Яму спадабаўся гэты герой, і ён яго ўвёў у свае п'есы для дзяцей.

### Чатыры дубы

Каля вёскі Адэлькавічы Слонімскага павета ля курганоў раслі чатыры дубы. У канцы XIX стагоддзя засталіся толькі два. Ходзіць легенда, што ўсе гэтыя чатыры дубы былі зачараваныя. І той, хто спрабаваў ссячы адзін з гэтых дубоў ці зламіць галінку, ці нават узяць лісцік, які садзьмуў вецер, то абавязкова здарыцца якое-небудзь няшчасце — здохне конь, карова ці авечка. Аднойчы арандатар графа Завішы спілаваў два дубы, і ад гэтага ў яго падохла ўся жывёла. А тыя дубы, якія засталіся, акраплялі святой вадой, і ніхто іх ніколі не чапаў.

### Чортава балота

Паміж вёскамі Пералалока і Вострава жыў некалі ў балоце чорт. Балота было невялікае, з кіламетр у даўжыню. І таго, хто трапляў у балота, чорт часта вадзіў гадзінамі і не выпускаў. Аднойчы вясковец Ігнат з Пераралокі паехаў канём праз тое балота. Ехаў-ехаў ён некалькі гадзін, а потым бачыць, што нікуды ад вёскі зусім так і не ад'ехаў. Яго проста не пусціў чорт.

### Чортава вока

Балота за вёскай Азярніца людзі называюць Чортавым вокам. Існуе легенда, што некалі ў вёсцы жыў адзін дзяк. Ён вельмі любіў выпіць. А калі выпіваў, то яму заўсёды было мала. Тады ён браў у царкве што-небудзь каштоўнае і ішоў прадаваць у суседнія вёскі. Аднойчы дзяк узяў срэбны крыж і пайшоў у бліжэйшую вёску. Праходзячы праз балота, упаў і заснуў. Прачынаецца, а перад ім стаіць чорт і кажа: «Ну, мужык, прачынайся, пойдзем — там цябе зачакаліся!». Дзяк спалохаўся, пачаў хрысціцца, маліцца — не дапамагае, чорт падыходзіць усё бліжэй і бліжэй да яго. Успомніў ён пра срэбны крыж, дастаў яго і з крыжом пайшоў на чорта. Крыж пачаў свяціцца дзіўным агнём, ды так, што чорт акамянеў і знік пад зямлёй. З той

пары людзі называюць гэта месца Чортавым балотам. А дзяк больш ніколі не піў гарэлкі, а шчыра служыў у царкве.

### Чортаў камень

Раней каля вёскі Лапухова ва ўрочышчы Груд ляжаў Чортаў камень. Гэта было ўзвышанае месца, абнесенае вакол ровам. На вяршыні былі насыпы з вялікімі камянямі. А навокал распасціралася Пеннае балота — так называлі яго вяскоўцы. Мяркуецца, што ўрочышча Груд было паганскім свяцілішчам. А сам Чортаў камень меў значную велічыню. На ім ноччу збіраліся чэрці і танчылі розныя страшныя танцы. Як доказ таго, на валуне захавалася мноства розных слядкоў: і дзіцячай нагі, і авечых, і іншых невядомых істот. Але падчас савецкай меліярацыі Чортаў камень кудысці знік, і змяніўся выгляд урочышча Груд.

### Чортава месца

Адно з мясцін у лесе за слонімскім мікрараёнам Альбярцін гараджане называюць Чортавым месцам. Леснікі распавядаюць легенду, што Чортава месца існуе даўно. Той, хто на кані туды заедзе, ніколі назад не вяртаўся па той дарозе, па якой туды змог заехаць. Нават тыя людзі, якія добра ведалі гэты лес, яны ўсё роўна блукалі. Так людзі і назвалі тое месца Чортавым. Маўляў, чорт дарогі блытаў.

### Шпакова гара

З адменай прыгоннага права ў вёсцы Пятралевічы зямлю падзялілі паміж жыхарамі. Надзелы, якія падыходзілі да гары, што знаходзіцца недалёка ад вёскі, былі аддадзены сям'і Шпакоў (дарэчы, іх нашчадкі і па сённяшні дзень жывуць у вёсцы). У свой час Шпакі паставілі аберагальны крыж на дарозе, якая вяла да самай гары, пазней названай Шпаковай гарой. З таго часу вяскоўцы так і кажуць: «Працаваў ля Шпаковага крыжа» ці «Быў за Шпаковай гарой».



### Шылавіцкі камень

Па павер'ях, шылавіцкі камень дапамагаў ад галаўнога болю. Пасля таго як адна пані змачыла вадой са слядка вочы свайго сабачкі, камень страціў цудадзейную сілу. Калісьці каменю насілі манеты і палатно, але пазней камень разбіў нейкі вар'ят.

### Яруцічы і Яруцянка

Аднойчы ў пана Ружанскага быў банкет у сувязі з Калядамі. На ім прысутнічаў і мясцовы пан Руціч. Загулялася панства дапазна, і вяртацца дамоў прыйшлося ноччу. Ноч аказалася марознай і завірушнай. Коні, спалоханыя воўчым выццём, збіліся з дарогі. Раптам з завываннем завірухі пачуўся трэск лёду, і сані пайшлі пад ваду.

Пошукі пана Руціча былі доўгімі. І толькі вясной удалося знайсці патануўшых пана і рамізніка. Мясцовыя жыхары назвалі гэта месца на рацэ Ямай Руціча. Прайшло шмат гадоў, і на беразе ракі ўзнікла вёска. Яе таксама назвалі Ямай Руціча. Але з гадамі назва вёскі скарацілася і атрымалася толькі з аднаго слова — Яруцічы. А рэчку, дзе патануў пан, людзі назвалі Яруцянкай.

# Змест

**I**



**II**

**III**

